ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

20 сакавіка 1998 г. № 12/3940 Кошт 4 000 руб.





*Уладзімір Перлін, Жэром Перно і першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір Рылатка.*



*Лаўрэат конкурсу "Музыка надзеі" Уладзімір Сінькевіч.*

# Вясна — ад Мінска да Парыжа!

"Лепей адзін раз пачуць, чым сто разоў пабачыць", — міжволі перайначваю старую мудрую прымаўку, перабіраючы фотаздымкі з канцэрта, што быў у мінулую пятніцу.

"Лепей адзін раз пачуць..." Маю на ўвазе не толькі той канцэрт, што ладзіўся ў зале Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі і стаўся заключнай імпрэзай мінскага тыдня "Франка-беларускай музычнай вясны", незвычайнай міжнароднай акцыі, пра якую чытачы нашы маглі даведацца з двух папярэдніх нумароў тыднёвіка.

"Лепей адзін раз пачуць" — датычыцца натхнёнай ігры таленавітых удзельнікаў шасці канцэртных праграм, самой музыкі, а таксама шчырых слоў любові, захаплення, грому воплескаў, што спадарожнічалі франка-беларускаму фэсту ў Мінску.

І праўда, меў рацыю адзін з галоўных завадатараў гэтай франка-беларускай сустрэчы, лаўрэат міжнародных конкурсаў віяланчэліст Жэром Перно: удар леташняй восеньскай маланкі (якім стаўся для яго нечакана гарачы прыём мінскай публікі) спарадзіў у сёлетнім сакавіку нястрымную паводку мажорных пачуццяў, новых захапленняў, супольных планаў.

*(Працяг на стар. 2—3)*

## ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Жыццё змрочнае, надвор'е халоднае, цэны скачуць, зарплата такая, што ледзь звесці канцы з канцамі... Падумаеш так — і зусім можна ў роспач упасці. Тым не менш, калі ўважліва агледзішся наўкола, дык і жыццё не такое змрочнае, і надвор'е не надта халоднае, і цэны, хоць і скачуць, але во, аказваецца, і назад вяртаюцца... А ўсё таму, што ёсць яшчэ ў нас і падзеі культурнага кшталту. І калі мы пакуль працаваць як след не навучыліся, дык, дзякаваць Богу, адпачываць умеем і любім. У гэтым лёгка пераканацца, калі пазнаёміцца з культурнай інфармацыяй тыдня...***

### ПАШАНА ТЫДНЯ

Адразу тры вядомыя і паважаныя ў музычным свеце асобы атрымалі, паводле ўказа прэзідэнта, ганаровыя званні Рэспублікі Беларусь. Такім чынам, галоўны дырыжор Сімфанічнага аркестра Дзяржтэлерадыё Анатоль Лапуноў цяпер — заслужаны дзеяч мастацтваў, саліст сталічнай філармоніі і прафесар Акадэміі музыкі Ігар Алоўнікаў — народны артыст, а гітарыст Сяргей Анцішын, саліст Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі, — заслужаны артыст РБ.

### "БАЗАР" ТЫДНЯ

Чуткі пра тое, што сёлетні Міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар" адбудзецца ў Адэсе, аказаліся слушнымі толькі напалову. Вядомы фестывальны бос, маскоўскі рэжысёр С. Віннікаў і насамрэч вырашыў "раскруціць" грашавітую імпрэзу па славянскіх абсягах, абраўшы для пачатку дужа "славянскі" каларытны прыморскі горад... Тым часам у Мінску адбылося пасяджэнне чыннікаў "Славянскага базара-98" з удзелам прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі, які адназначна выказаўся за тое, каб традыцыйны фестываль захаваў сталае месца прапіскі. "Славянскі базар" у Віцебску будзе сёлета фінансавацца з агульнага бюджэту Саюза Беларусі ды Расіі, трансляцыі яго канцэртаў плануецца наладзіць па першым канале ГРТ. Дзяржаўную падтрымку арганізацыі віцебскага фэсту, як паведамілі СМІ, абяцае не толькі беларускі прэзідэнт, але і яго расійскі ды ўкраінскі калегі. У "базарнай тусоўцы" з'явілася новая фігура — папулярны расійскі кампазітар Ігар Крутой, якога прадставілі як дырэктара будучага фестывалю. "Крутое" будзе свята!

### ПРАФСАЮЗ ТЫДНЯ

У Мінску адбыўся ўстаноўчы сход Міжнароднай асацыяцыі каскадзёраў. Ініцыятыўную групу ўзначаліў Андрэй Голубеў, акцёр-каскадзёр кінастудыі "Беларусьфільм". Мэта новай арганізацыі — стварыць базу для сацыяльнай абароны каскадзёраў і прававую аснову прафесійнай атэстацыі.

### ГРАФІЦІ ТЫДНЯ

На прыблізна дзесяці аб'ектах горада Стоўбцаў зноў з'явіліся надпісы кшталту "Жыве Беларусь!" Гэтым разам стаўбцоўская міліцыя рэагуе на з'яўленне графіці спакойна. Прынамсі, крымінальных спраў па гэтым факце пакуль што не заводзілі.

### ВЯРТАННЕ ТЫДНЯ

Летась у Беларускай акадэміі мастацтваў на аддзяленні скульптуры быў абаронены дыплом па тэме "Помнік Стэфану Баторыю для Гародні". Аўтар прапанаваў свой праект на абмеркаванне гарадскім уладам і грамадскасці горада. Калі ідэя будзе прынята гарадзенцамі, помнік упрыгожыць плошчу перад Фарным касцёлам.

### ПЕРАЕМНАСЦЬ ТЫДНЯ

У Музеі сучаснай беларускай скульптуры імя Андрэя Бембеля 16 сакавіка адкрылася выстава твораў Сяргея Гумілеўскага, сына вядомага майстра, класіка нашага мастацтва Льва Мікалаевіча Гумілеўскага. Сяргей скончыў інстытут (цяпер БелАМ) у 1987 годзе. З таго часу працуе ў станковай і манументальнай пластыцы. Ён аўтар некалькіх скульптурных партрэтаў, устаноўленых у нясвіжскім парку, непадалёк ад славутага палаца.

### ПРЭМ'ЕРА ТЫДНЯ

"Лэдзі Кронкі і мышы" паводле "Дарагой Памэлы" Д. Патрыка апанавалі малую сцэну Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы 19 сакавіка. Спектакль рэжысёра Якава Натапава, — пра яго, дарэчы, у прэсе ўжо памеркавалі як пра спаборніцы ("Дарагая Памэла" ў пастаноўцы Барыса Уторава толькі-толькі прычакала гледачоў у Тэатры музычнай камедыі). Перадусім, напэўна, з драматургіяй самога Д. Патрыка: рэжысёр так адметна пераасэнсаваў гісторыю кабеты, якую гурт прайдзісветаў ледзь не выправіў да прабацькоў, што ў спектаклі нават з'явіўся новы тэкст! Ад самога рэжысёра... Зрэшты, акцёрскі склад (Аўгуст Мілаванаў, Галіна Талкачова і абазнаны купалаўскі ансамбль) пачуваецца натуральна, арганічна і прэм'ерна. Яго (склад) падтрымлівае сцэнограф Яўген Волкаў і мастак па касцюмах Таццяна Лісавенка. Апошняе слова, як заўжды, за гледачамі.

### КНІГА ТЫДНЯ

Ёй несумненна стаў аднатомнік выбранага Уладзіміра Жылкі, які з'явіўся ў серыі "Беларускі кнігазбор", што набывае ўсё большую павагу і папулярнасць у аматараў беларускага прыгожага пісьменства. Дагэтуль, як вядома, у "БК" выйшлі тамы Яна Чачота, Максіма Багдановіча, Вацлава Ластоўскага, а таксама зборнік "Беларускія летапісы і хронікі". Усе кнігі, вартыя ўвагі. Тым не менш і кніга У. Жылкі ў "Беларускім кнігазборы" не губляецца, бо паэт гэта — адзін з найцікавейшых нацыянальных творцаў у нашай літаратуры, якога, на жаль, масавы чытач ведае слаба.

---

АНОНС

## "Грамніцам" — пяць гадоў!

***24 сакавіка падчас рэспубліканскага фестывалю "Мастацтва дзецям і моладзі" ў Дзяржаўным маладзёжным тэатры эстрады адбудзецца прэм'ера. Новую праграму прадставіць ансамбль "Грамніцы" Беларускага універсітэта культуры.***

***Расказвае мастацкі кіраўнік калектыву Уладзімір ЗЯНЕВІЧ:***

— Удзельнікі "Грамніц" — гэта прадстаўнікі маладога пакалення творцаў Беларусі, якія адчулі вострую патрэбу ў наш складаны урбанізаваны век звярнуцца да адвечнага, традыцыйнага, таго, што не падпарадкоўваецца ўплывам моды, зменлівым патрэбам спажывецкага грамадства. З вялікай любоўю да нацыянальнай мастацкай спадчыны яны імкнуцца выйсці на ўзровень Чалавека Творчага, спазнаць і засвоіць традыцыйную музычную культуру сваёй зямлі, данесці да ўсіх хараство і багацце беларускай песні.

Імя "Грамніцы", абранае калектывам, невыпадковае. Грамніцы — гэта свята абуджэння прыроды пасля доўгага зімовага сну, а для ўдзельнікаў групы яшчэ і сімвал прыгажосці, творчага гарэння і павагі да культурнай спадчыны свайго народа.

Сёлета ансамблю спаўняецца пяць гадоў. Быў заснаваны ён у 1993 годзе на кафедры беларускай народнапесеннай творчасці Беларускага універсітэта культуры. У складзе "Грамніц" — студэнты розных гадоў навучання, прафесійныя музыкі, таксама і выкладчыкі БУКа. Ансамбль шмат выступае на Беларусі і за яе межамі, актыўна ўдзельнічае ў міжнародных фальклорных фестывалях. Гастролі былі ў Галандыі, Бельгіі, Германіі, Францыі, Польшчы. У 1997 годзе адна з буйных фірмаў грамзапісу ў Еўропе "AUVIDIS" выдала першы кампактдыск "Грамніцаў", прэзентацыя якога з поспехам прайшла ў Францыі і Бельгіі.

За час сваёй творчай дзейнасці ансамбль падрыхтаваў і выканаў 53 песні. Іх жанравы дыяпазон ахоплівае тры гісторыка-стылявыя пласты: ранні традыцыйны фальклор (каляндарна-абрадавы, сямейна-абрадавы); пазаабрадавая лірыка (у тым ліку мужчынская выканаўчая традыцыя); беларускія канты і рэлігійныя гімны. Удзельнікі ансамбля імкнуцца з максімальнай дакладнасцю перадаць характэрную для беларускага фальклору спецыфічную манеру выканання.

Новая праграма "Грамніц", названая "Адлюстраванне", — гэта вынік спалучэння стылістыкі традыцыйнага фальклору і сучасных музычных формаў, спроба мастацкага асэнсавання нашага часу праз люстэрка традыцыйнага і сучаснага вачамі нашай моладзі.

**Запісала Ларыса ДОЎНАР**

---

МЕРКАВАННЕ

## Тусоўка

Не так даўно адзін "новы беларус", чалавек далёкі ад беларускай культуры, тым больш ад яе праблем, але з тых, хто жадае быць "у курсе спраў", спытаў у мяне:

— Ну, хто цяпер з беларускіх пісьменнікаў самы модны?

Каб не расчараваць свайго суразмоўцу, я назваў яму два-тры прозвішчы і тут жа пачуў новае пытанне:

— А дзе вы цяпер тусуецеся?

Пакуль я спрабаваў уцяміць, што значыць "тусуецеся", ён перапытаў:

— Ну, у вас жа ёсць свая тусоўка?

І тут я зразумеў. Я зразумеў, што больш дакладнае слова, каб ахарактарызаваць наш саюз, адразу і цяжка знайсці.

Прычым, у гэтым слове няма нічога крыўднага, тым больш абразлівага, паколькі яно не пасягае на "самае святое" — уласную творчасць кожнага сябра СП, не дае ёй ніякіх ацэнак.

У слове "саюз" чуецца нешта ўрачыстае, бачыцца нешта маналітнае, што адразу асацыіруецца з вядомым пачаткам яшчэ не забытага намі гімна: "Саюз непарушны..."

У слове "тусоўка" чуецца сяброўская гамонка ў якой-небудзь кавярні, ці на якой-небудзь літаратурнай вечарыне. І нічога табе маналітнага, урачыстага. Гэткі клуб па інтарэсах. Пагаманілі, пажаліліся на складанае жыццё — і разышліся.

Вядома, ад слова "саюз" няпроста адвыкнуць. Хаця б таму, што, прымяняючы яго ў адносінах да самога сябе, з'яўляючыся часткай гэтага самага саюза (ці сябрам альбо членам — тут ужо як каму больш падабаецца), ты як бы адчуваў сваю прыналежнасць да нечага выключнага, недаступнага да простых смяротных. І няцяжка прадбачыць, што на восьвось маючым адбыцца пісьменніцкім з'ездзе гаворка ў асноўным будзе весціся якраз вакол гэтага слова — разваліваецца, бяздзейнічае і г. д. Няцяжка прадбачыць, што нямала папрокаў давядзецца выслухаць Васілю Зуёнку і яго камандзе. Яно і зразумела — выходзячы на трыбуну, які выступоўца стане займацца самалупцаваннем: я бяздзейнічаю, я разваліваю... Хоць дзіўная рэч: амаль што ўсе сябры саюза задзейнічаныя — хто ў радзе, хто ў розных камісіях, ужо не кажучы пра секцыі — сіла! І што? Куды пасля з'езда дзяюцца ўсе палымяныя выступоўцы? І чаму іх праведнага гневу хапае толькі на час работы з'езда? Пасля наступае зацішша і ўсеагульная "тусовачная" абыякавасць.

Друкуючы вострапалемічны артыкул Сяргея Дубаўца, лімаўцы, відаць, спадзяваліся, што торкаюць кіем у сонны мурашнік.

Той, хто разлічвае заняць месца старшыні Саюза пісьменнікаў, трэба думаць, таксама спадзяецца нешта змяніць, актывізаваць і г. д.

І, хутчэй за ўсё, у рэшце рэшт разумее: саюз гэта я і мая каманда, усе астатнія — тусоўка.

Хто ўзваліць на свае плечы гэты груз? І ў які бок возьме накірунак? І ці не станем мы пасля кідаць яму ў спіну колкія, але запозненыя папрокі?

**Алесь БАДАК**

---

## Вясна — ад Мінска да Парыжа!

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

Каб, аднак, не паўтарацца ўжо сказанае ў "ЛіМе" раней, згадайма заключны мінскі канцэрт, сапраўдную творчую і эмацыйную кульмінацыю тыдня.

Невыпадкова зладкавалі яго ў каледжы: менавіта тут, у класе знанага педагога, заслужанага артыста Беларусі Уладзіміра Перліна, вучацца тры выдатныя, надзвычай дараўітыя віяланчэлісты, лаўрэаты розных выканаўчых конкурсаў. З імі — Георгіем Анішчанкам, Аляксеем Кісялёвым ды Уладзімірам Сінькевічам — падчас восеньскага візіту ў Мінск пазнаёміўся Жэром Перно. Узрушаны майстэрствам юных выканаўцаў, ён паказаў касету з відзазапісам іх канцэрта сваім французскім калегам. Вор-р!.. Ну, а наступствы — вядомыя: падтрымка з боку Міністэрства замежных спраў Францыі, дыпламатычных колаў і недзяржаўных структур у правядзенні першай міжнароднай музычнай акцыі...

Канцэрт у каледжы вёў строгі, дасціпны і элегантны Настаўнік — Уладзімір Перлін. Напачатку выступалі ягоныя вучні — кожны з разнастайнай і складанай сольнай праграмай, у суправаджэнні канцэртмайстра Любові Пятровай.

Лаўрэат прэстыжнага юнацкага Міжнароднага конкурсу імя П. Чайкоўскага 12-гадовы Лёша Кісялёў займаецца ў класе У. Перліна пяць з паловай гадоў. Які не падзіцячы сталы драматызм гучаў у голасе ягонай віяланчэлі, калі граў ён бахаўскі Канцэрт і хрэстаматыйны "Накцюрн" П. Чайкоўскага! З якой віртуознай дасканаласцю, дакладнасцю стварыў ён вобраз "Палёту чмяля" М. Рымскага-Корсакава! Якой чысцінёй поўнілася кантылена ў Шуманавых "Мроях"!

Самы юны выхаванец У. Перліна, 11-гадовы Валодзя Сінькевіч, на сцэне выглядае мо крыху сталейшым за свой узрост. І гук ягонай віяланчэлі — адмыслова густы, нейкі... мудры. Настаўнік не робіць сакрэту з таго, што Валодзя — унучаты пляменнік Уладзіміра Караткевіча. Асабліва ўразлівыя слухачы нават знаходзілі ў жывой, багатай мініцы юнага музыкі рысы незабыўнага Уладзіміра Сямёнавіча — "нешта фамільнае". Зрэшты, гэта не больш чым пікантная дэталь біяграфіі, да таго ж, незразумелая французскім профі, якія проста зачараваны пазіралі на маленькага музыку. Ён іграў выбітна: Дворжакаву "Мелодыю", "Прасніцу" Д. Попера, "Арыю" Г. Ф. Гендэля, "Ронда" Л. Бакерыні.

"Самым старым" быў у гэтай кампаніі Гарык Анішчанка, 13-гадовы сямікласнік. Зноў жа, усё цудоўна: Вебер, Куперэн, Гоэнс... Не школьнік: артыст!

Сюрпрыз, якім "пачаставалі" публіку, нагадаў вядомы тэлегледачам усяго свету канцэрт трох тэнараў — калі спявалі разам Лучана Паваротці, Пласіда Дамінга ды Хасэ Карэрас. На тры віяланчэлі "распелі" юныя музыкі "Раманс" А. Яўлахава.

І гэта быў не апошні сюрпрыз. Другое аддзяленне канцэрта пачалося з выступлення... французскага дыпламата, Даменіка Шасэ. Ён наведаўся ў Мінск па службовых справах, але не ўстрымаўся ад спакусы спрычыніцца да святочнай, натхнёнай імпрэзы: спадар Даменік, прадстаўлены як скрыпач-аматар, у партнёрстве з выдатным беларускім піяністам Цімурам Сергяненем выканаў Санату К. Дэбюсі. "Было б цудоўна, каб нашы дыпламаты гэтак гралі!" — пракаментаваў гэтае выступленне У. Перлін.

Дэбютаваў яшчэ адзін інтэрнацыянальны дуэт: наша госця альтыстка Інэс Карсанці ды лаўрэат міжнародных конкурсаў, выхаванец каледжа пры Беларускай ака-

АДГАЛОСКІ

# Быў чырвоны дзень...

Неяк дзіўна прайшоў у Беларусі Дзень Канстытуцыі. Нават у сталіцы нічога не нагадвала пра дзяржаўнае свята. Толькі праспект "упрыгожваў" чырвоны транспарант з віншаваннем і невялічкая група апазіцыянераў крочыла традыцыйным маршрутам. Здавалася, дэманстранты перабыталі нешта і выйшлі на вуліцу не ў той дзень: ні вялікай колькасці дзяржаўных сцягоў, ні музыкі... Не было нічога, што хоць неяк нагадвала б пра падзею, якая адбылася некалькі год таму. 15 сакавіка 1994 года ў незалежнай Беларусі з'явіўся свой Асноўны закон, які адразу ж быў прызнаны ў свеце як "адпавядаючы ўсім міжнародным стандартам". Змяненні і дапаўненні ў Канстытуцыю былі ўведзены праз рэферэндум зусім не ў сакавіку і зусім не пятнаццатага. З таго часу дакументы, прынятыя ў 94-м і 96-м гадах, выглядаюць рознымі канстытуцыямі, а адно з галоўных дзяржаўных свят "згубіла твар".

У нядзелю тых, хто не прызнае змяненняў і дапаўненняў у Асноўным законе, для правядзення святочных мерапрыемстваў аб'ядналі некалькі апазіцыйных партый. Трэба заўважыць, што зусім невыпадкова імі сталі Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя "Народная Грамада", АГП і беларуская партыя працы. Менавіта гэтыя сілы выступаюць за правядзенне ў наступным годзе новых прэзідэнцкіх выбараў і выкарыстоўваюць разам з іншымі лозунг "Дэмбель-99". З такой пастаноўкай пытання катэгарычна не згодзен БНФ. Яго кіраўніцтва выступае супраць выбараў па дзеючай канстытуцыі, за скасаванне пасады прэзідэнта. Рыхтуе БНФ і свае акцыі. Таму сцвярджэнне каментатара АТН Л. Кавалёвай пра нейкую сварку на тэму "Каму арганізоўваць нядзельны мітынг", недакладнае. Беларускае тэлебачанне, дарэчы, у той дзень наогул пастаралася ў падачы скажоных фактаў. Вось, напрыклад, тая ж журналістка БТ сцвярджае, што "прадстаўнікі праваахоўных органаў не праяўлялі цікавасці да акцый апазіцыі" і што яна не змагла ўбачыць ніводнага міліцыянта. Магчыма, не кожны здольны пазнаць супрацоўнікаў у цывільным, але як можна не ўбачыць шыракаплечых АМАПаўцаў? Хоць насамрэч усё проста: журналістаў БТ сапраўды не было відаць, таму паказалі нам хутчэй за ўсё кадры, знятыя шматлікімі відэаапаратамі ў пагонах і без. Міліцыянты ж, напэўна, і падлічвалі прысутных — 700 чалавек. Па інфармацыі радыё "Свабода", у шэсці і мітынгу бралі ўдзел пяць тысяч грамадзян. Схлусілі абедзве крыніцы. Можна зразумець, навошта спатрэбілася дзяржаўнаму тэлебачанню скажаць колькасць прыхільнікаў Канстытуцыі-94, але "прыпісаныя" беларускай радыёстанцыяй да апазіцыянераў тры тысячы чалавек у дадзеным выпадку нішто іншае, як славутыя "мёртвыя душы", і карысці ад іх ніякай.

Мітынг, што адбыўся каля Опернага тэатра, мог уразіць хіба што чалавека, які ўпершыню патрапіў на падобныя мерапрыемствы. Словы на іх звычайна маюць малое значэнне. Галоўнае — яднанне аднадумцаў, факт дэманстрацыі пратэсту. Адзінае, што рэзала слых, — гэта кепскае валоданне беларускай мовай (выключэнне — М. Статкевіч і П. Знавец).

Рэзалюцыя мітынгу, прынятая, як заўсёды, адзінагалосна, акрамя патрабавання вяртання да Канстытуцыі-94, утрымлівала зварот да Вярхоўнага Савета. Парламент, на думку аўтараў паперы, абавязаны прызнаць вынікі рэферэндуму-95 незаконнымі і вярнуць дзяржаўны статус нацыянальным сімвалам.

Адзначыўшы такім чынам дзяржаўнае свята, апазіцыянеры разышліся. І толькі лідэр БСДП (НГ) Мікола Статкевіч па "просьбе" праваахоўнікаў накіраваўся ў пастарунак, дзе яму выпісалі чарговае "запрашэнне" ў суд.

**Вадзім ДОЎНАР**

АБСЯГІ

*ГРОДНА...*

## Ці загляне сонца?

У Шчучынскім раёне ёсць вёскі Гернікі, Баяры, Рачаўшчына, Галавічполе, Рыбакі, Лябёдка. Гэта ўсё спадчына Іваноўскіх.

У Лябёдцы пустуе дом (там цяпер склад інтэрната дзяцей-інвалідаў), дзе друкавалася на шапірографе першая беларуская газета "Свабода", дзе рос і набіраўся сілы Вацлаў Іваноўскі — наш асветнік, забіты і пахаваны ў Мінску ў 1943 годзе, заснавальнік (сумесна з братам) суполкі "Загляне сонца і ў наша ваконца", выдавец і сааўтар першага беларускага лемантара, першых кніг Купалы... У Лябёдку пешкі хадзіла Алаіза Пашкевіч, прыязджала на практыку з Варшаўскіх аграномічных курсаў Зоська Верас.

Дом знешне добра захаваўся: сецэсійныя рашоткі, блакітныя фрэскі над вокнамі, вузкія вуглавыя балконы, тэраса, над ёю — аркер. Чырвоная дахоўка. Калоны. Захаваліся дзве печы ў пакоях, камін у вестыбюлі, пліты падлогі, лесвіца.

Стаяць каля дома вельмі старыя дрэвы. Сажалка. Хлеў, падобны на той, што ў Кушлянах у Багушэвічаў.

Прыязджаюць у Лябёдку са свету дзеці і ўнукі ўсіх Іваноўскіх: паляка Ежага, літоўца Тадаса. Бывае Ханка з Варшавы — дачка нашага Вацлава.

Пакуль палац яшчэ можна адрамантаваць і зрабіць нацыянальным помнікам рэспубліканскага значэння.

## Выстава на дзень

У Гродне да рэспубліканскай нарады па пытаннях аграпрамысловага комплексу на пляцы перад Палацам культуры хімікаў працавала выстава вырабаў прадпрыемстваў рэспублікі — выстава аднаго дня. Было на што паглядзець пад вясёлы канцэрт па заяўках перадавікоў вытворчасці. Асабліва ўразіла машына "Палессе - РОТАР-КЗС-10" вытворчасці Гомсельмаша. Але мы так і не разабраліся, якую функцыю яна выконвае на калгасных палетках.

**Алена ГАЙКО**

*ГОМЕЛЬ...*

## Напісалі кнігу самі

"Паэзія дзяцінства" — так назвалі сваю кнігу дзеці Светлагоршчыны. Дапамагла юным паэтам сабраць вершы ў адну кнігу метадыст раённага аддзела адукацыі В. Новік. Аўтары гэтага выдання з'яўляюцца членамі раённага літаратурнага аб'яднання "Радасць", а вучацца ў Хутарской, Давыдаўскай, Парыцкай, Дуброўскай і іншых школах раёна.

Адбылася і прэзентацыя "Паэзіі дзяцінства". У зале пасяджэнняў райвыканкама слухачамі юных аўтараў былі (акрамя бацькоў) іх равеснікі з райцэнтра.

## Вучні аднаго настаўніка

Выстава маладых мастакоў Яўгена Аўрусевіча, Таццяны Голдусь, Вольгі Казлоўскай, Людмілы Камінскай, Юлі Кузьмянцовай, Канстанціна Прусава і іншых працуе ў Гомельскім дзяржуніверсітэце імя Ф. Скарыны. У экспазіцыі больш за шэсцьдзесят работ жывапісу і графікі. Усе гэтыя мастакі з'яўляюцца навучэнцамі Гомельскага філіяла Мінскага мастацкага вучылішча пры Беларускай Акадэміі мастацтваў, вучнямі аднаго настаўніка — мастака Пятра Лук'яненкі.

## Пісьменнікі — бібліятэкарам

На абласных курсах работнікаў культуры гэтым разам павышаюць свае веды бібліятэкары вобласці. Лекцыі ім чытаюць не толькі выкладчыкі ВНУ і кіраўнікі вобласці, але і мясцовыя пісьменнікі. Напрыклад, сваімі думкамі аб прапагандзе друкаванага слова падзяліўся Васіль Ткачоў. Слухачы курсаў мелі магчымасць атрымаць з аўтографам новыя кнігі пісьменніка "Карасі на пяску" і "Непаразуменні".

**Ігар ЛЯСНЫ**

*ВІЦЕБСК...*

## Новы літсакратар

На справаздачна-выбарным сходзе абласнога саюза пісьменнікаў адбыліся гарачыя дэбаты наконт прапаганды беларускай мовы і культуры, грамадзянскай пазіцыі літаратара. У выніку тайнага галасавання сакратаром аддзялення абраны паэт з Глыбокага Алесь Жыгуноў. Яго папярэднік Алег Салтук працаваў на гэтай пасадзе 18 год.

## "Славянскі базар" укралі?

Міжнародная карпарацыя "Славянскі базар", штаб-кватэра якой знаходзіцца ў Маскве (узначальвае яе спадар Віннікаў), абвясціла аб тым, што VIII Міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар" адбудзецца гэтым летам не ў Віцебску, а ў Адэсе ці Саратаве.

Беларускі бок, які прадстаўляе ў карпарацыі Віцебская дырэкцыя фестывалю (на чале з Радыёнам Басам), з гэтым не пагадзіўся. Вядома, што прэзідэнт Беларусі выдаў указ аб зацвярджэнні аргкамітэта фестывалю на чале з намеснікам прэм'ер-міністра У. Замяталіным. Фестываль "Славянскі базар" у Віцебску плануецца на ліпень.

## Бенефіс "караля Ліра"

У Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Я. Коласа прайшоў бенефіс народнага артыста рэспублікі Леаніда Трушко. Выдатнаму выканаўцу роляў Мікіты ва "Уладзе цемры", Дзерваеда ў "Радавых", Глебава ў "Старым доме", шэкспіраўскага караля Ліра споўнілася 60 год. Палову жыцця акцёр пражыў на купалаўскай сцэне. Л. Трушко сыграў больш за сто роляў. А свой бенефіс назваў так: "Вечар заўтрашняга дня".

## Прэзентацыя альбома

Віцебскі мастак Ісаак Бароўскі пакінуў пасля сябе багатую спадчыну. Цяпер у фондах мастацкага музея ў Віцебску захоўваецца больш чым 70 яго жывапісных і графічных работ. І. Бароўскі вядомы сучаснікам як майстар партрэта. Прымаў удзел больш чым у 60 выставах.

Днямі ў музеі прайшла прэзентацыя альбома "Мастак Ісаак Бароўскі". Аўтарамі альбома сталі старшы выкладчык мясцовага дзяржуніверсітэта А. Лісаў, журналіст А. Падлінскі, мастак А. Цынкалаў і фотамайстар М. Шмерлінг. У зале музея адбылася выстава графікі Бароўскага.

**Святлана ГУК**

РЭПЛІКА

# Пад заслону

Што М. Пінігін не атрымаў у Мінску кватэры і мае праблемы іншага плана, чуткі хадзілі даўно. Маўляў, толькі і застаецца што ехаць у Расію, куды яго не раз запрашалі. І вось пагалоска стала рэальнасцю: заключаны кантракт з Пецярбургскім БДТ імя Г. Таўстаногава.

Рэжысёру заставалася адно стукнуць дзвярыма ды кінуць заключную рэпліку "пад заслону". Такая рэпліка прагучала ў гаворцы з Ж. Лашкевіч у мінулым нумары "ЛіМа". І што ж мы бачым? Сярод вінаватых у творчых і жыццёвых праблемах рэжысёра аказалася і беларуская драматургія! М. Пінігін і не думае далікатнічаць: яму "надакучыла пачувацца закланнікам нацыянальнай культуры, літаратуры". Тым самым, хацеў ён таго ці проста не стрымаўся ў крыўдзе, але паасобку і агулам, што называецца, сплямлены ўсіх — і Крапіву з Макаёнкам, і Матукоўскага з Петрашкевічам, і Дударава, і нават Купалу, чыю п'есу з поспехам увасобіў на Купалаўскай сцэне.

Справа, вядома, не ў персаналіях, творчыя схільнасці палягаюць у сферах тонкіх. З драматургіяй, як і з усім нацыянальным, "не похорошему мил, а по милу хорош". Толькі міжволі зараз узнікае пытанне: значыць бел-чырвона-белае палотнішча, якое святочна лілося ў фінале "Тутэйшых" і ад якога соладка замірала сэрца, — усяго толькі прыдумка афарміцеля, а не яго, пастаноўшчыка, свядомы жэст, пазіцыя?

А з другога боку, хто каго браў за горла і прымушаў ставіць мясцовых аўтараў? Няўжо і Луцэнку "ссільнічалі": бярыся за "Раскіданае гняздо"? І Раеўскага нечым асаблівым спакусілі, каб ён вока паклаў на "Вітаўта"? Ды і перакладных п'ес у нас, здаецца, не забаронены. Працэнт нацыянальнага ў тэатральных афішах рэспублікі настолькі нязначны, што "драматургічны" аргумент у рэжысёрскім слове пад заслону выглядае па меншай меры недарэчным. Нечага, відаць, ён не захацеў вынесці на людзі. А дарма...

**Г. К.**

дэміі музыкі, піяніст Сяргей Смірноў. Найскладаная скрыпічная Саната Ц. Франка (версія для альта) была выканана бліскуча!

Нарэшце — заключная аддзяленне: зусім нечаканае, сур'ёзнае і вясёлае адначасова. Паселі радком чатыры (!) віяланчэлісты, каб пайграць разам, а тут Уладзімір Паўлавіч падаў знак — і тры іголныя вучні, без раяля, зайгралі бетховенскі "Менуэт". Прэм'ера. У падарунак Жэрому. Потым усе чацвёра весела настройвалі інструменты. Потым разам гралі: "Адажыо" Ф.Шуберта — з канцэртмайстрам Любоўю Пятровай, "Рэквіем" Д. Попера ды фрагменты з оперы Ж. Бізэ "Кармэн" — з французскім піяністам Жэромам Дзюкро. (Уяўляеце іх усіх разам — гэткія пяць тарзадораў з рашучымі й радаснымі тварамі!).



*Задумалі сыграць квартэтам...*

"Лепей адзін раз пачуць..." Таму не варта пакутаваць, перакладаючы музычныя ўражанні на мову газетнай прозы. Пачакайма наступнай сустрэчы з юнымі артыстамі ў канцэртнай зале. Ёсць спадзеў, што яны выступяць у Мінску пасля вандроўкі ў Парыж, дзе гэтымі днямі, як вядома, працягваецца "Франка-беларуская музычная вясна".

Тыдзень таму, калі аціхлі авацыі публікі, на сцэну выйшаў радца па культуры, навуцы і супрацоўніцтве пасольства Францыі ў нашай краіне — Франсуа Ларан. Сказаў добрае слова на дарогу, уручыў неабходныя дакументы, авіябілеты. І назаўтра У. Перлін, Г. Анішчанка, А. Кісялёў, У. Сінькевіч ды канцэртмайстар Л. Пятрова выправіліся ў вандроўку.

На панядзелак планаваўся канцэрт у ЮНЕСКА, затым шэраг дабрачынных выступленняў з французскімі калегамі, наведванне кансерваторыі 18-й акругі Парыжа, заняткі разам з навучэнцамі Ж. Перно, падарожжа на двух сямімесных "Рэно" па прадмесцях Парыжа, наведванне "Дыснейлэнда", знаёмства з "Футураскопам", прагулкі на караблiках па Сене, візіт у оперу і ў музычны гарадок французскай сталіцы, сустрэча ў Беларускім пасольстве... І ўсё гэта — да канца сакавіка.

Праўду кажуць: музыка — лепшы дыпламат і лёгка робіць тое, што не заўсёды ўдаецца палітыкам. Ды арганізатары першай "Франка-беларускай музычнай вясны" ўсё ж спадзяюцца, што наступным разам шчырая мелодыя сяброўства дзвюх культур будзе падтрымана і на самым высокім дзяржаўным узроўні.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота К. ДРОБАВА*

## Брашура пра вучонага

**У Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі заўсёды пачціва адносіліся да сваёй гісторыі, брашура, якая выйшла ў канцы 1997 г., — яшчэ адно таму сведчанне. Гэта чарговае выданне з серыі "Выдатныя педагогі і навучэнцы БСГА" называецца "Жизнь, отданая зоотехнической науке". Яна прысвечана Канстанціну Сонцаву, вучонаму, які ўнёс вялікі ўклад у развіццё заатэхнічнай навукі ў Расіі, Беларусі і пакінуў яркі след у гісторыі акадэміі як яе рэктар (1964—1977 гг.). Брашура напісана калектывам аўтараў пад рэдакцыяй доктара сельскагаспадарчых навук, прафесара А. Цыганава. У ёй апавядаецца аб жыццёвым шляху, навуковай і грамадскай дзейнасці чалавека, якога можна смела назваць адным з лепшых прадстаўнікоў інтэлігенцыі сярэдзіны XX ст. Асаблівая ўвага аддадзена таму перыяду жыцця К. Сонцава, калі ён кіраваў акадэміяй, — менавіта ў гэты час БСГА атрымала міжнароднае прызнанне як цэнтр аграрнай адукацыі і сельскагаспадарчай навукі.**

**М. СТУДНЕВА,**
**супрацоўнік Горацкага гістарычна-этнаграфічнага музея**

## "Гульні на вадзе" і сур'ёзныя справы



**8 студзеня тэатру-студыі "Кураж", заснавальнікам якой з'яўляецца Беларускае таварыства інвалідаў, споўнілася ўсяго два гады, але, нягледзячы на такі юны ўзрост, у гэтага творчага калектыву шмат добрых пачынанняў. Тэатр-студыя плённа супрацоўнічае з акцёрамі, рэжысёрамі і мастакамі з розных тэатраў сталіцы, пры ёй праводзяцца заняткі па арттэрапіі з інвалідамі — дзецьмі і дарослымі. "Кураж" — адзіны ў нашай краіне тэатр, што займаецца гэтай праблемай і паспяхова супрацоўнічае з Міжнародным таварыствам арттэрапеўтаў і артпедагогаў "Метамарфоза". Але, канечне ж, тэатр ёсць тэатр і тут не забываюць пра творчыя справы. За два гады падрыхтавана некалькі спектакляў дзяцей, у тым ліку і лялькавых. Не абыдзены ўвагай і дарослыя. Падарунак ім — спектакль "Гульні на вадзе" па п'есе Л. Карсунскага "Лодка" ў інсцэніроўцы і пастаноўцы Т. Пацай.**

*Сцэна са спектакля "Гульні на вадзе". Жанчына — актрыса тэатра-студыі кінаакцёра А. Пролiч, Мужчына — артыст тэатра-студыі "Кураж" А. Багданаў.*

*Фота У. КРУКА*

## Камісія па літаратурнай спадчыне

**Сакратарыят Саюза беларускіх пісьменнікаў зацвердзіў камісію па літаратурнай спадчыне Аляксандра Капусціна. Старшынёй яе прызначаны В. Ткачоў, сакратаром — удава пісьменніка Э. Капусціна. У камісію ўвайшлі таксама старшыня Жлобінскага гарвыканкама У. Ерафееў, У. Ліпскі, А. Жалязоўскі, Л. Левановіч, Алесь Марціновіч, галоўны рэдактар жлобінскай аб'яднанай газеты "Новы дзень" П. Шутаў.**

АДГАЛОСКІ

# Хто ж сапраўды панясе святло?

Шаноўны Ф. Шкірманкоў, прачытаўшы мой артыкул у газеце "ЛіМ" "Запаліць святло ў нашых душах", паставіў вельмі слушнае пытанне: а хто ж панясе гэтае святло ў народ?

Яшчэ з даўніх, апостальскіх часоў святло розуму, веры і надзеі несла ў народ тая элітная яго частка, якая пазней стала называцца інтэлігенцыяй. Паглядзім жа, як абстаіць справа з гэтым у нас цяпер. Не сакрэт, што народ наш сёння трагічна расколаты на дзве вельмі няроўныя паловы: нацыянальна-свядомую і нацыянальна-несвядомую яго часткі. Не сакрэт і тое, чыімі рукамі рабіўся гэты раскол. Камуністы і іх спадчыннікі з самага пачатку свайго панавання імкнуліся знішчыць менавіта беларускую нацыянальную самасвядомасць і яе носьбіта — беларускую інтэлігенцыю. Створаная імі трэшчына прайшла і па самой інтэлігенцыі. Тая яе частка, якую мае на ўвазе Ф. Шкірманкоў і якая менавіта і павінна была б распаўсюджваць гэтае святло ў народнай гушчы, сама аказалася прыніжанай да няшчаснага стану гэтай самай народнай гушчы. Сапраўды, пра якое святло можа марыць, напрыклад, сельскі настаўнік, які, каб зарабіць сабе і дзецям на хлеб, павінен ад цямна да цямна круціцца і ў школе і ў сябе на гародзе, не маючы часу нават прачытаць газету?

Тут, аднак, хацелася б спыніцца на той частцы нашай інтэлігенцыі, якая жыве ў гарадах і якая мае некаторую магчымасць уплываць на стан свядомасці народа. Калі раней менавіта гэтую частку беларускай інтэлігенцыі імкнуліся проста фізічна знішчыць, то цяпер яе, духоўна зламаную і запалоханую, стараюцца купіць ганаровымі званнямі або шматтысячадоларавымі прэміямі невядома за што. І, на жаль, часта ўладам гэта ўдаецца. Жывучы ў гарадах у непасрэднай блізкасці да начальства, якое там звычайна кіравалася Масквой і якое свядома насаджала рускую мову і культуру, гэтая інтэлігенцыя хутка адмовілася ад сваіх нацыянальных каранёў і паслужліва змяніла сваю мову на мову метраполіі, пачаўшы ганебна саромецца сваіх вясковых бацькоў і родных. Яна стала нават старацца пры выпадку перасяліцца ў Маскву, бліжэй да яшчэ больш высокага начальства, прадаючы сваё нацыянальнае першародства за сацывічную поліўку сумніўнага гонару саюзных званняў і акадэмічных чыноў. Зусім як некалі ў Чэхава: у Маскву, у Маскву, у Маскву.

Ды і самы склад нашай гарадской інтэлігенцыі аказаўся неаднародным. Вялікую яе частку сталі ўтвараць прыезджыя рускія спецыялісты, адміністратары і ваенныя, якія ў пераважнай сваёй большасці, трэба праўду ім у вочы сказаць, па спрадвечнай расійска-імперскай традыцыі не паважалі ні культуры, ні мовы "абарыгенаў". У лепшым выпадку гэта вымушана цярпелася імі як прыкметы "необразованной местной деревенщины". І гэта стала непазбежна даваць свае трагічныя вынікі. У многіх былых рэспубліках "прыезджыя" сталі балюча адчуваць нечакана для іх узніклую нелюбоў мясцовага насельніцтва. На Беларусі гэтага пакуль што не назіраецца, хоць магчымасць такога, на жаль, уже ёсць. Але з якой цеплынёй дабрадушныя і талерантныя па сваёй прыродзе беларусы адносяцца да тых рускіх, якія паважаюць іх мову, культуру і актыўна працуюць сёння на карысць незалежнасці і суверэнітэту Беларускай Дзяржавы! Тое, зрэшты, і раней было, калі ўспомніць такія вядомыя імёны, напрыклад, як гісторык Пічэта альбо мастацтвазнаўца Шчакаціхін.

Не сакрэт, што значную частку нашай гарадской інтэлігенцыі складаюць людзі яўрэйскага паходжання. Яўрэі, як вядома, здаўна сяліліся на беларускай зямлі, якая іх некалі гасцінна прыняла, ратуючы ад антысеміцкіх ганенняў у колішняй пратэстанцкай Еўропе. Вялікі наш Янка Купала ў вядомым вершы, спецыяльна прысвечаным яўрэям, параўноўваючы яўрэя з беларусам у тым, што абодва не маюць радзімы, заклікаў іх да супольнай барацьбы за незалежнасць. Але той жа Купала папярэджваў іх, што "не трэба хіліцца да мацнейшага", маючы на ўвазе іх даўняе імкненне пераходзіць на рускую мову і рускую культуру. Тая няшчасная, створаная векавечным прыгнечаннем схільнасць уласціва, дарэчы, і расійскім яўрэям, варта хоць бы ўспомніць скандальна вядомую яшчэ з дарэвалюцыйных часоў фразу М. Гершэнзона са зборніка "Вехи", дзе ён клікаў "благословлять эту власть, которая одна своими тюрьмами и штыками еще ограждает нас от ярости народной". У нас засталася яшчэ ад саюзна-савецкага перыяду быдлая традыцыя ўжываць слова "сіяніст" як лаянку, у той час як яно абазначае чалавека, што змагаецца за адраджэнне сваёй гістарычнай радзімы. Такія людзі, як, напрыклад, А. Шчаранскі, заслугоўваюць глыбокай пашаны. Але і тыя, што застаюцца ў складзе прыняўшага іх народа, павінны ў адказ паважаць яго культуру і супольна змагацца за незалежнасць ягонай дзяржавы, як сваёй уласнай радзімы. І ў нас ёсць такія высакародныя і сімпатычныя прыклады. Але маюцца і іншыя, асабліва сярод пішучай браціі, якія нават у апазіцыйнай прэсе дэманстратыўна пішуць толькі па-руску і ў артыкулах якіх ніколі не сустракаецца слова "суверэнітэт". Замест гэтага раз-пораз мільгаюць з'едліва-грэблівыя намёкі то ў адрас Вялікага княства Літоўскага, то ў адрас БНФ, то ў адрас Зянона Пазняка, гэтага сапраўднага беларускага інтэлігента. А адзін з іх нядаўна на старонках парыжскай газеты "Русская мысль" дык і ўвогуле абазваў Беларусь чорнаю дзіркай... Увогуле, метадамі дона Базілё з вядомай оперы гэтыя людзі ніяк не грэбуюць, нават у асабістых дачыненнях.

Але самае горкае тут тое, што і некаторыя карэнныя беларусы, памяняўшы мову і нацыянальную ментальнасць, аказваюцца фактычна здраднікамі ў адносінах да свайго народа. І, будзем шчырыя, не апраўдваюць іх тут звыклыя спасылкі на веліч рускай культуры ў параўнанні з культурай беларускай і тое, што яны, маўляў, выхаваныя на гэтай культуры. Забываючыся на прычыны гэтай трагічнай розніцы і блытаючы рускую культуру з расійскай імперскасцю, яны быццам бы не ведаюць, што ніхто іншы, як Пушкін, горка скардзіўся, што "черт дернул меня родиться с умом и талантом в России", а другі вялікі рускі паэт напісаў свае славутыя радкі пра "немытую Россию, страну рабов, страну господ", якія некаторыя сёння аб'яўляюць ужо "позднейшей подделкой". Абодва гэтыя вялікія прадстаўнікі вялікай рускай культуры, дарэчы, любілі і паважалі беларускі народ менавіта за яго непакорлівасць і незалежнасць. Ці ж не беларусам быў пушкінскі Уладзімір Дуброўскі, што падняў паўстанне супраць вяльможнага генерала Траекурава і выйшаў са сваімі сялянамі ў лес, як бы прадугадваючы будучую партызанскую Беларусь? Ці ж не беларускай была рамантычна прыгожая гераіня лермантаўскай паэмы "Литвинка"? І ці ж, нарэшце, не сімвалічна тое, што абодва гэтыя вялікія паэты былі забіты менавіта расійскай імперскасцю?

Ёсць, на жаль, і ў беларусаў гэтая няшчасная прывычка "хіліцца да мацнейшага". У спалучэнні з запазычанай у рускіх прывычкай "шарахання ў крайнасці" яна таксама прыводзіць некаторых нашых інтэлектуалаў да сумных вынікаў. Нават лічачы сябе беларускімі краялюбамі і гаворачы па-беларуску, яны не даваяраюць здольнасці беларускага народа выпрацаваць уласную нацыянальную самасвядомасць, якую заўсёды выражае нацыянальная філасофія. У пошуках такой філасофіі яны кідаюцца ў чужыя краіны, пераважна на Захад. Прычым, як знарок, запазычваюць адтуль самыя непадыходзячыя для Беларусі філасофскія накірункі, што прапаведуюць распады, песімістычна-абсурдны дэструктывізм, хоць там ёсць і пазітыўныя ўзоры, напрыклад, пратэстанцкай і каталіцкай рэлігійнай філасофіі, якія актыўна спрычыніліся ў свой час да ўтварэння нацыянальнай самасвядомасці еўрапейскіх народаў. Назіраецца такое і ў сферы мастацтва, дзе бяруцца за ўзор зусім не тыя эстэтычныя ідэалы.

Самасвядомасць увогуле нельга проста запазычыць. Яна можа быць толькі сваёй, нацыянальнай самасвядомасцю, выпрацаванай потам, а, калі трэба, і крывёю ўласнай жа, нацыянальнай інтэлігенцыі. Гэта зусім не значыць, што не трэба ўлічваць нацыянальных інтарэсаў іншых народаў, што пражываюць на Беларусі, тых жа рускіх, яўрэяў, палякаў альбо татар. Сапраўдная беларуская інтэлігенцыя глыбока паважае культуру гэтых народаў, але чакае ў адказ і адпаведнай павагі ў адрас сваёй нацыянальнай культуры. Толькі пры такой умове мы зможам сумеснымі высілкамі адстаяць незалежнасць нашай агульнай беларускай Радзімы, дзе асноўную ролю і адказнасць за лёс яе безумоўна павінна ўзяць на сябе беларуская інтэлігенцыя як прадстаўніца ўсяго беларускага народа — большыні насельніцтва Рэспублікі Беларусь.

Беларуская нацыянальная інтэлігенцыя і павінна несці ў народ памянёнае ў пачатку артыкула святло, святло розуму, веры і сумлення. Больш таго, яна павінна быць і факелам, што дае гэтае святло, узорам бездакорнага служэння свайму народу, узорам маральнай стойкасці, чысціні і справядлівасці. І такая інтэлігенцыя ў нас ёсць.

**М. КРУКОЎСКІ,**
**доктар філасофскіх навук, прафесар**

ПОВЯЗЬ

# Пераемнікі філарэтаў і філаматаў

На Беларусі няма поўнага заняпаду духоўнасці. Адраджэнскі рух, набываючы новыя формы, набіраецца вопыту, мудрасці і сілы.

Беларускі клуб хрысціянскіх інтэлектуалаў, што збірае сваіх сяброў з восені 1997 года, — толькі адно пацвярджэнне сказанаму. БКХІ створаны сіламі некаторых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі (сярод іх — і святары), хто, лічачы хрысціянства вызначальным фактарам культуры і маралі на Беларусі, з'яўляецца яго пашыральнікам і абаронцам.

Верыцца, што БКХІ ажывіць і працягне знакамітыя традыцыі Таварыства філарэтаў і Таварыства філаматаў (Вільня, першая чвэрць 19 ст.), выкарыстае канструктыўны вопыт "Русских философских собраний" (Санкт-Пецярбург, пачатак 20 ст.).

Выпрацоўка, крышталізацыя грамадскіх ідэалаў на Беларусі, якія, па сутнасці, жывуць у нашым народзе, але на належным узроўні не запатрабаваны, наўрад ці магчыма без шырокага ўдзелу нацыянальнай інтэлектуальнай эліты. Грамадскія ідэалы, вынашаныя інтэлектуаламі, мусяць абапірацца на спрадвечныя беларускія каштоўнасці і не павінны падзяляць беларускі народ ні па якой прыкмеце. Важна аб'яднаць, кансалідаваць і саму інтэлігенцыю Беларусі шляхам духоўнай узаемападтрымкі, пераемнасці нацыянальных інтэлектуальна-духоўных традыцый праз, па-першае, шанаванне старэйшых інтэлектуалаў, вывучэнне іх вопыту, праз актыўнейшы з імі дыялог, сумеснае з імі падключэнне да жывых праблем надзённага быцця; па-другое, праз вылучэнне і шматкірункавую апеку маладых талентаў. Урэшце, як можна кансалідаваць грамадства, не кансалідаваўшы інтэлігенцыю?

У кожным разе, разумеючы непараўнальную ролю інтэлігенцыі ў адраджэнні, захаванні і пашырэнні духоўнасці на Беларусі ў цэлым і ў пэўных сацыяльных групах, БКХІ мае на мэце акрэсліць канкрэтныя задачы, якія стаяць перад інтэлігенцыяй сёння і на перспектыву. Фактычна гэта ёсць выпрацоўка вышэйшай, інтэлектуальна-духоўнай часткі беларускай нацыянальнай ідэі, што не ўяўляецца без пэўных стасункаў (у плане шчыльнага кантакту, узаемаразумення) інтэлігенцыі з Хрысціянскай Царквой...

БКХІ значную ўвагу ўдзяляе маральнаму аспекту нацыянальнага калектыўнага і індывідуальнага жыцця, інтэграцыі веры, тэалогіі і філасофіі, экуменізму рэлігійнаму, палітычнаму, культурнаму, узбагачэнню беларускай культурнай глебы, вяртанню ў беларускі кантэкст многіх набыткаў беларускай эміграцыі і г.д.

Так ці інакш, усе сябры клуба лічаць адзінамагчымым для плёну нашай працы мінскацэнтрычную сістэму каардынат, калі насуперак яшчэ шырокапашыранаму правінцыйнаму мысленню Мінск успрымаецца палітычнай, культурна-інтэлектуальнай сталіцай з адпаведнымі такому мысленню уяўленнямі і перакананнямі.

Клуб, не з'яўляючыся замкнёным утварэннем, усё ж мусіць быць элітарным з тым, каб інтэлектуалы не займаліся выключна асветніцкай дзейнасцю, але адукоўвалі адзін аднаго па вузкіх, спецыяльных пытаннях. Разам з тым, БКХІ, генерыруючы новыя ідэі, мае намер асвятляць іх у прэсе з мэтай шырокага абмеркавання.

**Л. УЛАДЫКОЎСКАЯ-КАНАПЛЯНІК**

ШЛЯХІ

## 1. ГЛЯДЗЕЛІ ЯК НА АСНОЎНАЕ ЗВЯНО

Ефрасіння АНДРЭЕВА
Леанід ЛЫЧ

# "Да брамы нашай беларускай"

Кароткатэрміновае існаванне Беларускай Народнай Рэспублікі, надзвычай складаная сітуацыя ўнутры краю, вялікія і нічым не абгрунтаваныя палітычныя і тэрытарыяльныя прэтэнзіі да апошняга з боку суседніх краін перашкодзілі яго ўраду як след праявіць сябе ў самых розных сферах дзяржаўнай палітыкі. А жаданне было такое, бо пасля ўварвання на Беларусь кайзераўскіх войскаў, здзяйснення ў 1917 г. кастрычніцкага перавароту перад яе народам рубам паўстала пытанне: быць ці не быць вольным і незалежным на гэтым свеце. Шматгадовая паланізацыя і русіфікацыя нанесла глыбокія раны беларускаму арганізму, ледзь не цалкам адбіла ў людзей гістарычную памяць, адвучыла многіх з іх — прычым самых адукаваных — ад роднай мовы. На задворках апынулася нацыянальная культура. У гарадах ёй практычна зусім не засталося месца.

Лячыць так моцна здэнацыяналізаваны народ трэба было перш за ўсё праз пабудаваную на прыроднай аснове адукацыю. І яна адразу ж стала асноўным звяном сацыяльна-культурнай палітыкі БНР. Асабліва яскрава выявілася гэта пасля таго, як 25 сакавіка 1918 г. яе Рада аб'явіла Беларусь суверэннай краінай. Ужо ў наступным месяцы мове яе карэннага насельніцтва надалі статус дзяржаўнай. Ставілася задачай зрабіць гэтую мову пануючай у дзейнасці ўсіх тыпаў навучальных установаў, якой у іх да Першай сусветнай вайны па-за ўсялякай канкурэнцыі была руская. А вось як на беларускую зямлю ўступілі нямецкія інтэрвенты, на гэтай частцы ўзамен рускім сталі ствараца пераважна польскія навучальныя ўстановы. З'явіліся і першыя беларускамоўныя школы, пачатак чаму паклала Вільня. Калі ўрад БНР разгарнуў дзейнасць па арганізацыі нацыянальнай сістэмы адукацыі, на акупаванай немцамі тэрыторыі ўжо функцыянавала некалькі соцень беларускіх школ. Гэта — найвялікшае дасягненне нацыянальна самасвядомай часткі нашай навуковай, творчай, педагагічнай інтэлігенцыі, празорлівых палітыкаў, грамадскіх дзеячаў, яскравы прыклад таго, што за стварэнне нацыянальнай адукацыі трэба брацца нават у самых складаных, неспрыяльных умовах, ні дня не чакаючы перамен да лепшага.

Найбольшы непакой у ідэолагаў і арганізатараў беларускай нацыянальнай школы выклікала стаўленне да апошняй самога настаўніцтва. Яно ж было сфармавана ў навучальных установах, дзе квітнеў дух расійскага вялікадзяржаўнага шавінізму, дзе глушылася ўсялякая думка аб выхаванні і навучанні дзяцей нярускай нацыі на іх матчынай мове. Прыхільнікі нацыянальнай школы добра памяталі, як на з'ездзе вясковых настаўнікаў Мінскай губерні, што праходзіў у маі 1917 г., абсмяялі адну настаўніцу, не далі выказацца і нават цяжка абразілі толькі за тое, што яна асмелілася выступіць па-беларуску; як удзельнікі з'езда скуплялі беларускамоўныя газеты, а затым ірвалі іх на шматкі і таптала нагамі. Ніхто з прысутных з месца ці з трыбуны не запярэчыў, што старшыня з'езда называў беларускую мову "мужыцкай гаворкай", "простым наречием". Вось якую непахвальную характарыстыку даў гэтаму форуму мінскіх вясковых настаўнікаў адзін з актыўных дзеячаў беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння Язэп Лёсік: "Наогул жа, з'езд выявіў нечуванае ў гісторыі з'явішча. Сыны народа, светачы вясковай цемры, адракліся ад бацькаўшчыны свае, адцураліся мовы бацькоў сваіх і на ўвесь свет выславілі, што яны ненавідзяць усё роднае, беларускае і рады і надалей цягнуць ярмо маскоўшчыны і нацыянальнага ўціску. (...) Рабы былі і рабамі засталіся".

З апошнімі словамі аўтара нельга пагадзіцца, бо як БНР пачала з усёй рашучасцю рабіць захады па духоўным адраджэнні Бацькаўшчыны і на гэтым гістарычным шляху абазначыліся першыя поспехі, у значнай часткі настаўніцтва адразу прабіўся на паверхню інстынкт нацыянальнага захавання, стаў папулярным рух за стварэнне сапраўды народнай школы, вольнай ад усходняга (маскоўскага) і заходняга (польскага) уплываў.

Шмат рабіла дзеля схілення настаўніцтва да нацыянальнай школы газета "Беларускі шлях", якую рэдагаваў А. Прушынскі (Алесь Гарун). У яе красавіцкіх нумарах за 1918 г. пад крыптанімам "А" быў змешчаны артыкул "Заданне прасветы", які дапамог многім настаўнікам зразумець, што для беларускіх дзетак цяпер не можа быць іншай школы, як толькі нацыянальнай, з іх роднай мовай. Увагу настаўнікаў на гэтую праблему так скіроўваў аўтар згаданага артыкула: "Усе віднейшыя педагогі апошняга часу ў адзін голас кажуць, што навучанне ў школах павінна весціся толькі ў матчынай мове. Гэта асабліва і безумоўна адносіцца да пачатковай школы". Меркавалася, што ўжо з новага навучальнага года ва ўсіх пачатковых школах будуць весці заняткі на беларускай мове, а ва ўсіх сярэдніх і вышэйшых школах распачнуць працу абавязковыя курсы беларусазнаўства. Пераканаўча даведзена ў артыкуле думка аб неабходнасці стварэння ўласнага універсітэта. Закладку яго прапаноўвалася рабіць з адкрыцця ў першую чаргу гісторыка-філалагічнага факультэта. Не маглі не прыцягнуць увагу кожнага шчырага педагога-адраджэнца радкі, што завяршалі артыкул: "Кожны беларус павінен ведаць, што ён мае рабіць. Можа, ён збірае грошы на прасвету — хай збірае не аглядаючыся на іншых, можа далажыць свайго знання — хай кідае ўсякую іншую працу і ідзе на ніву прасветы. Бо цяперака школа гэта ўсё. Яна і толькі яна выгадуе этнаграфічную беларускую масу на свядомае сваіх нацыянальных заданняў грамадзянства Беларускай Дзяржавы".

Карысную, вельмі неабходную для нацыянальнай справы працу праводзілі створаныя ў красавіку 1918 г. па ініцыятыве Беларускай субкамісіі па народнай асвеце Мінскай сталічнай думы курсы беларусазнаўства, на якіх вялася перападрыхтоўка настаўнікаў. З лекцыямі тут выступалі народны сакратар асветы Беларускай Народнай Рэспублікі А. Смоліч, старшыня Народнага сакратарыята БНР Я. Варонка, рэдактар газеты "Вольная Беларусь" Я. Лёсік, рэдактар былых перыядычных выданняў газеты "Наша Ніва", часопісаў "Саха" і "Лучынка" А. Уласаў, іншыя палітычныя і культурныя дзеячы. Наведвалі курсы як ужо сталыя людзі з універсітэцкімі значкамі, так і малаадукаваныя падлеткі, студэнты былых расійскіх вышэйшых школ і гімназісты. Разам з беларусамі тут вучыліся яўрэі, рускія, палякі і ўкраінцы (парадак размяшчэння прадстаўнікоў нацменшасцяў пададзены ў залежнасці ад іх ліку на курсах). Тэматыка лекцый будавалася так, каб слухачам даць як мага больш канкрэтных ведаў па гісторыі, палітычным, эканамічным і культурным жыцці Бацькаўшчыны. 30 красавіка 1918 г., напрыклад, Я. Варонка прачытаў для іх лекцыю "Беларусь і яе суседзі", а 1 мая Я. Лёсік азнаёміў курсантаў з гісторыяй Вялікага княства Літоўскага. З 11 красавіка 1918 г. у Мінску на курсах беларусазнаўства пачаў чытаць лекцыі па гісторыі беларускай мовы прафесар, доктар М. Масоніус. "Слухачоў было столькі, — паведамлялася ў газеце "Беларускі шлях" (13 красавіка 1918 г.), — што шмат каму прышлося стаяць. Апроч інтэлігенцыі на лекцыі былі студэнты і вучні". Гэты невялічкі допіс у газету заканчваўся словамі: "Жычым нашаму сівому, як голуб, але маладому ў душы і надзеях доктару Масоніусу здароўя на карысць краю". Наведвальнікам курсаў беларусазнаўства яшчэ не раз даводзілася слухаць лекцыі аб мове гэтага навукоўца.

Неверагодныя цяжкасці існавалі з напісаннем і выданнем падручнікаў і іншай літаратуры спецыяльна для беларускіх навучальных устаноў. Але і тут даведзеная да жабрацтва краіна дамагалася пэўных зрухаў. Так, дзякуючы клопатам Беларускага цэнтральнага саюза нацыянальных грамадскіх арганізацый (знаходзіўся ў Вільні) вясной 1918 г. быў створаны "выдавецкі фундуш дзеля школьных кніжак у беларускай мове". Першай такой кніжкай яго стаў "Новы лемантар беларускі" Янкі Станкевіча. Гэта ўжо было другое выданне такой кнігі дадзенага аўтара. Добра разумеў і шмат рабіў дзеля школьнай справы аўтар першай кнігі на беларускай мове па гісторыі Бацькаўшчыны вядомы грамадска-палітычны і культурны дзеяч Вацлаў Ластоўскі. Ад пачатку Першай сусветнай вайны і да мая 1918 г. ён напісаў, уклаў і выдаў каля 10 школьных падручнікаў і столькі ж паспеў падрыхтаваць да друку. Будучы членам Віленскай Беларускай Рады, В. Ластоўскі арганізаваў у Вільні таварыства апекі над дзецьмі "Золак", пры якім існавала школа, дзе вучылася каля150 дзяцей. Дзеля навядзення неабходнага парадку ў забеспячэнні навучальнай літаратурай пры ўрадзе БНР было створана спецыяльнае бюро для падрыхтоўкі падручнікаў і адкрыта выдавецтва "Прасвета". За чатыры месяцы бюро склала 16 кніг для вучняў. У выдавецтве Беларускага народнага камітэта ў 1918 г. выйшлі "Беларуская граматыка для школ" Б. Тарашкевіча і "Беларускі правапіс" А. Луцкевіча і Я. Станкевіча (лацінкаю).

Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, гарачыя прыхільнікі нацыянальнай адукацыі пастаянна думалі і распрацоўвалі канкрэтныя практычныя захады па адкрыцці вышэйшай навучальнай установы. Пра гэта так пісаў дзеяч беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння Фёдар Турук: "У 1918 годзе, у час нямецкай акупацыі, Мінскае дэмакратычнае губернскае земства і шэраг павятовых земскіх сходаў і гарадскіх дум, на пасяджэнні якіх асабліва горача дэбютавалася пытанне аб адкрыцці універсітэта ў г. Мінску, спрабавалі сумесна з групай асоб з прафесуры закласці "першыя цагліны Краявога Храма Навукі", на што земствамі былі асігнаваны грашовыя сумы да двух мільёнаў... рублёў, а Мінскай думай адводзіўся для універсітэта ўчастак зямлі і цэлы шэраг бясплатных памяшканняў. У праекце аддзела народнай адукацыі пры Мінскай земскай гарадской управе і праекце праф. Доўнар-Запольскага, пададзенага ім у форме пытанняў старшыні народнага сакратарыята Беларускай Народнай Рэспублікі, і акад. Я. Ф. Карскага, надрукаваным у газеце "Вольная Беларусь", універсітэт у Мінску канструяваўся паводле тыпу і статута старых універсітэтаў Расіі ў складзе чатырох асноўных факультэтаў: гісторыка-філалагічнага, юрыдычнага, медыцынскага і фізіка-матэматычнага з дапушчэннем на гісторыка-філалагічным факультэце кафедраў мясцовага значэння: беларускай, польскай і літоўскай..." У створаную ўрадам БНР у красавіку 1918 г. камісію па распрацоўцы ўсёй неабходнай для адкрыцця ў Мінску Беларускага універсітэта ўваходзілі такія вядомыя навукоўцы і грамадска-палітычныя дзеячы, як Мітрафан Доўнар-Запольскі, Яўхім Карскі, Уладзімір Самойла, Аркадзь Смоліч і шэраг іншых. Уздымалася тады гаворка ва ўладных структурах БНР і аб закладцы сельскагаспадарчага і політэхнічнага інстытутаў. І калі гэта не стала рэальнасцю, дык толькі з прычыны ўскладнення становішча ў краіне.

Першыя мерапрыемствы БНР у галіне асветы былі зусім непадобнымі да таго, што тут рабіла савецкая ўлада адразу пасля кастрычніцкага перавароту ў 1917 г. і ў больш позні час. Не будзе нават малейшым адступленнем ад ісціны сцвярджэнне, што органы асветы Абласнога выканаўчага камітэта Заходняй вобласці (Аблкамзаха) нават аніводнага практычнага кроку не зрабілі па стварэнні нацыянальных беларускіх школ. На нацыянальнае пытанне ў гэтай сферы яны глядзелі ў духу дарэвалюцыйнага часу, прычым найбольш рэакцыйную пазіцыю займаў сам загадчык асветы Аблкамзаха П. Савацееў. Паводле сведчання вядомага нашага адраджэнца Алеся Бурбіса гэты дзеяч усяляк перашкаджаў створанаму ў лютым 1918 г. пры Наркамнаце РСФСР Беларускаму Нацыянальнаму Камісарыяту праводзіць працу і аднаму з прадстаўнікоў апошняга заявіў, "што яму (Савацееву. — **Е. А., Л. Л.**) абыякава, ці будуць беларусы пісьменнымі, ці не".

Не ўсе гарой стаялі за беларускую школу і на тэрыторыі, якая знаходзілася пад юрысдыкцыяй БНР. Але гэта не палохала і не стрымлівала яе ўлады ў правядзенні ўзважанай мэтанакіраванай палітыкі па стварэнні адпаведнай суверэннай дзяржаве сістэмы адукацыі, г. зн. цалкам нацыянальнай. Паколькі асноўнай дзеючай асобай па правядзенні такой высакароднай ідэі ў жыццё мог стаць толькі нацыянальна-самасвядомы, моцна ўлюбёны ў свой край настаўнік, пошукам такіх людзей актыўна займаліся ўсе, хто меў дачыненне да кіравання гэтай сферай духоўнага жыцця. Стаўка была зроблена ў асноўным на асоб беларускага паходжання, бо лічылася, зыходзячы з характару навучальна-выхаваўчага працэсу інстытутаў і універсітэтаў Расіі і Польшчы, што сярод іх былых выпускнікоў рускай і польскай нацыянальнасцяў наўрад ці знойдуцца такія, якія ахвотна возьмуцца за стварэнне беларускай нацыянальнай школы. Да таго ж і адпаведнай прафесійнай падрыхтоўкі дзеля гэтага яны не мелі. Пазіцыя па дадзеным пытанні была вельмі выразна выкладзена ў адным з чэрвеньскіх нумароў (1918 г.) газеты "Беларускі шлях", якая ва ўсім падтрымлівала палітыку БНР: "...ёсць адна галіна дзяржаўна-грамадскага жыцця, якая ў цэласці і заўсёды павінна знаходзіцца ў беларускіх руках. Гэта — прасвета. Прасвета, будучы найвялікшым начыннем усясветнага развіцця, можа быць у той жа час і наймацнейшым з спосабаў палітыкі. Беларусь добра пазнала гэту ісціну на сабе. Школы, якія знаходзіліся ў чужых руках, абяссільвалі, нішчылі нацыю, не давалі ёй жыць і развівацца... Дзеля таго прасвету наўсюдах і заўсёды беларусы павінны затрымоўвацьза сабой".

І такое многа дзе ўдавалася рабіць. Асабліва высокім духам беларускасці вызначаліся асобы, што былі вылучаны на кіруючыя пасады ў органы асветы. У гэтых асоб вельмі шмат чаму можна і сёння павучыцца па схіленні шырокіх народных мас да беларускай нацыянальнай школы. Патрэба ж у гэтым была надзвычай вострая, бо людзей доўгі час вучылі адваротнаму. І яны, асабліва гараджане, паддаваліся такое ідэалагічнай апрацоўцы ў антыбеларускім духу. Куды прасцей было на вёсцы. Часта за беларускую школу выказваліся ўсе сто працэнтаў прысутных на вясковых сходах. Нямала прыхільнікаў яе знаходзілася і сярод гараджан, калі з імі была праведзена адпаведная растлумачальная работа. У чэрвені 1918 г. у Мінску, напрыклад, працавала ўжо каля 20 камплектаў пачатковых беларускіх школ, чаго ніяк нельга было б дамагчыся без актыўнай падтрымкі бацькоў дзяцей і грамадскасці. Пашырэнню ідэі беларускай нацыянальнай школы сярод насельніцтва горада ўсяляк перашкаджалі чыноўнікі прарускай арыентацыі Мінскага губерскага земства, якія займаліся пытаннямі асветы. Гэта адна з прычын, што да 1918-19 навучальнага года падрыхтавалі да заняткаў толькі 8 беларускіх пачатковых школ, затое рускіх — 18. З усіх 8-мі вышэйшых пачатковых школ 7 было рускіх і адна яўрэйская.

Важным дасягненнем у галіне нацыянальнай асветы таго часу з поўнай падставай можна назваць функцыянаванне шэрагу навучальных устаноў больш павышанага тыпу, у іх ліку і Будслаўская беларуская гімназія (Вілейскі павет). У 1918-19 навучальным годзе тут займалася больш за 300 дзяцей. Усе прадметы выкладаліся па-беларуску. Па адной навучальнай установе такога тыпу мелі Мінск, Слуцк, Гродна і Навагрудак. У Мінску ёю кіраваў выпускнік Пецярбургскага універсітэта Уладзімір Самойла, які вызначаўся высокай беларускай нацыянальнай самасвядомасцю. Яшчэ працуючы ў ліберальна-буржуазнай грамадска-палітычнай газеце "Минский курьер", выступаў за неабходнасць адкрыцця нацыянальных школ для беларускіх дзяцей. Ён жа дапамог Янку Купалу надрукаваць верш "Мужык", даў аб'ектыўную ацэнку шэрагу яго паэтычных твораў.

Вельмі рана, ужо ў красавіку 1918 г., сваіх першых абітурыентаў прыняла Мінская вышэйшая музычная школа, троху пазней перайменаваная ў Беларускую кансерваторыю. 9-10 жніўня 1918 г. адбыліся выпускныя экзамены навучэнцаў чацвёртага элементарнага курса Свіслацкай беларускай настаўніцкай семінарыі. Шмат клопатаў было ў БНР з вяртаннем на радзіму эвакуіраванага ў 1915 г. у Яраслаўль Мінскага настаўніцкага інстытута. Адбылося яно 22 верасня 1918 г. З прадметаў беларусазнаўства тут вывучаліся беларуская мова і літаратура, гісторыя беларускай мовы і літаратуры, гісторыя і геаграфія Беларусі. У першы год пасля рээвакуацыі інстытута з прыродазнаўчых дысцыплін у ім на беларускай мове чыталі фізіку і праводзілі практыкум.

Палітыкі, працаўнікі асветы, перыядычны друк таго часу заставаліся задаволенымі рашучай дзейнасцю БНР па стварэнні нацыянальнай адукацыі як асноўнай умовы адраджэння беларускага народа, у рэальнасць чаго пачынала верыць усё большая і большая колькасць людзей, нават нягледзячы на тое, што займацца вырашэннем дадзенай праблемы даводзілася пры панаванні нямецкага акупацыйнага рэжыму. Той агульны настрой вельмі добра раскрыў З. Янкоўскі ў артыкуле "Брама да новага жыцця", змешчаным у газеце "Беларускі шлях" 18 жніўня 1918 года: "Ідуць людзі да нашай брамы беларускай з усіх старон... Брама наша расшыраецца, захопліваючы ўсё большыя і большыя грамады людзей. Нават частка з нашых былых праціўнікаў, якая часам шкодзіла беларускай справе, і то цяпер захопліваецца і пачала верыць у сілу беларускага адраджэння. (...) Гісторыя нашага народа, выціснутая вялікарускім урадам з грубай тэндэнцыяй знішчэння ўсяго беларускага з усіх школ, цяпер выходзіць наверх, "як моцны рэактыў"... І мова аказалася, і літаратура знайшлася, і беларускі бадай сталы тэатр з досыць нябедным рэпертуарам, і беларускае штукарства. Да двухсот беларускіх школ існуюць ужо на нашай зямлі, некалькі сярэдніх школ, а ў хуткім часе універсітэт таксама будзе!"

Усё гэта сведчыць пра вялікую верагоднасць стварэння нацыянальнай сістэмы адукацыі нават у самых неверагодна цяжкіх варунках. Трэба толькі за гэтую справу брацца на дзяржаўным узроўні. Урад БНР вельмі добра даказаў гэта, хоць функцыянаваць яму даводзілася менавіта ў такіх умовах.

*(Працяг будзе)*

## Юбілею Нэлы Тулупавай

**У Горках — горадзе, дзе Нэла Тулупава пражыла больш за дзесяць гадоў, дзе нарадзіўся яе першы паэтычны зборнік "Станцыя надзей", дзе і зараз многія яе памятаюць, адзначана 60-годдзе паэтэсы.**

**На паэтычнай вечарыне, арганізаванай удзельнікамі суполкі "Роднае слова", гучалі ўспаміны людзей, з якімі Нэла Іванаўна разам працавала ў газеце "Советский студент" (Лідзія Сункова), якія неслі ёй у газету свае першыя вершы (Андрэй Пугач), з якімі яна проста побач жыла (Людміла Камко).**

**На вечарыне гучалі таксама песні, напісаныя на вершы Н. Тулупавай вядомымі беларускімі кампазітарамі І. Лучанком, Ю. Семянякам і В. Макеевай, якая жыве ў Горках.**

**М. СТУДНЕВА,**
**супрацоўнік Горацкага гістарычна-этнаграфічнага музея**

## Памяці паэта

**Чарговы літаратурны вечар прайшоў у Коласавым доме. Прысвечаны ён быў 90-годдзю з дня нараджэння вядомага нашага дзіцячага паэта Станіслава Шушкевіча. Узнёслае, хвалюючае слова пра яго сказала Маргарыта Яфімава, даследчыца беларускай дзіцячай літаратуры, дацэнт БДУ. Затым загучалі вершы С. Шушкевіча для дзяцей і ў выкананні дзяцей. Публіка, а гэта былі пераважна навучэнцы Мінскага педкаледжа, з увагаю слухала творы.**

**Потым вядучы вечарыны Іван Курбека даў слова старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Васілю Зуёнку. Ён расказаў аб сваіх сустрэчах і стасунках з паэтам, а на завяршэнне прачытаў свой любімы верш С. Шушкевіча "Парсючок".**

**З успамінамі пра Станіслава Пятровіча выступіў Генрых Далідовіч, галоўны рэдактар часопіса "Маладосць". Потым гучаў голас самога С. Шушкевіча. Доўжылі вечарыну сваімі згадкамі паэт Анатоль Вярцінскі, выкладчыца Мінскага педкаледжа Валянціна Раманцэвіч. Апошнім выступіў сын юбіляра Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч, адзначыўшы на заканчэнне: "Мой бацька ніколі нікога не павучаў, як жыць і што рабіць, але заўсёды жыў, як трэба, жыў як сапраўдны чалавек".**

**А пасля адбыўся канцэрт, які падрыхтаваў ансамбль народнай музыкі "Мінскі гармонік" пад кіраўніцтвам Івана Раманчука.**

**Вадзім КАЛЯДА**

## "Мастацтва", N 2

**Уражаннямі ад спектакля "Князь Вітаўт" А. Дударава ў Нацыянальным тэатры імя Я. Купалы дзеліцца Т. Гаробчанка — "Зазіраючы ў бяздонне стагоддзяў". А. Ахметшын ("Шукайце "Элізабет"!") разважае над спектаклем "Знайсці Элізабет" А. Гарцуева на сцэне Малога тэатра Беларускага СТД. З нататкамі з фестывалю "Белая Вежа" выступае Т. Ратабыльская ("Акцёр і лялька").**

**У сшытку "Музыка" аб'яднаны артыкулы Э. Скуратавай "Брава, "Маладая Беларусь"!", Н. Ксёнц "Уладзімір Буткевіч — масціты і малады", Д. Падбярэзскага "Першы крок у заўтра", а таксама нататкі Д. Мухаўца "Дыскаграфія".**

**І. Кузняцова ("Роздум з нагоды...") расказвае пра Трэці дзіцячы міжнародны пленэр, прысвечаны Алене і Мікалаю Рэрыхам. Штрыхі да творчага партрэта сцэнографа Л. Ганчаровай "Высокая мудрасць прастаты" напісала В. Гудзей-Каштальян.**

**На выставу "Казачныя фантазіі", што працуе ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі, запрашае Г. Багданава. Над праблемай "Маляваныя дываны. Што было, ёсць і будзе?" разважае Р. Шаура ("Туга па гармоніі"). Таямніцы нацыянальнага арнаменту раскрываюцца ў артыкулах Г. Нячаевай "Ручнік-шлях" і І. Каранеўскай "Знакі прысутнасці вечанага".**

**Уяўленне аб нумары будзе няпоўным, калі не пазнаёміцца з такімі матэрыяламі, як "Чалавек не можа не тварыць" М. Крукоўскага, "Жанчыны ў нацыянальным дыскурсе" А. Гапавай, "Брэсцкі кінастарт: першыя вынікі" І. Аўдзеева, "Людзі на балоце-2" Ж. Васанскай, "Ціхі апакаліпсіс" Н. Агафонавай, і іншымі публікацыямі.**

КНІГАРНЯ

# "Рабіў доктар Скарыніч..."

Сярод акафістаў, якія ўвайшлі ў склад "Малой падарожнай кніжкі" Францішка Скарыны (першая кніжка, выдадзеная ім на радзіме, у Вільні каля 1522 г.), ёсць два аўтарскія акравершы. Першыя літары вершаў, кандакоў і ікосаў Акафіста Ісусу Хрысту складаюць словы: "Делал доктор Скоринич Францискоус", адпаведна першыя літары строфаў Акафіста Яну Папярэдніку (Прадцечы) складаюць подпіс: "Писал доктор Скоринич Францискус". Гэтак па-народнаму пазначыў свой род наш асветнік з слаўнага места Полацкага ў гэтых урачыстых царкоўных песнях, вынайдзеных паэтамі старадаўняй Візантыі.

Для нашага земляка, доктара філалагічных навук, вядомага даследчыка спадчыны Ф. Скарыны, аўтара кнігі "Тут мой народ: Францішак Скарына і беларуская літаратура XVI — пачатку XX ст." (1989) Аляксея Каўкі родавае імя Скарыніч стала сімвалам беларускага асветніка ўсіх часоў, патрыёта-адраджэнца. Паводле прыпіскі ён масквіч, грамадзянін Расіі, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута сусветнай літаратуры. Але ягоны радавод і душа рыцара беларушчыны назаўсёды "прыпісаныя" ў Беларусі. Друкуецца ён і ў нашым штотыднёвіку, на жаль, не так часта, як хацелася б.

Наш спадар Аляксей аднавіў у Маскве беларускі культурна-нацыянальны рух, запачаткаваны там у першай палове 1920-х гадоў Уладзімірам Дубоўкам, Гаўрылам Гарэцкім, аб'яднаннем беларускіх студэнцкіх зямляцтваў, зборнікам "Маладая Беларусь" (1922). Па ягонай ініцыятве ў 1988 годзе створана Маскоўскае таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны. Вось тады і быў задуманы гадавік-альманах "Скарыніч". Першая кніжка выйшла ў 1991 годзе. У ёй надрукаваны матэрыялы абмеркавання энцыклапедычнага даведніка "Францыск Скарына і яго час" (1988) за "круглым сталом" у Маскве, матэрыялы ўстаноўчай канферэнцыі гэтага таварыства (30 снежня 1988 г.) ды іншых творчых імпрэзаў гэтай арганізацыі, цікавыя даведкі пра яе папярэднікаў, раздзелы пра спадчыну Скарыны, прафесара Браніслава Эпімах-Шыпілы, "Хроніка" выдатнага гісторыка Міколы Улашчыка.

Другая кніжка "Скарыніча" выпушчана ў свет усё тым жа выдавецтвам "Мастацкая літаратура" ў 1993 годзе, аб'яднала сваім зместам культурную традыцыю — раздзелы "Прарок на бацькаўшчыне" (пра спадчыну Ф. Скарыны), "Цяпло роднага слова" (спадчына Язэпа Лёсіка, Міколы Улашчыка, іншых Скарынічаў 1920—30-х гадоў) "Вяртанне" (спадчына Івана Луцкевіча, Аркадзя Смоліча, Янкі Станкевіча), урэшце, раздзел "Хто мы такія?" — пра пошукі нацыянальнай самаідэнтыфікацыі беларусамі і ўкраінцамі.

І вось летась выйшаў у свет трэці выпуск "Скарыніча". Для яго спатрэбіліся чатырохгадовыя высілкі ўсё таго ж самаахвярнага Аляксея Каўкі. Цяпер ужо ў моцна скарочанай "Мастацкай літаратуры" "Скарынічу" не знайшлося месца: трэцяя кніжка надрукавана і тыражыравана... у друкарні "УВД Смоленской области"! Засталіся ўсё ж такі на крывіцкай Смаленшчыне беларускія карані, калі смаленская міліцыя выдае унікальную кніжку беларускай літаратурнай, навуковай і культурнай спадчыны! Звяртаючыся да чытачоў, складальнік піша: "У зборніку падабраны даволі разнастайныя матэрыялы, аб'яднаныя адной скразной, апорнай ідэяй Беларускага Адраджэння на канкрэтна-гістарычным фоне матэрыялізацыі гэтае ідэі ва ўзнёслых і драматычных 20-х гадах".

Кніга складаецца з двух раздзелаў: І. Постаці. ІІ. Забытыя тэксты. Сярод постацяў "проста адраджэнцы" (з вызначэння Я. Лёсіка ў паказаннях следчаму ГПУ) Вацлаў Ластоўскі (вершы, дыпламатычная і навуковая перапіска, паказанні абвінавачаных Аркадзя Смоліча, Мікалая Красінскага на допыце ў ГПУ па справе "Саюза вызвалення Беларусі" 1930 года, паказанні Аляксандра Ляўданскага ў якасці сведкі), артыкулы К. Езавітава "Вацлаў Ластоўскі" (часопіс "Новы шлях", 1943, N 20), У. Глыбіннага (Сядуры) "Вацлаў Ластоўскі як паэта нацыянальнай думкі" ("Беларуская газэта", 1943, 23, 27 кастр.), Р. Склюта (С. Станкевіча) "Званар адраджэння: Вацлаў Ластоўскі" (газета "Бацькаўшчына", 1954, N N 35, 41, 42, 43—44, 47—48), Успаміны М. Улашчыка "Найбольш выдатны дзеяч" (1986, друкуюцца ўпершыню).

Амаль палову кнігі займаюць унікальныя дакументы з Нацыянальнага архіва Беларусі і Гісторыка-дакументальнага дэпартамента Расіі, Архіва КДБ Беларусі пра В. Ластоўскага — яго асабістыя і тыя, якія датычацца яго літаратурнай і навуковай творчасці, палітычнай дзейнасці 1916—1930 гг., урэшце, першых гадоў ягонай саратаўскай ссылкі (1931—1934). У кастрычніку 1920 года В. Ластоўскі ўзначальваў дэлегацыю Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) на Рыжскіх мірных перамовах Польшчы і Расіі. Абодва "бакі" не прызналі Беларусь і дамовіліся аб яе падзеле паміж сабою. В. Ластоўскі перадаў ім мемарандум, які канчаўся наступнай заявай: "Мы трэбуем ад абодвых ваяваўшых старон — Расеі і Польшчы пацьвярджэньня законных трэбаванній нашага народу аб прызнаньні Незалежнасьці і Сувярэннасьці Беларускай Народнай Рэспублікі і дапушчэньня на канферэнцыю яе дэлегацыі, як стараны, на тэрыторыі каторай Расея і Польшча вялі разарыцельную вайну".

Воблік гэтага рыцара Беларусі добра характарызуе яго службовая перапіска на пасадзе дырэктара Беларускага дзяржаўнага музея з Наркамасветы БССР ды іншымі ўстановамі, а ягоную трагічную пакінутасць і адзіноту — паказанні былых калегаў на допытах у ГПУ. Калі верыць "кэдэбэкіным" пратаколам, то выходзіць, што Аркадзь Смоліч і Мікалай Красінскі "тапілі" Ластоўскага без усякіх сумненняў, выдаючы яго за тэарэтыка і практыка "крымінальнага" паводле бальшавіцкай логікі "беларускага нацдэмакратызму: "В. Ю. Ластовского можно считать наиболее типичным и последовательным идеологом белорусского нац-дэмократизма" (А. Смоліч). "Ластовский — яркий национал-демократ, самобытник" (М. Красінскі). "В изданной Белгосмузеем книжке ("Навачаснае беларускае мастацтва", 1928/29) Ластовский посадил на первое место бюст Скорины, хотя он не имеет никакого художественного значения и хотя в передовой статье Ластовский и прикрывается фразеологией за советскую власть" (А. Ляўданскі).

А вось Язэп Лёсік, аказваецца, найперш тапіў самога сябе і цягнуў за сабою іншых. З паказанняў Язэпа Лёсіка падчас следства ў ГПУ: "Беларускі нацыянал-дэмакратычны рух у Савецкай Беларусі распачаўся і стаў арганізацыйна афармляцца зараз жа, як вярнуўся з-за граніцы спачатку Смоліч і М. Гарэцкі, а потым Красноўскі, Мядзёлка, Цьвікевіч, Заяц, Пракулевіч і нарэшце Ластоўскі (...). У маіх мовазнаўчых работах і школьных падручніках праводзіў ідэю нацыянальнай самабытнасці, насычаючы свае работы нацыянальна-шавіністычным зместам". Далей — без перакладу на беларускую мову: "Идеологическое и организационное оформление было сделано мною. Это был "Союз Возрождения Беларуси". Официально он так не назывался. Мы называли себя просто "адраджэнцамі" (...). Даже свои контрреволюционные установки в национальном вопросе я делал публично" (С. 103).

Сёння з гэтымі "паказаннямі" можна было б згадзіцца (з істотнымі агаворкамі) і праславіць нашых герояў: яны, аказваецца, амаль легальна змагаліся з бальшавіцкай тыраніяй, з іхняй палітыкай этнацыду беларускай нацыі. Але гэта была б недаравальная мадэрнізацыя трагічнай гісторыі. У "паказаннях" Смоліча, Лёсіка ды іншых выдае сябе сталінская просталінейнасць і бальшавіцкае невуцтва адносна ўсяго, што тычыцца Беларусі. Вось цытата з "паказанняў" А. Смоліча на допыце 20 кастрычніка 1930 г. пра Максіма Багдановіча: "По своим взглядам это был анархо-индивидуалист с яркой националистической окраской. В национальной политике, которой он тогда руководил (маецца на ўвазе восень 1916-га і зіма 1917 года. — **У. К.**), он твердо стоял на точке зрения коалиции с буржуазией" (с. 23).

Можна падумаць, што смяротна хворы паэт быў у Мінску генеральным сакратаром беларускай нацыянал-дэмакратычнай партыі, а не сакратаром харчовай губернскай камісіі! Але мы ведаем, што яго "палітыкай" была, як тады казалі, "чыстая паэзія" — і нясмяротны гімн "Пагоня". Высокаадукаваны А. Смоліч, які тады сябраваў з Багдановічам, добра гэта ведаў, не мог так пісаць альбо гаварыць.

Ключом да ўсіх "паказанняў" беларускіх вялікамучанікаў ёсць "Заява следчаму грам. Карнееву зняволенага Ластоўскага В. Ю." (1 кастрычніка 1937 г., за некалькі месяцаў да расстрэлу), "В состоянии маразма после 38-часового конвейерного допроса я под угрозой ареста моей жены согласился дать показания, жертвуя собой, чтобы спасти жену. Вследствие моего заявления был составлен протокол следствия на основе моих

*Скарыніч: Літаратурна-навуковы гадавік. Выпуск 3. Укладальнік А. Каўка. Масква—Мінск—Смаленск, 1997.*

ЧАСОПІСЫ

# Пра Шамякіна і вакол Шамякіна

Галоўны герой першага ў сёлетнім годзе (і 38-га з часу выхаду ў новай іпастасі) нумара часопіса "Крыніца" — народны пісьменнік Беларусі (каб не займаць шмат месца, астатнія званні і рэгаліі называць не будзем) І. Шамякін і "Крыніца" працягвае добрую традыцыю прадстаўлення чытачу асобных беларускіх пісьменнікаў, так бы мовіць, буйным планам. І, як вядома, у такім выпадку сутыкаюцца розныя меркаванні і ацэнкі. Ды, бадай, ніколі дагэтуль яны не былі такімі супрацьлеглымі, як гэтым разам, што, пагодзімся, таксама пацвярджае, што постаць І. Шамякіна ў літаратуры — неардынарная і да здзейсненага ім кожны ставіцца па-свойму.

Вось толькі асобныя меркаванні:

"Можна шмат пісаць пра І. Шамякіна, але дастаткова сказаць: ПЕРШААДКРЫВАЛЬНІК. А яшчэ мастацкі летапісец свайго часу. Праўда, як я не так даўно даведаўся, Івану Пятровічу падобнае вызначэнне не ва ўсім падабаецца. Што ж, зраблю ўдакладненне, Нестар свайго часу. А Нестар, як вядома, у гісторыі застаўся назаўсёды, хоць пасля яго з'явілася нямала іншых яркіх асоб. Не сумняваюся, што вечна жыць у беларускай літаратуры і І. Шамякіну";

"...сапраўднае мастацтва не церпіць мітусні. Але гэта бяда не толькі аднаго Івана Пятровіча Шамякіна, але і, бадай, усёй нашай сучаснай беларускай літаратуры";

"...шамякінская проза грэе сэрцы колішніх яго прыхільнікаў, няблага чытаецца як т.зв. "школьная класіка", навявае настальгічны ўспамін пра 1960—70-я";

"Менавіта Іван Шамякін прышчапіў беларускаму чытачу любоў да мадэрнізму, навучыўшы бачыць у творы больш, чым было напісана, адшукваць патаемныя намёкі і ілюзіі. Зусім маленькай дзяўчынкай у занядбанай палескай вёсцы я была сведкай таго, як чыталі шамякінскае "Сэрца на далоні" мае бабулі, тады саракагадовыя ладныя кабеты. Кніга была з клубнай бібліятэкі, але туды яна амаль не вярталася, бо хадзіла па руках не горш за самвыдат на пачатку васьмідзесятых";

"...І. Шамякін замацоўваецца ў постмадэрне. Хтосьці за гэтым назірае з цікавасцю, хтосьці — без яе, хтосьці — з абурэннем. Але ва ўсіх ёсць занятак і прычыны, каб не адчуваць сябе дурным маргіналам. Словам: кожны песціць свайго "слана";

"У далёкія пяцідзесятыя, калі яшчэ былі недаразвітыя электронныя сродкі інфармацыі, кніжкі некаторых нашых пісьменнікаў замянялі ім той цукар, якім звыкла прасякнута маскультура — усе гэтыя цяперашнія шматсерыялы і мыльныя оперы... Што ў гэтым дрэннага — спытаеце? Але ж што і добрага? Калі дзіця ўвесь час карміць салодкім, фінал лёгка прагназуецца";

"Спачуваю... Але і люблю яго як чалавека — і за партыйную непахіснасць, і за даходлівы народна-гаваркі стыль, і за нязломнасць сацыялістычнай фабулы, за яснасць, за стандарт, за старанную старасць, за адзінокую самоту на лецішчы, за рэдкія кніжкі, за малыя тыражы, за дробныя ганарары і, у рэшце рэшт, за тую яго нязгасную веру ў наша светлае будучае, за ўсё, чым ён жыў і жыве... Усё-такі — лепшы белетрыст у гісторыі беларускай літаратуры";

"...І. Шамякін становіцца заложнікам социуму, якому прад'явіў рахунак, бо адхіленне ад нормы — менавіта "норма" існавання аблуднага грамадства. Апынуўшыся ў палоне абвергнутага ім свету, пісьменнік вымушаны атаясамліваць сябе са сваімі героямі,

ложных показаний. Я добивался карандаша и бумаги на другой же день, но получил бумагу только сегодня. Спешу сообщить, гражданин следователь, что мои ложные показания сводят следствие на ложный путь. Я живу между двумя ужасами: ареста жены и ужаса ложного показания. Прошу следствие понять, что я мог дать такие показания только в состоянии психоза, высидев 38 часов на стуле, при угрозе ареста другой моей жизни, инвалида жены" (Ластоўскі В. Выбраныя творы. Мн., 1997, с. 456).

Бадай што варта паспрачацца з аўтарам-складальнікам гэтай кнігі, калі ён у прадмове піша: "Не бачым патрэбы ў спецыяльным тлумачальна-ацэначным артыкуле да гэтых тэкстаў (...). Папросту разлічваем на самастойнасць і дасведчанасць сучаснага чытача — дастаткова ўжо абазначанага ў адраджэнскай легендзе Беларусі"... А я ўпэўнены, што такі артыкул, скарэй аналітычны і псіхааналітычны, чым ацэначны, патрэбны. Альбо грунтоўныя каментарыі! (Няхай іх пачаткам стане гэтая мая рэцэнзія). Бо нават калі кніга выходзіць накладам у 500 паасобнікаў, яна застаецца адкрытай не толькі для знаўцаў, але і, выбачайце, для прафанаў. Апошніх заўсёды нашмат больш, чым першых. Урэшце і для "вузкіх" спецыялістаў трэба растлумачыць д'ябальскую сістэму бальшавіцкіх допытаў са зневажальнымі катаваннямі: яны пранікалі ў сферы падсвядомасці, дзе і па ўсіх прыкметах лаяльны чалавек можа выглядаць "злачынцам".

Паўтаруся: матэрыялы допытаў-катаванняў без каментарыяў цяжка зразумець чалавеку хоць бы і разумнаму, але "свежаму", нявопытнаму, не здольнаму пранікнуць у гэтую д'ябальскую апраметную.

Затое вобразы герояў кнігі, нашых пакутнікаў 30-х гадоў ярка і праўдзіва выяўляюцца ў іх творах, у артыкулах і успамінах К. Езавітава, У. Глыбіннага, Р. Склюта, у лістах Якуба Коласа, У. Андэрсана, І. Свянціцкага, К. Душ-Душэўскага, Я. Станкевіча, успамінаў М. Улашчыка, іншых творах, змешчаных у кніжцы.

У раздзеле "Забытыя тэксты" ёсць знойдзены А. Каўкам і апублікаваны арыгінальны артыкул "О "старой" и "новой" Унии" невядомага аўтара. Яшчэ да публікацыі складальнік пазнаёміў мяне з папраўленай карэктурай гэтага твора. Тады я амаль што адназначна казаў: аўтар — выдатны беларускі крытык, філосаф, публіцыст Уладзімір Самойла, вядомы па філасофскім эсэ "Гэтым пераможаш!" Сёння гэтая гіпотэза пацвердзілася: наш літаратуразнавец Юрась Гарбінскі, які жыве і працуе ў Польшчы, сустракаўся з сынам У. Самойлы і чытаў польскую публікацыю артыкула пра адраджэнне Уніі, падпісанага У. Самойлам.

Трэцяя кніжка "Скарыніча" адразу пасля свайго выхаду накладам у 500 паасобнікаў (гэта на ўсю Беларусь і шматлікае беларускае расцярушанне!) сталася амаль рарытэтам. Але яна магла б і павінна істотна паўплываць на паглыбленне нашай гістарычнай і літаратуразнаўчай навукі, ініцыіраваць яе заглыбленне ў трагічную драму беларускай эліты 20-га стагоддзя. А пра складальніка кніжкі, паслядоўніка Ф. Скарыны і прапагандыста ягонай спадчыны, можна сказаць словамі акраверша нашага першадрукара: "Рабіў доктар Скарыніч..."

**Уладзімір КОНАН**

форма пратэсту якіх толькі даказвае нязменнасць соцыуму і мастакоўскіх дачыненняў да яго".

І загалоўкі артыкулаў адпаведныя: "Дастаткова сказаць: "Першаадкрывальнік!", "Эпоху не выбіраюць", "Belarusian DREAM" ("Беларуская мара"), "Іван Шамякін — апостал мадэрнізму", "Іван Шамякін і постмадэрн", "Чалавек з Парнаса", "Вагі павагі", "Загадкі дэльфійскага Аракула, альбо Небяспечнае падарожжа эфора"... Сваімі ўражаннямі пра творчасць І. Шамякіна дзеляцца А. Марціновіч, М. Тычына, П. Васючэнка, Г. Кісліцына, І. Шаўлякова, Ю. Станкевіч, Л. Галубовіч, І. Афанасьеў.

І, канечне ж, воблік І. Шамякіна — пісьменніка, грамадзяніна і проста чалавека — паўстае з гутаркі з Іванам Пятровічам Л. Рублеўскай, а таксама з дзённікавых запісаў І. Шамякіна апошніх гадоў — "Роздум на апошнім перагоне". Несумненна, гэтыя меркаванні суб'ектыўныя, тым не менш даюць шмат падстаў для роздуму. Зноў жа — як тым, хто І. Шамякіна прымае, але і ў не меншай ступені яго праціўнікам, дакладней тым, хто не прымае яго творчасць.

У нумары можна пазнаёміцца таксама з падборкай вершаў Ю. Голуба "Біяграфія пеўня", апавяданнем М. Вайцяшонак "Дом вокнамі ў сад", з творчасцю чэшскага пісьменніка Б. Грабалы і "Павучальнымі навеламі" М. дэ Сервантэса, перагарнуць старонкі жыццяпісу М. Кавыля "Мой шлях".

**Антось НЕСЦЯРУК**

ВІНШУЕМ!

# Яршысты, крылаты і душой малады

## Генадзю ПАШКОВУ — 50

Генадзь Пашкоў — адзін з пакалення сямідзесятнікаў, тых, што нарадзіліся пасля вайны, а ў літаратуру ўваходзілі ў "застойныя" гады. Іх папракалі, што нібыта не здолелі зрабіць значных мастацкіх адкрыццяў, сказаць важкае слова ў паэзіі. Сёння відавочна, што гэта далёка не так. Многія з сямідзесятнікаў маюць неардынарнае творчае аблічча, а іх творчасць вядома далёка за межамі нашай дзяржавы. Адны, як А. Разанаў, вядуць смелыя эксперыментатарскія пошукі нетрадыцыйных форм мастацкага ўвасаблення, другія ж (іх большасць) стварылі і працягваюць ствараць эстэтыку гарманічнага светаўпарадкавання, адзінства, зладжанасці чалавечай душы з акаляючым асяроддзем, эстэтыку гармоніі пачуццяў і настрояў лірычнага героя, яго душэўнага камфорту. Выключэннем не з'яўляецца і паэзія Г. Пашкова.

Паэту ўласціва традыцыйная манера пісьма, знаёмы з дзяцінства багаты рэчыўны свет і вялікая зямная любоў, што перапаўняе сэрца, натхняе і акрыляе думку, яднае ў яго душы ўзвышанае і зямное. Вершы Г. Пашкова рамантычна ўзнёслыя, глыбока лірычныя, кранаюць дасціпнай назіральнасцю. Лірычнаму герою хораша і ўтульна на роднай зямлі, у тым свеце, які яго акружае.

Паэт з самага пачатку засведчыў схільнасць да лірычнага жывапісу. Яго творы прываблiваюць маляўнічымі краявідамі, шматгалоссем лесу і поля, водарам лясных палян, лугавых красак, зеленню маладой травы, белізной снегавых прастораў, асвяжальнымі павевамі ветру, светлымі, сонечнымі фарбамі і нейкай асаблівай гаспадарскай заклапочанасцю, якая, напэўна, перадалася сыну ад бацькі — франтавіка, затым старшыні калгаса.

Тое, што ў паэзію прыйшоў юнак, настроены на высокі лірычны лад, прыйшоў невыпадкова, засведчана ўжо на самым пачатку яго творчага шляху ў першай кнізе "Кляновік" (1975), дзе сабраны ў асноўным пейзажныя замалёўкі. Вершаваныя радкі, як правіла, вывераныя, адшліфаваныя:

***Зямля мая,***
***зялёная расінка,***
***і чую я,***
***акрылены вясной, —***
***пчалой гудзе***
***світальная галінка***
***і пахне дзень***
***праталінай лясной.***

*("Зямля мая...")*

Праўда, часам адчуваюцца запазычаныя інтанацыі, вычытаныя ў сваіх папярэднікаў вобразы ("Як матчыны, маёй Радзімы рукі" і інш.), не хапае жыццёвага вопыту, але ёсць моцная любоў да зямлі, да бацькоўскага краю, якая пазней стане адной з асноўных тэм мастацкага асэнсавання Г. Пашкова, гэтак жа, як і памяць мінулай вайны, партызанскіх котлішчаў, што ўвайшла ў яго творы праз непасрэдных сведкаў і ўдзельнікаў — бацькоў, суседзяў, знаёмых.

Вопыт прыйдзе з гадамі. У першай жа кнізе юнака-паэта ёсць маладая задзірыстасць, самаўпэўненасць, адчуванне трывалай глебы пад нагамі і жаданне мысліць не інакш як касмічнымі катэгорыямі: "Я — чалавек, я многа значу. Я — сонца брат, мой род такі: мне па плячы ўсё перайначыць — і лесу лёс, і бег ракі. Я ўсё магу, мне ўсё пад сілу. Пільнее зрок, цвярдзее крок... " ("Разведаў...").

Пазней, у наступных кнігах ("Дыстанцыя небяспекі", 1979; "Гравюры дарог", 1981; "Зямлю слухаю", 1983) на змену гучным дэкларацыям паступова прыйдзе засяроджаная ўдумлівасць, усведамленне сваёй прысутнасці на зямлі не госцем, а гаспадаром, руплівцам, заклапочаным не толькі ўласнымі інтарэсамі:

***На зямлі я стаю.***
***У курганне урос.***
***Думку паліць жытнёвая воля:***
***Як уткаць у суровы зямлі маёй лёс***
***і маё***
***зарунелае поле?..***

*("Трывога")*

Як відаць, зямля, як і маці, Радзіма, — гэта адна з асноўных катэгорый паэтавага мыслення, стрыжнявы вобраз у мастацкім роздуме пра час і пра сябе.

Паэзія Г. Пашкова — гэта адбітак часу з яго дасягненнямі і выдаткамі, з яго супярэчлівымі ўяўленнямі. Асваенне касмічнай прасторы, навукова-тэхнічная рэвалюцыя, зуд пераўтварэння прыроды, што ахапіў апантаных пераўтваральнікаў, рамантыка камсамольскіх бядняў, паездак на цаліну, годнае ўсведамленне сябе камуністам, услаўленне рэвалюцыйных традыцый, братэрства з расійскім пралетарыятам, памяць мінулай вайны, партызанскіх котлішчаў і бязмежная любоў да роднага краю, да зямлі бацькоў — такі асноўны змест вершаў Г. Пашкова: "Я іду па зямлі. Я гадую даброты зямныя. Каля сэрца білет камуніста сумленна нашу" ("Зямля бацькоў"). "Няма ў прагрэсу заклiку: "Назад!" Ён хуткасці касмічныя раскручвае" ("Чалавек — прыроды карона").

Супярэчлівасць светапогляду — гэта не віна, а хутчэй наша агульная бяда, драма цэлых пакаленняў творцаў, узгадаваных савецкай рэчаіснасцю, але разам з тым гэта і наша гісторыя, якую не абыдзеш і падхарошваць яе няма рэзону.

Светлыя пачуцці перапаўняюць душу лірычнага героя ў вершах Г. Пашкова: "А чаму мне так светла, я не ведаю сам". Яго лірычны герой не пазбаўлены аўтабіяграфізму. Ён думае і жыве перажываннямі аўтара. Цалкам задаволены сваім месцам пад сонцам, ён не канфліктуе з паўсядзённай рэальнасцю, прымае яе такой, як ёсць.

***Хоць не вечны ты***
***на гэтым свеце,***
***але сёння думаеш найперш,***
***што, як снег***
***у гэты ціхі вечар,***
***вольна і шырока пражывеш.***

*("Снегапад вяртання")*

Магчыма, ад перапоўненасці пачуццяў лірычны герой, і дакладней — паэт нярэдка прамаўляе ад першай асобы, абвяшчаючы свае эстэтычныя і маральна-этычныя прынцыпы: "Я — яршысты, крылаты, а душой малады". "Не дай мне, божа, старцам стаць душою, раскай скептыцызму парасці", "Толькі сэрцам быць бы маладым, праўдалюбам і максімалістам". Гэтыя ўстаноўкі, як відаць, не разыходзяцца з жыццёвымі прынцыпамі творцы, якому нават у сённяшняй рэчаіснасці, поўнай парадоксаў і абсурднасці, удаецца заставацца аптымістам і жыццялюбам.

Абсягі мыслення шырэюць, лірычны герой пачынае ўсведамляць сваю прысутнасць не толькі ў межах Радзімы, але і ў Сусвеце, што асабліва характэрна для кніг Г. Пашкова "Зямлю слухаю" (1983), "Маналог на кастрычнік" (1986), "Крокі" (1988, выбраныя вершы і па-



эма), "Люблю, спадзяюся, жыву..." (1990).

У апошняй трывожна прагучала трагедыя чарнобыльскай бяды, дзе найбольш выразна выяўлены гуманістычныя ідэалы аўтара, які спрабуе знайсці адказ на многія пытанні, пастаўленыя паўсядзённай рэальнасцю ("На Мазырскіх узвышшах...", "З безназдзейным прысудам...", "Каб столькі гадоў...", "Сняцца ноччу мне гэткія сны...", "Сонца і стронцый", "Палешукі", "Жанчыны", "Страх" і інш.).

Як грамадзяніна, паэта пастаянна абураюць розныя анамаліі ў грамадскім жыцці і людзі з брудным сумленнем, іх жорсткасць, бесчалавечнасць, бездухоўнасць. Моцным публіцыстычным пафасам вылучаюцца некаторыя вершы ў яго новай нізцы, змешчанай у часопісе "Беларуская думка" (1998, N2); "Мы казалі...", "Вось табе і маем...", "Смерч", "І жылі не так, і працавалі...", "Стукачы", "Сцяна".

"Ужо з пазіцый сённяшняга дня бачу, што Пашкоў, — зазначае яго аднакурснік, пісьменнік В. Шырко, — ніколі не лез у вялікую палітыку, не хістаўся злева направа, куды падзьме вецер, а цвёрда служыў Яе Вялікасці Паэзіі, роднаму слову, і галоўны яго прынцып: "Добра народу — добра мне!" Так, ён "не лез у вялікую палітыку", не мяняў сваіх перакананняў, ці не да канца застаючыся верным запаветам Леніна і партыі, але ўрэшце гэта яго асабістая справа.

Калі шчыра гаварыць пра грамадзянскую пазіцыю Г. Пашкова, то ў некаторых вершах яна падалася мне ці не празмерна дыпламатычнай, што звязана, відаць, непасрэдна з працай на кіраўнічых пасадах, якія вымагаюць быць уважлівым і асцярожным у адносінах з людзьмі: намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Полымя", інструктар ЦК КПБ, цяпер галоўны рэдактар "Беларускай Энцыклапедыі" імя Петруся Броўкі.

На шчасце, у лепшых сваіх вершах ён здолеў узняцца над палітычнымі амбіцыямі і стварыць сапраўдныя ўзоры прыгожага пісьменства, дзе натхненне выплеснулася з моцнай сілай эмацыйнага ўздзеяння.

Пажадаем паэту на парозе яго 50-годдзя новых плённых адкрыццяў і шчасця ў асабістым жыцці.

**Любоў ГАРЭЛІК**

НОВАЕ

# Візітная картка... архіва-музея

У сістэме архіўных устаноў Рэспублікі Беларусь Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва займае асаблівае месца. Створаны ў чэрвені 1960 года як Цэнтральны дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва БССР (у студзені 1976 года стаў Цэнтральным дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва БССР, цяперашнюю назву атрымаў у маі 1993 года), ён займаецца зборам і захаваннем асабістых архіваў прадстаўнікоў беларускай культуры, а таксама дакументаў дзяржаўных і грамадскіх арганізацый гэтага профілю. На 1 студзеня 1993 года ў ім налічвалася 363 фонды, з іх 310 — асабістыя. Разам гэтыя унікальныя матэрыялы складаюць больш за 70 тысяч спраў, што ўтрымліваюць вельмі карысную інфармацыю, якая храналагічна ахоплівае перыяд з другой паловы мінулага стагоддзя да нашага часу. У прыватнасці, у архіве-музеі ёсць дакументы "Нашай Нівы", а таксама пра дзейнасць беларускіх арганізацый у Вільні, Пецярбурзе, Празе, Латвіі, што знаходзіліся ў фондах ліквідаванага ў 1946 годзе Віленскага беларускага музея імя Івана Луцкевіча. Багатая і бібліятэка архіва-музея — больш за 14 тысяч тамоў, больш за 500 гадавых камплектаў часопісаў, 300 камплектаў газет.

Зразумела, гэтыя і іншыя матэрыялы ўяўляюць сабой вялікую цікавасць для даследчыкаў. Дзеля лепшага і больш хуткага карыстання імі архіў-музей сумесна з Камітэтам па архівах і справаводстве Рэспублікі Беларусь і Беларускім навукова-даследчым інстытутам дакументазнаўства і архіўнай справы вырашылі выпусціць даведнік "Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва".

Толькі што з'явіўся першы выпуск яго, што ахоплівае паступленні ў архіў-музей, якія адбыліся ў 1960—1992 гадах (складальнікі І. Асецкая, В. Бярэйшык, А. Варашылава і іншыя). Даведачны матэрыял падрыхтаваны В. Данекінай і І. Міравіч. Прадмова складзена Г. Сурмач і В. Данекінай.

У даведніку змешчаны анатацыі на 280 фондаў дзеячаў беларускай культуры, дзяржаўных і грамадскіх устаноў. У ім тры раздзелы: "Асабістыя фонды", "Калекцыі і зборы", "Дзяржаўныя ўстановы і творчыя арганізацыі".

Даведнік зручны для карыстання. Асабістыя фонды пададзены ў алфавітным парадку, а ўстаноў — па групах. Указаны нумары фонду, вопісаў, колькасць адзінак захавання... Ёсць імянны паказальнік і паказальнік дзяржаўных устаноў і арганізацый.

Наклад выдання невялікі, усяго — 100 паасобнікаў. Але ж з ім можна будзе пазнаёміцца ў самім архіве-музеі, а таксама ў буйнейшых бібліятэках. Таму, сумнення няма, кожны, каму спатрэбяцца звесткі згаданага накірунку, лёгка знойдзе іх.

**Якуб ВЯРЭЙКА**

## Абсягі дзіцячай літаратуры

"Чытанка для дзяцей" — такі падзагаловак мае, складзеная Алесем Сачанкам і рэкамендаваная да друку Навукова-метадычным цэнтрам вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, кніга "Пралеска", жыццё якой дало выдавецтва "Юнацтва". Атрымалася змястоўная хрэстаматыя, што ўвабрала ў сябе самыя розныя творы, якія могуць выкарыстаць выхавацелі дзіцячых ясляў, садоў ды настаўнікі малодшых класаў у сваёй паўсядзённай рабоце. Складаецца кніга з раздзелаў "Беларускія народныя казкі", "Казкі народаў свету", "Мастацкая літаратура". Ёсць магчымасць пазнаёміцца з лепшымі творамі такіх пісьменнікаў, як М. Багдановіч, М. Танк, У. Караткевіч, А. Грачанікаў, П. Панчанка, А. Пысін, Н. Гілевіч, В. Лукша, і іншых.

## Добрае слова пра добрых людзей

Два найбольш вядомыя раманы лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Георгія Марчука "Крык на хутары" і "Кветкі правінцыі" выдавецтва "Юнацтва" выпусціла ў серыі "Школьная бібліятэка". Як вядома, у гэтых творах пісьменнік праўдзіва і з вялікай любоўю расказвае пра сваіх землякоў — людзей той часткі Беларусі, што знаходзіцца ў басейне ракі Гарынь. У "Крыку на хутары" — апісаны даваенныя падзеі, а ў "Кветках правінцыі" — пасляваенны час. У выніку ахоплены значны прамежак часу, што адбіваецца ў лёсах тых, хто каранямі прырос да гэтай зямлі, але кожны па-свойму разумее і шукае ўласнае шчасце.

## Дзень воіна ў музеі

Першым сакавіцкім днём у Дзяржаўным Літаратурным музеі Янкі Купалы адбылася сустрэча з маладымі "беларускімі сынамі" — вайскоўцамі Мінскага гарнізона. Ужо не першы раз прапанову аб правядзенні мерапрыемстваў такога кшталту выказвае Цэнтральны Дом афіцэраў. І гэта заўсёды прыхільна сустракаецца ў музеі.

І калі ўжо наканавана было спаткацца пагожым вясновым дзянёчкам напярэдадні свята 8 Сакавіка, то і тэма размовы ўзнікла нібы сама сабою: каханне і культ жанчыны ў лірыцы Янкі Купалы. З невялікім дакладам па абранай тэме выступіла навуковы супрацоўнік музея А. Дубовік, эмацыянальна і пранікнёна прачытала некалькі вершаў Купалы старэйшы навуковы супрацоўнік Н. Каралюк. Акрамя таго, паэт Сяргей Панізнік прапанаваў да ўвагі слухачоў некалькі купалаўскіх і некалькі сваіх вершаў. А паэтэса Антаніна Хатэнка — стала сапраўдным упрыгожаннем дзеі, бо словы яе гучалі шчыра і натуральна, а пяшчотныя паэтычныя радкі кранлі нават самыя патаемныя струны душы.

Напрыканцы свята сваё майстэрства прадэманстраваў народны музычны калектыў ЦДА "Мінскі гармонік" пад кіраўніцтвам Івана Раманчука. Спецыяльна да гэтага мерапрыемства была падрыхтавана цудоўная праграма, якая не пакінула раўнадушным нікога з прысутных. Артысты выканалі шэраг новых песень, у тым ліку і на словы Янкі Купалы.

Сустрэча адбывалася ў камернай зале і гэта надало размове вельмі спакойны, даверлівы і адначасова ўзнёслы характар. Атмасфера была створана вельмі цёплая і добразычлівая. Інакш і быць не магло, бо кожнае спатканне з паэзіяй — незабыўнае.

## "Першацвет", N 2

У другім нумары "Першацвета" паэзія прадстаўлена імёнамі В. Гапеевай, М. Адама, К. Рачовай, Т. Будовіч, А. Кавалеўскага, М. Лагодзіч, Л. Каркоткі, А. Дылюка, В. Драздовай, П. Гаспадыніча, проза — В. Баранавай, А. Бацюкова, А. Дубасавай, А. Любага, В. Дашкевіч, А. Чаплінскай. У "Гасцёўні" змешчаны вершы А. Варановіча, слова пра якога "Карабель мой з маленства адплыў..." прамаўляе Ю. Свірка.

Эсэ Н. Кузьміч "Басанож за ручаём" прысвечана разгляду кнігі Ю. Алесьнінай "Мне прысніўся ручай", змешчанай у трэцім нумары "Першацвета" за мінулы год. М. Шахаўцова ("Ці змянілася што пад сонцам?") дзеліцца ўражаннямі ад зборніка М. Чарняўскага "У трох соснах". Н. Дзенісюк выступае з аглядам "Новае ў культурна-літаратурным жыцці Гомельшчыны". "Асабістыя ўражанні" — такі падзагаловак даў сваёй рэцэнзіі на аповесць В. Казько "Да сустрэчы..." Я. Конеў ("Адыход Ашыра").

С. Нарэйка прапануе штрыхі да партрэта С. Полацкага ("Настаўнік царскай сям'і"). У "Жароўні" — апавяданне А. Чэрнік "Чарцяня", вершы Аўдзея Дабрадзея, А. Дуброўскага, гумарэска З. Вішнева "Аповед пра страшыдлу".

ПАЭЗІЯ

Мікола МЯТЛІЦКІ



# Збалелым сэрцам Беларусь тварыць

•

*Скідае Час, як гнеды са спіны.*
*І толькі памяць — іскры ад падкоў.*
*Імчацца дні — нібыта скакуны*
*Па полі бою мчаць без седакоў.*

*Ўжо колькі іх без вершнікаў былых*
*Да вечнасці шыбуе на папас.*
*Пачую вас —*
*напружу толькі слых, —*
*Сышоўшыя з дыстанцыі не ў час.*

*Магільны куст галінкай варухне,*
*Расою горкай раніцы гарыць.*
*Стокроць цяжэй*
*пад небам сёння мне*
*Збалелым сэрцам Беларусь тварыць.*

## Свірскі вус

*Кусцістага альшэўніку абложа*
*Блакіту поўна. Зіхаціцца гожа*
*Лясная азярына — Свірскі вус.*
*І сонца ў небе, ўсчаўшы падарожжа,*
*Вядзе праменна з хвалямі хаўрус.*

*Валун на груд ускочаны вякамі,*
*Нібыта дужых прашчураў рукамі,*
*Легендай вабіць пра былінны клад.*
*Русалкамі схаваны й ведзьмакамі,*
*Што збеглі дзесь за шызы далягляд.*

*У чаратах, здушыўшы хвілю спуду,*
*Замёр рыбак, узнёсшы хвацка вуду,*
*Трымаючы на вудаўі стракоз.*
*Іх крыльцы залатыя — кроплі цуду —*
*Калыша-адбівае сіні плёс.*

*Ужо сугрэўна, шчодра сонца млее.*
*Жарынкаю суніца ў травах спее.*
*Над водамі — раздолле вецярку:*
*Цікуе, як раскрыецца лілея,*
*Каб казытнуць свавольніцы шчаку.*

*Шчыруе дзень —*
*успараны, спякотны, —*
*Туман, згарнуўшы белыя палотны,*
*Падасца скрытна ў векавы гушчар.*
*І касавіца, твар умыўшы потны,*
*Замрэ стаёна над люстэркам чар.*

•

*Сведка помны — дуб разгалы*
*На пакінутай сядзібе.*
*Промень раніцы няўдалы*
*Сіратліва блісне ў шыбе.*

*У траве па вокны хата.*
*Гаспадар і гаспадыня*
*Ў днях былых далекавата —*
*На кладах даўно ў спачыне.*

*Тут, буцвеючы, гібее*
*Між дзічэўя агароду*
*Чалавечая надзея*
*На працяг жывога роду.*

*Трусіць воблак белым чубам,*
*Матылёк над кветкай грае.*
*І стаіць разгалым дубам*
*Вечнасць хмурая на ўскраі.*

*Жалуды пасее-кіне*
*Дуб запозна ў дол халодны.*
*Завітае сын-бадзіня*
*На падворак глянуць родны.*

*Уздыхне тужліва, цяжка,*
*Развядзе агонь у печы.*
*На стале пустая пляшка*
*Застанецца ад сустрэчы.*

## Танец

*На сцэне хойніцкай раённай*
*Абцасаў гулкі перабор:*
*Гарэзна, шырака, натхнёна*
*Ўзлятае танец, як віхор.*

*Ды рытму выбітага прага*
*Тугой агорнецца густой,*
*Нібы на даху саркафага,*
*А не на сцэне танец той.*

*І ўжо ўвачччу туман імгліцца.*
*Глядзіш затоена, сасмяг.*
*Дыхнуць баішся: праваліцца*
*Пад танцам здатны "саркафаг".*

*О, веку жорсткія балячкі!*
*Працяты вамі зрок і слых.*
*Танцуйце, юныя зямлячкі.*
*Я утрымаю вас, малых.*

## Індыйскае кіно

*Замёршы, гучна ўсхліпне зала,*
*Аж ветру ўзвыву не чутно.*
*Пагудка вёсачку сабрала —*
*Ідзе індыйскае кіно.*

*Нібыта вылезла са склепа —*
*Забылі, што й слыве жывой —*
*У радзе першым баба Сцепа*
*Бліскоча пасмаю сівой.*

*Бязногі Міхал плача шчыра,*
*Бы век не знаў другой бяды.*
*Любоў далёкага Кашміра*
*Ва ўздых грудзей зліла рады.*

*Хвіліны той суладнай, боскай*
*Гарчэчы слёзнае адпі.*
*Гудзе расчуленая вёска,*
*Бы з гліны, з душ яе ляпі.*

*Быў палітычна скіраваны*
*Не раз сяла уздых такі.*
*Ляпілі ўгодлівых тыраны*
*І сёння лепяць — языкі.*

## У доме састарэлых

*Усхліпне ноч у скутым жалі*
*У рог казённай прасціны.*
*На смерць уласную збіралі*
*З нішчымнай пенсіі яны.*

*Густой цямотаю укрые*
*Іх боль, як хмарай ахіне.*
*І ўжо нямоглыя старыя*
*Забудуцца ў кароткім сне.*

*Ад ношы лёсу здрыганууцца,*
*Да самых прыхваткаў святла*
*Былыя жылістыя пнуцца —*
*Клубок клапот ім ноч дала.*

*Рукой дзяцей галодных горнуць*
*І месяць хлеб на лебядзе.*
*З адышкай горычнай у горле*
*Грудзьмі ўстаюць напроць бядзе.*

*І косяць, жнуць —*
*з заўсёдным спехам,*
*Пякуць жарыны-мазалі.*
*І бачаць з радасным усцехам:*
*Нарэшце дзеці падраслі!*

*Душой у мройлівым уздыме*
*Дарослых іх прывецяць зноў*
*І, ўжо абкрадзеныя імі,*
*У яву вернуцца са сноў.*

## Дошка гонару

*Партрэт на дошцы ганаровай*
*Калее між завейных зім.*
*У мроку цішы вечаровай*
*Ніхто не знае, што за ім.*

*Праліты пот? Яго замала,*
*Каб стацца гонарам сяла.*
*Тады ўсяго й закрасавала,*
*Калі з парторгам спаць лягла.*

*Дзярэ душу агіда гэта.*
*Здалося раптам: бачыць свет,*
*Чым з урачыстага партрэта*
*Глядзіць жыцця другі партрэт.*

*Парторг усцешаны на ганак*
*З канторы выйдзе, прамаўчыць.*
*Вачамі ўломаных каханак*
*Уся Дошка гонару блішчыць.*

## Спецсанаторый

*Пад назіркам ахоўнікаў*
*Падальш ад чэрні-пошасці*
*Снуюць былых чыноўнікаў*
*Прыгорбленыя постаці.*

*Вядуць іх крок умераны*
*Алеі санаторныя*
*У свет, такі зняверааны,*
*Сапуць, ад злосці чорныя.*

*Ля ног — жыцця абваліна.*
*Асфальт кавенькі мацаюць.*
*"За Сталіна! За Сталіна!" —*
*Ўстаўныя зубы кляцаюць.*

*Пад лісцвяной завеяю*
*Дрыжаць старэчай стомаю.*
*Іду глухой алеяю*
*Насустрач трыццаць сёмаму.*

## Мне і табе

Ірыне

*У восені прыспешлівай гразьбе*
*Ўзнясі, мой дзень,*
*свой пошуг сакаліны.*
*Вачэй іскрынкі зорныя — табе,*
*А мне — пад імі першыя маршчыны.*

*У лецейка кароткага журбе*
*Багата лёсу стоена гарчыны.*
*Ранет, наліты золатам, — табе.*
*А мне — на шызым моху журавіны.*

*Скакун жыцця атаву даскубе.*
*І час-пясок дасочыць*
*век нам жменяй.*
*На тры глыткі*
*больш радасці — табе.*
*А мне няхай —*
*на тры зацяжкі меней.*

## Прызнанне

*Маім бальнічным быў суседам*
*Наменклатуршчык адстаўны.*
*Унучкі дыхаюць над дзедам*
*І ў дзённы час, і ў час начны.*

*І вось сваім раздольным храпам*
*Паведаў ім, няшчасным, дзед,*
*Што вырваўся з драпежных лапаў*
*І не спяшае на той свет.*

*Узняўся з ложка — свежы, дужы,*
*Інтрыг палітыкі знаток.*
*Унучкі свецяцца, як ружы,*
*Блішчаць плялёткі вабных шчок.*

*Пайшлі. Ўздыхнуў сусед: — Во чэрці!*
*Маё гультайкі дзве жаюць.*
*Хацеў даўно было памерці,*
*Ды бачыш, шэльмы не даюць!*

## Узвіжанне

*Статак зорны месяц з неба выгане,*
*Ранак пырхне ў вербах трапяткіх,*
*І палямі соннымі Узвіжанне*
*Рушыць да аселіц бабчынскіх.*

*Ў вышыванкі досвета прыбранае,*
*Завядзе на лаўках ля платоў,*
*Светлае, узрушлівае, п'янае,*
*Галасамі кумак ды сватоў.*

*Развядзе касцёр — на росным выгане*
*Кум цалуе шчодрую куму.*
*Шмат адкрые таямніц Узвіжанне*
*Позірку цікаўнаму твайму.*

*Вунь у Нюры — у акенцы-светліне —*
*Узлягае ў ложку мірна Кез,*
*Каля Сцепы, хоць і час бязветраны,*
*Трусіць голлем кругалверхі бэз.*

*Месяц поўны над абшарам моргае,*
*Гукі вёскі мруць у цішыні.*
*І сусед арэхаў жменю торкае,*
*Каб ягонай жонцы: а-ні-ні!*

# ДЗВЕ СМЕРЦІ СІЛЬВЕСТРА ЛАЎРЫНОВІЧА

Віктар ШАЛКЕВІЧ



АПАВЯДАННЕ

НОЧЧУ ў дзверы плябаніі нехта асцярожна пастукаў. Адчыніць не было каму — старая Адэля Мацейка, кухарка, аканомка і прачка адначасова, была пазаўчора адпушчаная ў вёску на Каляду да дзяцей і з прычыны завеі, што грасавала ўжо два дні і дзве ночы, дагэтуль не вярнулася. Значыць, усё ж такі адчыніць не было каму... Ксёндз Сільвестр урэшце прачнуўся, узняўся на пасцелі і прыслухаўся на момант: за сценамі выла завіруха, але, акрамя яе, нічога чуваць не было.

— У, паганства! — злосна прамармытаў ён, перавярнуўся на другі бок і паспрабаваў зноў заснуць. Ён ведаў — у такую пару ніхто ні з яго парафіянаў, ні з сяброў ці знаёмых да яго з пільнай патрэбаю альбо проста так не паедзе. Парафіяне, дзікуны і недавяркі, нават паміраючы, будуць цярпліва пакутаваць да ранку, бо турбаваць ксяндза ўначы ім заўсёды здавалася грубіянствам. А сябры... сяброў у яго не было... Паўміралі, параз'язджаліся хто куды...

Стукат паўтарыўся раз, потым другі. Ксёндз адкінуў пуховую коўдру, устаў з ложка, намацаў нагою цёплыя пантофлі, запаліў газавую лямпу, накінуў на плечы чугай і выйшаў у настылыя сені.

— Хто там? — запытаўся ён.

— Хай будзе пахвалёны Езус Хрыстус, — пачуўся за дзвярыма ахрыплы мужчынскі голас.

— Навекі, навекі, а цо сень стало?

— Прошэ ксендза, бардзо ксендза потшэбуемы.

— А в якей то справе?

Мужчына за дзвярыма, можна было меркаваць, завагаўся, потым адказаў:

— Брат родзоны умера.

Ксёндз Сільвестр адсунуў завалу і адчыніў дзверы. За парогам у цемры скурчыўся ад холаду незнаёмы нетутэйшы селянін.

— Чловеку, — здзівіўся ксёндз, — зачэкай, а чы ты естэсь з моей парафіі, цось я цебе не познае.

— Э-э-э... — захваляваўся і вінавата апусціў галаву селянін. — Проша ксендза, — і ён злез на тутэйшую, простую гаворку, — мы, проша ксендза, належым да Лыскава.

— Як гэта да Лыскава? Ах, да Лыскава... Ну, дык што, хіба вы не маеце свайго ксендза? Чы не ўстыд, не сорамна вам у такую ноч і ў такую гадзіну дакучаць...

"У-у, быдла няўдзячнае"...

Ксёндз раз'юшана паглядзеў на прыбыша і хацеў зачыніць дзверы.

— Проша ксендза, проша ксендза, хай ксендз паслухае, — горача заляментаваў селянін, схапіў грозную ксяндзоўскую руку і пачаў яе цалаваць.

Ксёндз Сільвестр адчуў, як паміж пальцаў усунулася і прыемна захаладзела ў руцэ нешта круглае. "Ого, залатнік", — здзіўлена акрэсліў ён. — "Ну што ж, прыйдзецца ехаць".

Пра хцівасць ксяндза Сільвестра Лаўрыновіча хадзілі легенды, пра яе ведалі не толькі яго парафіяне, але і ўсе каталікі і праваслаўныя на сотню вёрстаў навокал. Даходзіла да парадоксаў — за грошы ксёндз Лаўрыновіч мог, парушыўшы ўсе касцельныя каноны і правілы, адправіць жалобную імшу па вісельніку, самазабойцу, мог вызначыць яму на месца вечнага спачынку сярэдзіну могілак, урэшце, мог таемна, ноччу, пахаваць уніята не на праваслаўных, як патрабаваў суровы закон, а на каталіцкіх могілках.

Чаму мог? Ён і рабіў гэта, і хоць мясцовыя поп Добрамысленскі і ўраднік Апрышчанка здагадваліся аб ягоных своеасаблівых кантактах з "упорствуюшчымі", тым не менш, нічога даказаць не маглі, а ксёндз дэкан ваўкавыскі Альбін Бяленік як штось і ведаў, то маўчаў.

Хцівасць, гэты рухавік прагрэсу, увесь час штурхала ксяндза Сільвестра на новыя і новыя авантуры і антыўрадавыя злачынствы.

Чаму ён быў такі хцівы?.. Хадзілі чуткі, што ў яго ёсць старэйшая сястра, вельмі паганая і брыдкая, і ён збірае грошы дзеля таго, каб аддаць яе ўрэшце замуж і купіць ёй у пасаг камяніцу ў Вільні. Хадзілі чуткі, што гэта не сястра ягоная, а палюбоўніца, а то нават і дачка. Розныя, адным словам, хадзілі чуткі.

Парафіяне — гэты кангламерат яцвягаў, мазуроў, ліцвінаў і палешукоў — пасмейваліся над ксяндзом Сільвестрам, над ягонымі "авантурамі", і паміж сабой называлі яго Сальвэсем і Дзюбаю. Даўжэзны, худы, як шляхецкая кабыла, згорблены, з велізарным, заўсёды чырвоным ад катару носам, ён сапраўды зарабіў гэтую мянушку. Скончыўшы калісьці тэалагічны факультэт Віленскага універсітэта, ён гадоў дваццаць вандраваў, бадзяўся з адной парафіі ў другую, сварыўся з парафіянамі, з касцельнымі ўладамі, зноў пераязджаў, пакуль аднойчы назаўсёды ўжо не ўстаткаваўся ў мястэчку на самым ускраі Ружанскае пушчы. Паходжаннем ён быў тутэйшы, ліцвін, бацька ягоны калісь меў невялічкі фальварачак пад Наваградкам.

— То, будзе, будзе, чалавеча, не ляментуй ужо, — па-добраму супакоіў ён селяніна. — Чакай мяне праз паўгадзіны на труханавіцкай дарозе, за касцёлам. Толькі каб усё было ціха. Разумееш?

— Ага! — узрадавана адказаў той і знік у завірусе...

Праз паўгадзіны ксёндз Сільвестр, асцярожна прыціскаючы да грудзей скрыначку са святымі дарамі, тросся ў звыклых сялянскіх санях, захінуўшыся ў велізарны авечы кажух, на гурбе прэлага леташняга сена.

Яны ехалі гадзіны тры, спярша па голым ускаламучаным белым полі, потым вельмі доўга сунуліся па пушчы. Кволая кабылка, як ні дзіўна, ведала дарогу, вазніца ёю амаль што не пакіроўваў, а яна ўпарта цягнула сані праз завею.

Ехалі моўчкі, пытанняў у такія моманты кнсёдз Сільвестр не задаваў ніколі і нікому. Селянін толькі часам спалохана выцягваў галаву, спыняў раптам кабылку і напружана ўслухоўваўся ў свіст завірухі... Потым ціха гаварыў: "Но пайшла, но..." і яны ехалі, ехалі далей. Ужо пад канец дарогі, калі да жаданай мэты заставалася, па словах селяніна, вярсты паўтары, ксёндз Сільвестр, стомлены, задрамаў.

...Сям'я ягоная жыла бедна, асабліва ў апошнія пяць гадоў перад смерцю бацькі. Той, як бы прадчуваючы свой няхібны скон, пачаў злоўжываць жыццём: ссабачыўся, піў, гуляў, выцягваючы з хаты апошнюю капейку; калі яе не знаходзіў, то нёс да жыда ў карчму ўсё, што было прадаць ці закласці. Так аднойчы прапала са сцяны старая прадзедаўская шабля часоў яшчэ Стэфана Баторыя, а матчыны пасаг — куфар — дзень пры дні пусцеў і пусцеў. І аднаго разу, студзеньскім ранкам, прыцягнулі нейкія чужыя людзі дахаты бацьку ледзь жывога, пасінелага, збітага, без вопраткі і без ботаў. Пад вечар ён, не прыходзячы да памяці, сканаў. Сканаў без споведзі і сакрамэнтаў...

Сані апошні раз тузануліся і потым лёгка пасунуліся па добра наезджаным шляху. Ксёндз Сільвестр расплюшчыў вочы. У лесе завея трошкі стрымалася, саслабела, прыціхла, толькі недзе там, у вышыні, гнуліся і трашчалі пад яе безлітаснымі цёсамі заледзянелыя галіны старых бяроз і ялінаў. Усё жывое навокал, і зямля, і паветра, і дрэвы, — стагнала і скардзілася на лютыя часіны, на холад, на ноч, на завіруху.

...Пасля бацькавага пахавання матка ціха сказала: "Ну, што, сынку, трэба камусьці маліцца на гэтым свеце за бацьку, каб яму было лягчэй на тым..." І Сільвестр Лаўрыновіч, выконваючы матчыну волю, праз некалькі гадоў паехаў у Вільню...

Засвяціўся, палахліва заміргатаў недзе блізка за дрэвамі агеньчык.

— Проша ксендза, пад'язджаем ужо, — асцярожна дакрануўся да ягонага пляча вазніца.

Сані спыніліся ля ганка якойсьці ці то смалакурні, ці то леснічоўкі, ці то старасвецкага палацыка, — ксёндз Сільвестр так і не здолеў разглядзець, што гэта быў за будынак. У тую ж хвіліну на сходы выбег, трымаючы ў руцэ запалены кволы ліхтарык, згорблены сівы стары.

— Хутчэй, хутчэй, проша ксендза! — жаласна заляментаваў ён. — Хутчэй, бо ўжо канае.

Стары падбег да саней, схапіў ксяндза за руку і пацягнуў за сабою. У змроку доўгага і вузкага калідора сядзелі, прытуліўшыся да сцен, ці проста ляжалі на падлозе людзі — звыклыя мужыкі, сяляне. Адныя спалі, другія проста маўчалі.

— Сюды, сюды, проша ксендза, — узрушана прасіў стары.

Некаторыя, пачуўшы слова "ксёндз", спалохана прачыналіся, ускідваліся з месца, зрывалі з галоў шапкі і таропка выгаворвалі словы прывітання: "Няхай бэндзе пахвалёны...", "Навекі, навекі..." — сурова мімаходзь адказваў ксёндз. — "Чаму ў шапках у хаце седзіце?" Тыя вінавата чырванелі: "Выбачайце, проша ксендза".

— Сюды, сюды, проша ксендза, — і сівы стары адчыніў перад ім дзверы апошняга пакоя.

Гарэла ледзь-ледзь маленькая лоевая свечка на падлозе, і толькі дзякуючы ёй можна было разгледзець, што ў гэтым пакоі быў нехта яшчэ. На вялікай бруднай драўлянай лаве, якая калісьці служыла гаспадарам гэтага дома за ложак, ляжаў нерухома юнак гадоў на васемнаццаць з белым, смяротна белым тварам. Пачуўшы, што нехта ўвайшоў, ён паволі расплюшчыў вочы і зрабіў неверагоднае намаганне, спрабуючы ўстаць.

— Ляжыце, ляжыце, — папярэдзіў ягоны рух ксёндз Сільвестр, падышоў да лавы і сеў на край.

— Прабачце мне, калі ласка, шаноўны айцец Лаўрыновіч, — аддыхаўшыся, праз хвіліну прагаварыў юнак, — прабачце за турботы ў такую ноч, але што зробіш? — і ён вінавата, па-дзіцячы, усміхнуўся. — Да Лыскава, вядома, бліжэй, але я не хацеў рызыкаваць жыццём сваіх людзей...

"Інсургенты". — Ксёндз Сільвестр зразумеў, куды ён трапіў.

"Інсургенты", — закруцілася ў галаве страшнае слова. Значыць, уся гэтая гісторыя з паміраючым братам — выдумка, ніякага брата не было, селянін яго проста ашукаў...

— Мне што, мне жыць засталося некалькі гадзін, дай Божа, я ўсё пра тое, што лыскаўскі ксёндз... не вельмі надзейны чалавек. Вы ўжо, пэўна, здагадаліся, хто мы?

"Так, інсургенты"... Ксяндзу Сільвестру стала раптам ажно млосна ад гэтай думкі, але, тузануўшы лысаю галавой, каб адагнаць ад яе ўсё дурное, ён супакоіўся і працягваў слухаць далей.

— Я вырашыў, што будзе найлепей, калі сюды прыедзеце вы, тым больш, што ведаю шмат добрага пра вашы спачуванні да бедных уніятаў, пра вашую рызыкоўнасць і смеласць. І дзякуй Богу, я не памыліўся — вы прыехалі.

"Нічога не разумею, што ён ад мяне патрабуе", — моўчкі думаў ксёндз Сільвестр.

— Я хачу перш за ўсё выспавядацца, — папрасіў юнак.

Ксёндз па старой ксяндзоўскай звычцы згодна кіўнуў у адказ, падсунуўся да паміраючага бліжэй, нагнуўся і прышыкаваўся слухаць.

— Няхай будзе пахвалёны Езус Хрыстус, — прашаптаў той непаслухмянымі, сухімі вуснамі.

І раптам галава ягоная бязвольна пачала хіліцца набок, зрэнкі пачарнелі і патухлі, а з вуснаў і з носа пырснулі на падлогу і на сутану цёплыя струменьчыкі ружовай крыві.

Ксёндз Сільвестр тузануўся, і інстынктыўна паспрабаваў абцерці даланёй сляды крыві. "Ён жа памірае!"— як маланка праз хмары прабілася да яго шалёная думка.

— Божа мой, памірае, людзі, хтонебудзь, хутчэй сюды, — закрычаў ён.

Сівы стары, убегшы першым, схапіў з падлогі і ўклаў хлопцу ў яшчэ цёплыя пальцы цьмяную лоевую свечку; укленчыў і пачаў гучна адмаўляць "Анёл панскі".

За ім уважліва і нясмела сталі, туляччыся да набрынялых шэрых сценаў, зарослыя, страшныя, у жабрацкіх лахманах, дзіўныя людзі з халоднымі вачыма, падобнымі да зімовых зорак. Ксёндз Сільвестр зразумеў, што тут ён непатрэбны, што ехаў дарма, што спазніўся, і зрабіць ужо нічога не зможа. Ціха выйшаў ён з пакоя і невядома чаму пасунуўся на другі канец калідора, спыніўся праз некалькі крокаў, бязвольнай рукой адчыніў якіясьці дзверы, пераступіў парог маленькай каморкі з адной чатырохкутнай шыбаю, праз якую прабіваўся холад і свіст завірухі, сеў на вузкую лаву ля сцяны і моўчкі прасядзеў невядома колькі часу.

За сцяной хтосьці пракашляўся і той самы хрыпаты, стрыманы голас, прыняўшы на сябе сумную і незвычайную місію, саромеючыся, пачаў: "Што ж хлопцы, памолімся за душу нашага пана Яна, каб ёй на тым свеце лягчэй было". "Ойча наш, каторы ёсць..." — загудзелі ў адказ яму, як пчолы, мужчынскія галасы.

І ксяндзу Сільвеструу першы раз за ўсё жыццё зрабілася сорамна і страшна. Ён не баяўся нічога: ні чорта, ні д'ябла, ні ўлады, ні духаў, а тут яму насамрэч зрабілася сорамна і страшна. Гэты малады паніч, амаль яшчэ хлопчык, не зведаўшы, пэўна, у свае васемнаццаць гадоў ні жыцця, ні кахання, ні кабеты, памёр. Памёр у чужым негасцінным доме на халоднай лаве, памёр за справу, якая ў самым сваім пачатку была асуджаная. Ці мог ён і ці павінен ён быў яго суцешыць і чым? Нічым... Што ён змог бы, паспеў бы яму сказаць за тыя кароткія хвіліны? Што ўжо дзесяткі, сотні такіх, як ён, вісяць, гойдаюцца на шыбеніцах у Вільні, Гародні, Беластоку і Ваўкавыску? Што інсурэкцыя была нікому непатрэбная? Але ці па-хрысціянску гаварыць аб такіх рэчах канаючаму? Ці варта гаварыць?

"Злучы сваю крывавую ахвяру з яго крывавай ахвярай, — гулі побач галасы. — Хай ня будзе дарэмнай тая ахвяра, і няхай на залітай вашаю крывёю зямлі закрасуе братняя любоў і свеціць сонца волі і шчаснай долі народаў. А яшчэ просім цябе за суседзяў нашых, якія загінулі, не выпускаючы з рук зброі, загінулі з тваім іменем на вуснах у надзеі ўваскрасення і вечнага жыцця: за Бутрыма Паўла, за Шышку Івана, за Клімовіча Яна, за Івіна Чэся, за Кедзіка Дамініка, за ўсіх нашых братоў, вядомых і невядомых..."

"А што будзе з гэтымі няшчаснымі? Куды ім дзецца? Вяртацца ў свае вёскі на смерць? Працягваць змагацца вось у такой колькасці і з такой смешнаю зброяй — косамі і віламі? Яшчэ горшая смерць. Чаму, чаму вось так? Страшыш іх усё жыццё пеклам за грахі, папярэджваеш: маўляў, не ўкрадзі, не забівай, не лезь не ў свае справы, сядзі цішэй вады, ніжэй травы — не!!! Прыходзіць вось такі малакасос, дурніца, хлопчык, пляце рознае глупства аб волі і Бацькаўшчыне — і яны яго слухаюць, яны яму вераць, бяруць у рукі зброю і ідуць за ім! Якая бязглуздзіца... Божа мой, Божа мой, а чаго я тут чакаю? Можна ж было спакойна сесці ў сані і праз тры гадзіны апынуцца ў цёплай хаце, легчы ў пасцель і з чыстаю

*(Працяг на стар. 12)*

## I падручнік, і даведнік...




**...І проста цікавая прыгожая кніга, якая можа стаць "сябрам дома" многіх культурных людзей. Зрэшты, "многіх" — сказана паспешліва. Бо наклад новай кнігі толькі 800 экземпляраў, і гэта, без сумневу, значна меней, чым лічба не патэнцыяльных чытачоў.**

**Для тых, каму літаратура па беларускай музычнай культуры патрэбная, як свежае паветра, выданне працы Альбіны Скорабагатчанкі "Народная інструментальная культура беларускага Паазер'я" будзе ключом да вырашэння даўніх прафесійных праблем, зробіцца своеасаблівай энцыклапедыяй, добрым кансультантам, дасведчаным суразмоўцам.**

**Аўтар працавала над матэрыялам дзесяць гадоў: выязджала ў фальклорныя экспедыцыі, збірала ўзоры інструментальнай ансамблевай музыкі, традыцыі якой набылі новае самабытнае жыццё ў сённяшнім Паазер'і; даследавала і аналізавала эвалюцыю нашай народнай інструментальнай культуры ад старажытных часоў да сучаснасці...**

**Новае выданне вартае асобнай, няспешнай размовы з самой даследчыцай. Размова такая ў хуткім часе на старонках "ЛіМа" адбудзецца. А пакуль, інфармуючы грамаду пра выхад у свет кнігі Альбіны Скорабагатчанкі, дададзім яшчэ колькі фактаў. Выйшла яна ў выдавецтве "Беларуская навука" пад эгідай Міністэрства культуры Беларусі ды Беларускага універсітэта культуры. Адрасуецца фалькларыстам, этнолагам, музыказнаўцам, а таксама — у якасці навучальнага дапаможніка — усім, хто вучыцца ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных установах культуры і мастацтваў. Навуковы рэдактар працы — доктар мастацтвазнаўства, прафесар Ігар Мацієўскі (С.-Пецярбург). Адмысловае афармленне кнігі зроблена мастачкай Ларысай Мележ.**

**С. Б.**

## Мела назву — "Беларускі шлях"

**Была на пачатку стагоддзя газета, якая мела назву "Беларускі шлях". Яна прытрымлівалася нацыянальна-дэмакратычнага накірунку і выходзіла штодзённа ў Мінску з 8 сакавіка да 23 жніўня 1918 года. Рэдактарам-выдаўцом першага нумара быў П. Аляксюк, а астатнія выходзілі пад рэдакцыяй А. Гаруна. "Беларускі шлях" супрацоўнічаў з газетай "Вольная Беларусь" — мела агульных аўтараў, рэдакцыі абменьваліся некаторымі матэрыяламі. "БШ" падтрымлівала палітыку Рады БНР і яе выканаўчага органа — Народнага Сакратарыята Беларусі. У перадавых артыкулах і іншых матэрыялах асвятлялася сацыяльна-эканамічнае і палітычнае жыццё Беларусі пасля Брэсцкага міру. Вялася актыўная палітыка супраць русіфікацыі і паланізацыі беларускага народа. Газета выступала за пасляваенны саюз былых народаў Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, спрыяла арганізацыі беларускіх школ, асветніцкіх гурткоў, паведамляла аб планах стварэння Беларускага універсітэта. На старонках "БШ" была апублікавана Устаўная грамата Рады БНР, паводле якой Беларусь абвяшчалася незалежнай, непадзельнай і дэмакратычнай рэспублікай.**

ПОГЛЯД

***Жыццё перакулілася дагары нагамі. Ці не гэты самы прынцып мусіць спавядаць драматургія? Рабі насуперак вызначанаму і "законнаму" — першае правіла сучаснага дрампісьменніка?.. А што?..***

Няцяжка заўважыць тэндэнцыю, накіраваную ў бок, супрацьлеглы сучаснаму тэатру: айчынная драматургія робіць сізіфаву працу, калі пераўтварае будучы спектакль у тэкставыя (цесныя) рамкі слоў, сказаў, рэплік.

Прыкладам "сучаснай псіхалагічнай драмы" з'яўляецца пастаноўка У. Матросава і В. Баркоўскага "Пестуны лёсу" па п'есе А. Паповай. На сцэне — атмасфера істэрыкі. Хворае паветра. Хворыя людзі. Своеасаблівая "Палата N 6".

Каталізатар атмасферы — Ірына (Т. Гаркуша). Заціснутая бытам жанчына. Як воз, што ў розныя бакі цягнуць рак, лебедзь і шчупак, разрываецца яна між сваіх блізкіх. З аднаго боку — былы муж са сваёй палюбоўніцай, якая прэтэндуе на яе, Ірыніну, жылплошчу. З другога — бацька-маразматык і яго сядзелка, што таксама заяўляе свае правы на ка, "ездзіць" з ім у Маскву, разам прымаць парады, каб толькі не пачувацца адзінокай.

Істэрыкам на сцэне спадарожнічаюць крыкі — кожнай душы, якая пасялілася ў палаце. Страшныя крыкі псіхалагічна змучаных людзей...

Цэлы кірунак у сучаснай беларускай драматургіі вызначыла п'еса Д. Бойкі "Крывавая Мэры", напісаная ў эстэтыцы тэатра абсурду. Жанр свайго твора драматург пазначыў як вечаровы кактэйль, а на сябе, відаць, узяў ролю бармена: па-майстэрску замешвае фантастычны напой, спалучае самыя неймаверныя кампаненты — ад лірычна-раман-

# Сотавы тэлефон у Скарынавых нагавіцах

Статычнасць успрымання драматургамі сучаснасці спараджае яшчэ адну праблему: бесканфліктнасць і неактуальнасць напісанага. Драматургі пералiваюць з пустога ў парожняе вечныя "тэмы": праблемы састарэлых людзей, канфлікты пакаленняў, спрабуючы надаць ім новае гучанне. Новае — на ўзроўні сюжэтнага кантэксту, а не ў філасофскім трактаванні. Таму новыя, найноўшыя п'есы ўспрымаюцца як даўно прачытаныя, забытыя старыя...

"У прыцемках" А. Дударава прыклад сказанаму, — фрагмент, вырваны з 80-х гадоў, нагадвае second hand, злом састарэлых рэчаў.

Марыя — жонка ідэйнага камуніста Лявонава — у сталым узросце прыходзіць да Бога. Употайкі наведвае царкву, хавае за кніжкамі ікону, а калі нікога няма дома, моліцца. "Трэба і пра душу падумаць", — крычыць яна ў хвіліну раз'юшанасці...

Адштурхнуўшыся ад тэмы рэлігіі, аўтар бярэцца за тэму веры ўвогуле. Для кожнага персанажа ён стварае ідала, прадмет ці абставіны, якім яны падпарадкуюцца, слугуюць.

Вера ў Бога для Марыі стала сродкам кантактавання са сваім патаемным, вымушана схаваным "я". Для Лявонава ідалам з'яўляецца чырвоны сцяг — сімвал адданай веры ў камуністычныя ідэалы. Старцава, адзінокага старога, пераследуе ідэя сямейнага агменю. Соня, дачка Лявонава, прагне помсты. У Цімона, яе сына, навязлівая ідэя выбіцца ў прэзідэнты.

Здаецца, заяўка цікавая: кожная асоба мае сваю мэту. Але тое, як гэтыя асобы прадстаўлены, зніжае іх годнасць...

Марыя — персанаж бяздзейсны. Аўтар атаясамляе яе з Маці Божай, з іконай. Персанажы яе ўспрымаюць як крыніцу сілкавання...

Вобраз Соні ўвогуле выклікае, мякка кажучы, недавер. Занадта ўдала склаўся яе лёс, толькі ў казках такое бывае: яна багатая, жыве за мяжой, мае сваю фірму, асабістую машыну з шафёрам, музыкай з сынам займаецца народны кампазітар. Важкі штрых у "джэнтльменскім наборы" — сотавы тэлефон...

Агульныя фразы доўга не даюць зразумець характар Цімона, а таксама і ягоны ўзрост...

У п'есе змяшаліся тэмы, штампы розных часоў (сотавы тэлефон — чырвоны сцяг), розныя літаратурныя жанры: бытавая драма ўвабрала ў сябе элементы дэтэктыву, меладраматычныя сцэнкі (калі Старцаў падае на калені перад Марыяй), камічныя сцэнкі (калі генерал зарабляе грошы, іграючы на гармоніку), і нават анекдоты.

Барыс Луцэнка ўсё, што мы бачым на сцэне, склаў з дзвюх частак: паказаўшы ў першай побытавыя рэаліі, у другой нацягнуў ад авансцэны да каласнікоў празрыстую вуаль, чым стварыў вобраз мыльнай бурбалкі, завіслай паміж небам і зямлёй. У гэтай бурбалцы — пакаленне, якое згубіла прастору, час, адчуванне рэальнасці.

Барыс Луцэнка, нягледзячы на некаторыя нюансы, выкарыстаныя ў пастаноўцы, зрабіўся ахвярай двайнога традыцыяналізму — свайго і дударсўскага. Сцэнічную мову склалі ўсё тыя ж прадметы-сімвалы — сотавы тэлефон, іконка, чырвоны сцяг — і дададзеная рэжысёрам банальнасць: вялікія іконы пры задніку сцэны і помнікі на ар'ерсцэне, сімвалізуючыя статыку, нязрушнасць, заціснутасць.

Побач з "магутнымі постацямі" існуе ў спектаклі Данька — хлопчык-сірата, які ўвесь час грае на скрыпцы: сцэнічны ўспамін пра Сымона-музыку. Для чаго ён выкарыстаны ў спектаклі ды, дарэчы, і ў п'есе? Калі ж разглядаць яго як чарговы сімвал, ён становіцца ў шэраг агульнадраматургічных штампаў.

"У прыцемках" не разгледзець таго далікатнага псіхалагізму, які прарываўся, адбіваўся ў кожнай фразе Ганны, Гастрыта і Мульціка ў "Вечары". Аўтар паддаўся тэхнічнай спакусе? І — не патрапіў адчуць сучаснасць, выбудаваць метафарычна-маляўнічыя вобразы. П'еса зрабілася адной з шэрагу, а не адзінай у сваім родзе.





кватэру. З трэцяга — дачка, якая не дае маці самой вырашаць сваё жыццё.

Струменьчык свежага паветра ўнёс у "палату" Рэвуцкі (драматург надзяліла яго якасцямі супермена): узнік нечакана, завабіў Ірыну, пераўтварыў палату ў палац... Праўда, нават у выкананні А. Брухацкага, ён выглядае цяжкаватым мужланам. Не ратуюць ні пінжак у клетачку, ні шыкоўныя чаравікі.

Бацьку-маразматыка драматург таксама выкарыстоўвае, каб нагнаць істэрыю. Ён — як паказальнік безвыходнасці сітуацыі. Вобраз старога (В. Шушкевіч) даводзіцца да паталогіі, кожнае ягонае з'яўленне выглядае як асобны канцэртны нумар. Ці ён, седзячы ў крэсле, едзе ў Маскву, ці на Чырвонай плошчы прымае парад, ці з кіем у руцэ абараняе родных...

Да інтэрмедыйных можна аднесці і вобраз Ванды (Н. Чамадурава). Яе персанаж — гратэскавы: фізічна моцная, па-мужчынску складзеная, яна курчыцца, згінае ногі ў каленях, рукі дрыжаць, як тачка, праносіцца Ванда па сцэне. Але ў яе гратэску ёсць псіхалагічны момант: Ванда баіцца застацца адна. Яна гатовая выйсці замуж за старога маразматычных успамінаў Мэры і Джона да свінні, якая мае права стаць кумпяком.

Сюжэтная лінія ў п'есе амаль адсутнічае ці, дакладней кажучы, яна вельмі прымітыўная: дзве асобы — Мэры і Джон — успамінаюць адзін момант з іх жыцця і ніяк не могуць прыгадаць словы, якія Мэры прашаптала Джону. Вось і ўсё. Астатняе — гульня слоў, асацыяцыі, гукі. Прасочваецца прынцып уздзеяння хмелю: чалавек хмялее і пачынае несці лухту — нейкія гукі, урыўкі фраз, гукавыя асацыяцыі. Хмельнае ўзбуджэнне дасягае кульмінацыі — і тут з'яўляецца сюжэт пра рубін Раджы — вяршыня непаразумення, блытаніны і абсурду. Павольнае ацверазенне. Зноў лухта, прыемныя ўспаміны... І, нарэшце, галава святлее, і словы, што так даўно шукаліся, прарываюцца вонкі: "Я... кахаю... цябе".

П'еса дае шырокае поле для рэжысёрскай дзейнасці. Аляксандр Гарцуеў вырашае пастаноўку "Крывавай Мэры" ў чорна-белых танах. Рэальнасць мае чорную афарбоўку, успаміны — "прамень святла ў цёмным царстве". Ап'яняючы эфект, закладзены ў п'есе драматургам, у спектаклі дасягаецца злу-

чэннем моцнай музыкі, пластычных нумароў акцёраў і яркімі рытмічнымі рэплікамі. "Крывавая Мэры" дала магчымасць акцёрам выйсці з прылепленых тэатрам амплуа. Зоя Белахвосцік у ролі Мэры амаль уся закрыта чорным, адкрытымі засталіся толькі кончыкі пальцаў, як вусікі-шчупальцы, і твар, вочы якога таксама схаваны пад круглымі акулярамі. Яна насцярожаная, кожную хвіліну гатовая скруціцца і схавацца, нібы слімак.

М. Кірычэнка ў ролі Джона выдае на эстэта. Правільная размераная гаворка з выкарыстаннем юрыдычных тэрмінаў, чорны смокінг і вяланчэль, з якой Джон ніколі не развітваецца.

Карцінкі ўспамінаў Мэры і Джона ўтвараюць А. Анохіна і П. Юрчанкоў: як галубы ў небе, зліліся ў лёгкім, віртуозным палёце...

Спектакль-фантазія. Спектакль-плынь свядомасці. Спектакль-фантасмагорыя. Ён разлічаны на абстрактнае ўспрыманне. Ніякай канкрэтыкі. Касмічныя тэмы, касмічныя ідэі, касмічнае ўвасабленне...

Сучасную драматургію адметна сілкуюць гістарычныя сюжэты, гістарычныя асобы. У адных выпадках іх творчасць ("Яго сны"), у іншых асабістае жыццё ("Белы сон"), у трэціх...

П'еса М. Адамчыка і М. Клімковіча "Віта Брэвіс, або Нагавіцы святога Георгія", напісаная па прынцыпе тэатра — ў тэатры скарыстанне камічнага дублёра Скарыны. Сюжэт базуецца на прыродным інстынкце — інстынкце размнажэння. Жанр п'есы аўтары вызначылі як фарс-рэпетыцыю (драматург прыносіць у тэатр сваю новую п'есу і пачынаецца яе рэпетыцыя). У пастаноўцы А. Гузія "Віта Брэвіс, або Нагавіцы святога Георгія" дзейнічаюць акцёры, рэжысёр, драматург (рэалістычны тэатр), якія, у сваю чаргу, іграюць гістарычных асоб. Унутраная п'еса, дзе дзейнічаюць гістарычныя асобы, разыгрываецца ў эстэтыцы лубочнага прадстаўлення. Акцёры ў яркіх, гратэскава-дэкаратыўных касцюмах распавядаюць нам гісторыю, як усімі паважаны Ф. Скарына наставіў рогі адразу двум легендарным мужам Германіі.

Расповед гісторыі перамяжаецца вакальнымі і танцавальнымі нумарамі. Размова з залай, жывая імправізацыя выступаюць як прыём пабудовы спектакля. Мова, прыбліжаная да жаргоннай, з выкарыстаннем некаторых выразаў у гульні слоў, сугучных словам "кракаў" і "баляць". Асучасніваецца пастаноўка, так бы мовіць, набліжаецца да народа, радкамі з сучасных хітоў: "я убью тебя, лодочник" ці "друг твой не пришел".

Скарына — А. Гарбуз — сама нявіннасць у георгіеўскіх нагавіцах. Наіўныя вочы, без прыкметаў інтэлекту, і толькі адно жаданне... Забаўляльныя прыпеўкі, крутлявыя прытанцоўкі плаўна пераходзяць у эратычны танец з пані Лютаровай.

Крайнасці, у якія кідаюцца айчынныя драматургі, — гэта, безумоўна, рэакцыя на час. Арыгінальнасць М. Адамчыка і М. Клімковіча — у найноўшым поглядзе на асобу Ф. Скарыны, — з пазіцый жыццёвых рэалій. Сапраўды, эпоха Адраджэння — не лепшы прыклад маральных устояў. У доказ гэтаму аўтары ў праграмцы да спектакля прыводзяць некалькі прыкладаў.

Варыяцыі на гістарычную тэму ў камічным увасабленні — гэта, хутчэй, выключэнне. Да вобраза камічнага дублёра драматургі звяртаюцца вельмі рэдка. Яны аддаюць перавагу традыцыйным жанрам...

Бліжэй да іх і п'еса С. Кавалёва "Заложніца кахання", у якой скарыстаны сюжэт з рыцарскага рамана "Бава". С. Кавалёў з шэрагу тэм выдзяляе тэму нікчэмнасці чалавека перад Богам. Яе вылучае і рэжысёр А. Гузій. Адзін учынак, адзін выклік лёсу Бландоі (Л. Манкевіч) зрабіў няшчаснымі блізкіх ёй людзей. Яе муж Гвідон (А. Кавальчук) загінуў, маленькі сын Бава (А. Кот), каб пазбегнуць забойства, вымушаны ўцякаць, а сама Бландоя нясе на сабе цяжар пакут сям'і. Рэжысёр уводзіць у пастаноўку двух персанажаў-блазнаў: Праўду (Л. Сідаркевіч) і Ману (Т. Жахоўская). Перад кожнай новай сцэнай блазны разыгрываюць пантаміму будучага прадстаўлення, распавядаюць яго сюжэт, надзяляючы пастаноўку рысамі тэатра пляца. Другая іх роля — выяўленне думак герояў, барацьба ў іх праўды і маны.

...Рушацца надзеі Бландоі, якая скончыла жыццё самагубствам, на несустрэчу з Гвідонам на тым свеце. Яна, праклятая Богам, прымушана пакутаваць і ў замагільным жыцці...

Сучасная беларуская драматургія, відаць, драматургія пераходная, г. зн. — знаходзіцца ў стадыі інтэнсіўнага пошуку. Сёння, калі нам сталі вядомы такія жанры, як кліп, ролік, калі шукаць можна, дзе хочаш, — чаму б не пашукаць больш пільна? Бо сотавы тэлефон пакуль што выкарыстоўваецца са Скарынавых нагавіцаў...

**Святлана ПАЗНЯК,**
**студэнтка Беларускай акадэміі мастацтваў**

*На здымках: Таццяна Байкалава (Наста) і Уладзімір Шэлестаў (Славік) у спектаклі "Пестуны лёсу" А. Паповай; Алег Корчыкаў (Лявонаў) і Расціслаў Янкоўскі (Старцаў) у спектаклі "У прыцемках" А. Дударава.*

*Фота Генадзя ЖЫНКОВА*

КІНО

# І "Тытанік" плыве...

***Аднойчы людзі вырашылі пабудаваць Вавілонскую вежу. Вежу вышынёю да нябёсаў... Скончылася тым, што яны перасталі разумець адзін аднаго. Пасажыры "Тытаніка" былі ўпэўнены не менш за вавілонцаў: "І сам Бог не зможа патапіць нас!" Іронія лёсу: самая славутая катастрофа XX стагоддзя — гібель іх "непатаплянага" карабля...***

Новы фільм амерыканскага рэжысёра Джэймса Кэмерона "Тытанік" — невычарпальны калодзеж думак і пачуццяў. Карціну можна глядзець зноў і зноў. Бо "Тытанік" вядзе да катарсісу — ачышчэння праз трагедыю (рэдкая з'ява ў сучасным амерыканскім кіно). Пасля фільма нібыта нараджаешся ў другі раз. І гэта новае жыццё імкнешся пражыць па-іншаму.

"Тытанік" — якасны камерцыйны фільм. Упершыню Д. Кэмерон, пастаноўшчык знакамітага "Тэрмінатара" і "Чужога", паказаў сябе як мастак і філосаф. Паказаў у межах фільма для гледачоў. "Тытанік" Кэмерона — гэта не проста фільм-катастрофа. Звычайна на ўсе гэтыя "вулканы" глядзіш як на лялечнае шоу. У патоку лавы гінуць не людзі, а лялькі (характары герояў не распрацаваныя, схематычныя). Ды яшчэ — салодкі хэпіэнд. У трохгадзіннай карціне Кэмерона катастрофа — гібель "Тытаніка" не самамэта, не голы атракцыён. Яна — штуршок да абуджэння спачувальнасці, чалавечнасці ў гледача. Катастрофа, якая вымушае закрыць вочы і перажыць тое, чаго ніколі не перажываў. Нібыта сведка, удзельнік трагедыі. Рэжысёр "казыча" душу, а не нервы...

З першых кадраў Кэмерон з'ядноўвае гледачоў і пасажыраў "Тытаніка": мы — гэта яны, а яны — гэта мы. Пра гібель славутага карабля расказвае яго былая пасажырка, стогадовая Роўз. Жанчына выдумана рэжысёрам. Аднак выдумана невыпадкова. Гібель "Тытаніка" сёння здаецца міфам, легендай. Аповед Роўз дае фантастычную магчымасць апынуцца на караблі. Адчуць, як адчувала яна, пах свежай фарбы. Дакрануцца, як дакраналася яна да новага посуду, які і быў выкарыстаны толькі некалькі разоў. Праз ілюмінатар батыскафа Роўз упершыню бачыць тое, што засталося ад велічэзнага карабля (рэшткі "Тытаніка" знайшлі толькі ў 1985 годзе). Толькі на хвілінку ў промень электрычнага святла патрапяць кавалак жаночага бота ды лялька з дзіркамі замест вачэй — рэчы пасажыраў "Тытаніка". Кэмерон на працягу ўсяго фільма будзе вяртацца да мінулай трагедыі, выкарыстоўваючы ашаламляльныя пераходы з сёння ў мінулае і наадварот. Лёгкія, камедыйныя элементы ў карціне нават не ўспрымаюцца. Яны — своеасаблівы тэст на эмацыянальны досвед гледача.

"Тытанік" быў пабудаваны ў 1912 годзе ў Ірландыі. Людзі яго назвалі "карабельмара": сотні кают, велічэзная палуба-прамэнад, рэстараны. Перасяленцы ўжо бачылі абрысы знакамітай статуі Свабоды. Бо канцавым прыпынкам "Тытаніка" быў Нью-Йорк... Уражвае як аператар Расэл Карпенцер параўноўвае "Тытанік" з навакольным светам: адчуваеш веліч карабля перад бесклапотнымі дэльфінамі, і яго бездапаможнасць перад бясконцым халодным акіянам і зорным небам. Толькі на "Тытаніку" магла адбыцца казачная сустрэча семнаццацігадовай арыстакраткі Роўз Д'юіт Бакатэр (Кэйт Уінслет) і беднага мастака Джэка Досана (Леанарда ды Капрыо). Пачатак меладрамы? Так. Але гісторыя кахання Роўз і Джэка абу-джае ў Д. Кэмероне мастака. Таленавітага мастака. Нараджаюцца цудоўныя паэтычныя эпізоды, калі Джэк малюе Роўз альбо калі яны разам, падняўшы гарызантальна рукі, стаяць на вузкім носе карабля. "Я лячу! Лячу!" — у захапленні крычыць дзяўчына. Маладыя галівудскія кіназоркі К. Уінслет і Л. ды Капрыо іграюць палка і натхнёна. Іх героі — гэта пульс фільма. Яго сэрца. Аператар уважліва сочыць за пластыкай рук галоўных герояў (у Джэка аднойчы быў "раман" з рукамі французскай натуршчыцы), за іх вачамі. Час робіцца даўжэй, калі Роўз і Джэк бягуць праз кацельню "Тытаніка" і калі развітваюцца... назаўсёды (эфект запавольванага здымання). "Ты скочыш, і я скочу", — абяцаюць закаханыя адзін аднаму. Падчас катастрофы (15 красавіка 1912 года) яны застануцца на караблі. Застануцца разам. Роўз, пасажырка першага класа, так і не сядзе ў шлюпку. Аднак хэпіэнда не будзе: Джэк загіне разам з "Тытанікам", так ніколі і не ўбачыўшы той доўгачаканай Амерыкі. "Выйграць квіток на "Тытанік" было самай вялікай удачай для мяне, бо я пазнаёміўся з табой, Роўз", — апошнія словы Джэка...

У 1925 годзе нос знакамітага "Браняносца "Пацёмкіна" С. Эйзенштэйна літаральна "распораў" экраны і "ўваходзіў" у залы кінатэатраў. Шчаслівыя матросы махалі гледачам з палубы "Браняносца". Натхнялі сваім аптымізмам і верай у светлую будучыню. Кэмерон пачынае фільм з таго, чым закончыў Эйзенштэйн. Сотні пасажыраў махаюць з палубы "Тытаніка" — іх непатаплянны карабель ідзе ў свой першы (і апошні) рэйс. Так, нос "Тытаніка" ніколі не "распора" экраны. Наперадзе — бездань. Крушэнне на дзеяў і letraў. Што гэта, эсхаталагічныя прадчуванні? Ёсць такая метафара: жыццё, як карабель. Безумоўна "Тытанік" Кэмерона — гэта Чалавецтва. Гордае. Славалюбнае. Здольнае пабудаваць тысячы новых вавілонскіх вежаў. Толькі яно, як бачым, гіне ў халоднай вадзе Атлантыкі, пакідаючы ў пераможцах... Каханне. Пад зорным небам.

Калі пра фільм шмат кажуць — чакаеш расчаравання. "Тытанік" не расчараваў. Наадварот — захапіў, уразіў. Праўда, у новай карціне Д. Кэмерона ёсць свае няроўнасці: зацягнутасць некаторых эпізодаў, просценькія дыялогі. Затое бездакорныя шматлікія спецэфекты, музыка (цудоўныя ірландскія матывы), аператарская і акцёрская работы. Упэўнена: "Тытанік" разлічаны на непасрэднага, добрага гледача, здольнага на суперажыванне. Спадзяюся, што і ў Мінску новы фільм Д. Кэмерона знойдзе такога гледача.

**В. Б.**

# Эра зацьмення?

Застаўся ў мінулым І Нацыянальны фестываль беларускіх фільмаў. Ці адкрылася другое дыханне ў беларускага кінематографа? Наогул, ці ёсць у яго будучыня? На гэтыя пытанні спрабавалі адказаць удзельнікі "круглага стала" на тэму: "Панарама беларускага кіно апошніх гадоў (вынікі І Нацыянальнага фестывалю беларускіх фільмаў)". Мерапрыемства адбылося 27 лютага ў глядзельнай зале Мінскага тэатра-студыі кінаакцёра. Да шчырай гаворкі рэжысёраў, акцёраў, крытыкаў запрасіў рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў, старшыня Беларускага саюза літаратурнамастацкіх крытыкаў, доктар мастацтвазнаўства Р. Смольскі.

Дзякуй Богу, адгукнуліся многія. Асабліва крытыкі. Таму, бадай, з першых хвілін "круглага стала" пачалiся спрэчкі. Ашаламляльныя факты абнародаваў намеснік міністра культуры, кінарэжысёр Ю. Цвяткоў. Па даследаваннях маскоўскага кіназнаўцы С. Кудраўцава за сорак дзевяць гадоў (дадзеныя 1990 года) савецкія гледачы паглядзелі толькі 2% беларускіх фільмаў. Лідэры кінапракату — В. Рыбараў ("Мяне завуць Арлекіна"), І. Дабралюбаў ("Белыя росы"), Л. Голуб ("Дзяўчынка шукае бацьку"), М. Фігуроўскі ("Гадзіннік спыніўся апоўначы"). "Беларускае кіно ніколі не арыентавалася на гледача, — упэўнены Ю. Цвяткоў. — Нашы кінематаграфісты ўжо па традыцыі супраць фільмаў для гледачоў. Аднак пустая зала кінатэатра — гэта бездухоўнасць?" Здавалася, што Ю. Цвяткоў вырашыў спецыяльна падражніць сваіх калег. Навошта?

Стрыманым і разважлівым быў наступны прамоўца — доктар мастацтвазнаўства А. Красінскі. На яго думку, з І Нацыянальнага фестывалю вынікае, што па-ранейшаму на добрым узроўні дакументальнае і анімацыйнае кіно. Спецыяльны прыз журы "За лепшую студэнцкую работу" атрымаў рэжысёр А. Колбышаў ("здаецца, у наш кінематограф прыходзяць творчыя людзі"). Сярэдняе кіно — ігравое. Відавочна, лічыць А. Красінскі, што пастаноўшчыкі "Уцёкаў ад смерці" заблыталіся ў жанрах, а М. Пташук зрабіў легкадумную, дзіцячую карціну "Гульня ўяўлення". "Для далейшага развіцця беларускага кінематографа, — падкрэсліў прамоўца, — неабходны тры ўмовы: папершае, актыўная матэрыяльная падтрымка, па-другое, актыўны ўдзел маладых рэжысёраў і, нарэшце, распрацоўка нацыянальнай тэмы". Даволі шчыра гаварыў кінарэжысёр М. Пташук: "Сёлета на "Беларусьфільме" — ніводнага цікавага сцэнарыя. Уяўляеце: грошы ёсць, а карцін няма? Няма ідэй? А менавіта ідэя і нараджае рэжысёра. На маю думку, той не рэжысёр, які кажа: дайце мне сцэнарый! Карціна не атрымаецца, калі здымаеш не набалелае. Зараз жа ўсё выпадковае — і фільмы, і рэжысёры. "Беларусьфільму" ўсё роўна, што здымаць. Карціны, якія "запускаюцца", не апраўдваюць сябе. Дык навошта затрачваць грошы?" Настрой М. Пташука перадаўся кіназнаўцы В. Нячай: "Са смерцю В. Турава беларускі кінематограф страціў лідэра. Сёння мы бачым стан духоўнай паўзы. Наступіла эра разгубленасці, смутку, зацьмення душы. Варта нагадаць "Эпілог" Дабралюбава ці "Метаною" Шувагіна. Аднак лічу, што адчуванне гэта часовае. Крыніца ўнутранага аптымізму — наша гісторыя, наш фальклор, наша прырода. Нездарма на Захадзе кажуць: "Беларусь — лёгкія Еўропы". Ці кажа аб гэтым сучаснае беларускае кіно? Адзначу толькі дакументальную стужку "Сямейны блюз пад гукі акарыны" Р. Грыцковай. Цудоўны фільм, бо вяртае нас да спадчыны..."

Амаль усе ўдзельнікі "круглага стала" гаварылі пра набалелае. Кінарэжысёр, дацэнт Беларускай акадэміі мастацтваў А. Яфрэмаў скардзіўся, што няма добрых сцэнарыяў ("праблему драматургіі трэба вырашаць кардынальна"). Затое ёсць таленавітыя маладыя рэжысёры. Без перспектыў на будучае. Зусім іншую праблему — ўзаемадзеянне кінакрытыкі і прэсы — закранула ў сваім выступленні доктар філалагічных навук, кінакрытык Е. Бондарава. На яе думку, у сучасных сродках масавай інфармацыі адсутнічае глыбокі, дэталёвы аналіз твораў мастацтва — крытыка "буйнога плана" (па Эйзенштэйну). "Я пагартала нашу маладзёжную прэсу — ніводнага матэрыялу пра беларускае кіно... Гэта дзіўная дама — Крытыка сёння нікому непатрэбна, асабліва калі яна капрызлівая ды прыдзірлівая". Кіназнаўца А. Бабкова апанiравала Ю. Цвяткову. На яе погляд, да лозунга "Усё — маладым!" далучыўся новы лозунг — "Кіно для гледачоў!" А гэта значыць, што "споведзь" А. Ганчаронка (яго новы фільм "Гадзіннік" зроблены па аповесці А. Рэмізава) ніхто не пачуе. Бо не дадуць пачуць. "Мы павінны здымаць розныя фільмы, — падкрэсліла А. Бабкова. — "Тры гісторыі" К. Муратавай значна адрозніваюцца ад "Прынцэсы на бобінах" В. Новака. Але ж гэтыя фільмы зроблены на адной студыі". Палымяным і шчырым было выступленне студэнткі Беларускай акадэміі мастацтваў: "Усе вы скардзіцеся, што няма добрых сцэнарыяў. Аднак мы, маладыя сцэнарысты, нікому непатрэбныя! Я не бачу тут ні рэжысёраў, ні акцёраў, якія былі б зацікаўлены ў нашых ідэях. Дзе яны?.."

Сапраўды, пасля гадзіннага перапынку за "круглым сталом" засталіся самыя цярплівыя. У асноўным — крытыкі. Старымі гаворкамі пра галоўнае іх не напужаеш. Дык які ж вынік? Старшыня Беларускага саюза кінематаграфістаў І. Волчак паабяцаў, што будзе конкурс на лепшы сцэнарый... Вось, напэўна, і вынік. А калі сур'ёзна, "круглы стол" — справа карысная. Сядзіш сабе і думаеш: а не такі чорт страшны, як яго малююць. Калі ўсе разам — з'яўляецца надзея. Зноў.

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

## "Вялікія дарогі" Уладзіміра Глыбіннага

**Беларускі празаік і літаратуразнавец на эміграцыі Уладзімір Глыбінны (1910—1995) раман "Вялікія дарогі" пісаў у 40-я гады ў Германіі. Пачатак яго друкаваўся ў 1952 годзе на старонках навуковa-літаратурнага часопіса "Веда", які выходзіў у Нью-Йорку. Асобныя раздзелы былі апублікаваны таксама ў газеце "Бацькаўшчына" ў студзені 1955 года і ў часопісе "Беларускі свет", пачынаючы з 43-га нумара. На жаль, асобнага выдання аўтар так і не пабачыў. А з'явілася кніга "Вялікія дарогі" У. Глыбіннага напрыканцы мінулага года дзякуючы Беларускаму інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Йорку і Міколу Прускаму, якія выданне фінансавалі і друкавалі.**

**Раман "Вялікія дарогі" — амаль аўтабіяграфічны. Разам з тым ён ахоплівае даваенны і ваенны час Беларусі, жыццё і дзейнасць беларускай інтэлігенцыі, якая была рэпрэсіравана і якая заставалася пад нямецкай акупацыяй.**

**Галоўны герой твора — Кастусь, ён жа сам аўтар "Вялікіх дарог". Усё ўбачанае і перажытае ім лягло ў аснову рамана. Дзесяткі знаёмых прозвішчаў сустракаюцца на яго старонках. Адны — пад сапраўднымі прозвішчамі, другія — пад псеўданімамі. Дарэчы, увесь раман прысвечаны памяці Змітрака Астапенкі. У рамане Змітрок Астапенка — паэт Дземех Астаповіч.**

**Добрымі словамі аўтар успамінае і апісвае творчую і палітычную дзейнасць Францішка Аляхновіча, Вацлава Іваноўскага, Уладзіслава Казлоўскага, Радаслава Астроўскага і іншых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі. Адначасова У. Глыбінны асуджае зверствы гітлераўцаў, іх здзекі над яўрэйскім і беларускім народамі.**

**С. ЧЫГРЫН**

## Спявае Канстанцін Міхальскі



**Незвычайным голасам узрушыў слухачоў малады беларускі спявак-контратэнар Канстанцін Міхальскі, чый сольны канцэрт адбыўся ў Саюзе кампазітараў. Тэмбр контратэнара — рэдкая, на сення, мабыць, адзінкавая з'ява на Беларусі, таму канцэрт прывабіў шмат слухачоў розных узростаў і прафесійных інтарэсаў — яго слухалі і музыканты-прафесіяналы, здзіўленыя яркім дарам, і нават прадстаўнікі дыпламатычнага кола, якіх цікавіць усё арыгінальнае не менш, а, мабыць, і больш, чым нас.**

**Тонкі артыстызм, тэмперамент, які шугае праз край, дзівосны і выразны голас, — тое, што адразу ўражвае і спецыялістаў, і не толькі. У праграме былі прадстаўлены творы кампазітараў розных краін і часоў — ад Гендэля і Баха да Чайкоўскага, Ігара Лучанка і маладога беларускага кампазітара Ніны Ролік. Удумлівае пранікненне выканаўцы ў сэнс песень, майстэрскае музычнае ўвасабленне вобразаў, якія "іграў" К. Міхальскі, выклікалі захапленне.**

**Ён увогуле надзвычай цікавая і разнастайная асоба. Скончыўшы Беларускую акадэмію музыкі як дырыжор хору, шмат увагі аддае гэтай справе, працуе мастацкім кіраўніком Народнай харавой капэлы БДУ, а ў вольны час займаецца сваёй любімай справай — спявае.**

**Хочацца верыць, што нашы маладыя таленты такога ўзроўню, як К. Міхальскі, якія працуюць, лічы, на энтузіязме, усё ж сустрэнуць падтрымку, і найперш — творчую.**

**Наталля ДОЖЫНА**

УГОДКІ

# "Адсюль крычу я сэрцам і душою..."

### ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ВЫДАТНАГА ЯЎРЭЙСКАГА ПАЭТА Ізі ХАРЫКА

У Гётэ ёсць паэтычныя радкі, што перакладаюцца, прыкладна, так: каб зразумець паэта, трэба ўбачыць яго радзіму. Асмелюся дапоўніць вялікага немца: тым больш немагчыма зразумець паэта, калі не ўгледзецца ў час, якім ён быў народжаны. Ізі Харыка як паэта нарадзіла рэвалюцыя і яе натхнёным песняром ён пражыў сваё нядоўгае, мала больш за паўтара дзесятка гадоў, творчае жыццё. Выхадзец з незаласканага богам мястэчка ў мяжы аселасці (Зембін на Барысаўшчыне), сын гаротніка-шаўца ("У беднай хаціне ў мясціне глухой мой пачынаўся шлях", — вылецца ў яго дваццаціпяцігадовага, ужо заўважанага чытачом), ён, было б слаба гэтак сказаць, прыняў рэвалюцыю, — тое, што стаў яе сучаснікам, лічыў дараваным лёсам высокім шчасцем. Як мільёны і мільёны ў краіне і свеце, уверавўшы ў красамоўнае на чырвоных сцягах і транспарантах. Як, у прыватнасці, амаль уся яўрэйская моладзь, вызваленая тэктанічнымі зменамі семнаццатага года ад наканаванага ёй гібення ў мяжы аселасці, не сумняваючыся, што пачынаецца ў гісторыі бацькаўшчыны летуценная эра справядлівасці, братэрства, роўнасці. Выкінуць з пакінутай ім спадчыны апяванне рэвалюцыі і яе здзяйсненняў — значыць, закрэсліць такога паэта, Ізі Харыка. Знакавым, праграмным у яго творчасці гучыць цудоўна перакладзены Аркадзем Куляшовым верш 1925 года з пафаснымі страфамі:

***Адсюль крычу я сэрцам і душою***
***Наступнага далёкім жыхарам:***
***Хай сённяшняе нашае, зямное***
***Жыццё-быццё не здасца цудам вам.***

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***Мы першыя цагліны закладалі,***
***І кожны ў мур цаглінай лёг жывой...***
***Мы ўсе да болю ў сэрцы смуткавалі***
***Аб пары крыл мяцежных за спіной.***

Ёсць пісьменнікі, што мысленнем сваім апярэджваюць час, у якім жывуць. Ёсць, наадварот, такія, каго апярэджвае час. Харык добраахвотнікам-чырвонаармейцам удзельнічаў у грамадзянскай вайне. На тое, што разгарнулася ў дзяржаве потым, глядзеў вачыма сведкі і саўдзельніка велічэзных гістарычных пераўтварэнняў. І з сённяшняй аддаленасці бачыцца ён творцам, які з часам сваім ступаў крок у крок. Сведчаннем — выдатныя вершы. Сведчаннем — самі тэмы і сюжэты створаных ім паэм. У паэме "Мінскія балоты" аповед пра шлях героя, маладога рабочага, перарастае ва ўсхваляваную размову аб тым, чаму рэвалюцыя не магла не адбыцца, праз якія агонь прайшлі яе барацьбіты, як будуецца для чалавека працы новае жыццё. Паэма "Хлеб" — багатая панарама сакавітых замалёвак далучэння выгнанага царызмам з вёсак яўрэйства да зямлі, да хлебаробства: у дваццатыя гады ў краіне праходзіла такая кампанія. У цэнтры паэмы "Адданасць" (у аўтара яна называецца "Душой і целам") — рамантычны вобраз камсамолкі-настаўніцы, змагаркі з цямротай запавуціненага прапрадзедаўскімі традыцыямі ды закляцінямі сінагогі мястэчка. Канфлікт светапоглядаў — сузіральна-пасіўнага, замкнёнага на "чыстым мастацтве" старога і мклівага да пераўтваральных бур паслярэвалюцыйнай явы навага — фабула паэмы "Катрынка"...

Тады, калі гэтыя гранічна шчырыя творы нараджаліся, яны адпавядалі настрою безлічы чытачоў. Ад людзей, што памятаюць той няблізкі ўжо час, я неаднойчы чуў: найвялікшай была папулярнасць Харыка ў асяроддзі, якому адрасавалася яўрэйскае мастацкае слова. Папулярнасць таго, што ім публікавалася. Папулярнасць як асобы: яго выступленні з захапленнем сустракаліся і ў сталічных тэатральных залах, і ў раённых клубах, і ў інстытуцкіх аўдыторыях, і ў мястэчкавых школах.

Сёння ў грамадства іншы настрой. Сённяшні чытач не ва ўсім падзяляе прыўзнятае пачуццё, якім у большыні прасякнута было тое, што выходзіла з-пад паэтавага пяра. Што надрукавана, прынамсі, у ягоных кнігах. Сённяшні чытач ведае, да чаго ўрэшце прывяло вітанае стваральнікам "Хлеба", "Адданасці", оды пра асваенне яўрэямі біраб ідджанскай таежна-балотнай цаліны. Да вынішчэння на, як гаворыцца, "яўрэйскай вуліцы" — па-бальшавіцку, дазвання — беражліва хаванага цягам стагоддзяў, спаконвечнага. Ды цуд таленавітага: усё адно і сыноў-унукаў "бярэ" тое, што ўдлюстраваным ім "брала" дзядоў-бацькоў. Толькі цяпер успрымаецца як яскравы мастацкі дакумент мінулага, як штрыхі перажытага народам, сынам якога паэт быў. Амаль блізнятна падобным, зрэшты, на перажытае ў краіне ці не ўсімі яе народамі.

***Субота стала нудная і шэрай.***
***Субота век свой доўгі аджыла,***
***І маладых,***
***Што пагарджаюць верай,***
***Дарога набажэнства абышла.***

***З іх аніхто цяпер не верыць богу,***
***Нявер'е! — горшай не спазнаць бяды.***
***І толькі па-былому сінагогу***
***Шануюць спарахнелыя дзяды.***

*(Пераклад С. Гаўрусёва)*

Быў ён, паэт Ізі Харык, нібыта ерэтыкам, багаборцам, перасмешнікам замшэлага местачковага жыццёвага укладу. Але ж разам з тым, як мастак з глыбокімі нацыянальнымі каранямі, крэўна ведаў і любіў векавое ў сваім народзе, яго мудры і горкі фальклор, з гонарам усведамляў сябе галінкай шчодраплоднага дрэва яўрэйскай культуры, прадаўжальнікам пачатага асілкамі, постаці якіх высяцца каля яе вытокаў. Чытаеш ягонага "Фішку-кульгавага" — шчымлівы зварот да героя аднайменнай аповесці класіка яўрэйскай прозы і драматургіі Мендэле-Мойхер-Сфорыма, — і бачыш удзячную сыноўнюю, з мяккай самаіроніяй, пяшчотнасць аўтара да тых, чыім багатым спадчыннікам сябе адчуваў. Ды і па мястэчку, якому малады імпэтна, а то і з'едліва пяяў адыходную, у пазнейшай лірычнай нізцы, пасталелы прызнае ў сабе светлую журбу.

"Я знаю цябе, Беларусь, як пальцы свае і далоні", — пачатак аднаго яго верша. Увогуле ж уся паэзія Харыка адметная любасцю да краю, пад небам якога ён з'явіўся на свет і ўзрос, краявідамі, водарам і гукамі якога песеннасць душы ў ім была выпеставана. У ідыл паэмы "Хлеб" арганічна ўкрапваецца беларуская гаворка сялян — суседзяў персанажаў паэмы. У вершах назва можа гучаць ("Люблю я восень Беларусі, празрысты дзень і цішыню..."), можа не гучаць, — з самой інтанацыі, з прачуласці радкоў зразумела, пра які куток планеты гаворыцца:

***Ціхая, задумная, дрымотная***
***Зорка на мяне глядзіць здаля.***
***І кажу я ўсім:***
***— Якая родная,***
***Любая якая ў нас зямля.***

*(Пераклад К. Кірэенкі)*

Так, паэт рэвалюцыі. Так, паэт яўрэйскі. Галоўнае ж — проста Паэт. Выбітны. З вялікай літары. Якому належаць і ўзоры трапяткой, пранізлівай лірыкі, прыкметамі часу не мечаной:

***Вечар, і цёплыя росы,***
***Ціха над светам усім.***
***Я і мой цень цемнакосы***
***Толькі адны і не спім.***

***Я асцярожна ступаю,***
***Каб ні душы не збудзіць.***
***Трэба б маўчаць — я спяваю***
***Так, што аж сэрца баліць.***

***Можа, я змоўкну, цярпліва***
***Буду світання чакаць.***
***Трэба мне песню руплівa***
***Аж да канца даспяваць.***

*(Пераклад П. Глебкі)*

Яго паэзію нямала перакладалі. У ліку перакладчыкаў — і на беларускую, і на рускую мовы — паэты першай велічыні. Што, вядома, таксама знак прызнання маштабнасці таго, каго перакладалі.

У чорнапамятным 1937-м ён быў расстраляны. Пісьменнік, слова якога выклікала найшырокі водгук. Рэдактар яўрэйскага літаратурнага часопіса "Штэрн", што выдаваўся ў Мінску. Член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі. Член Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР — у той перыяд вярхоўнага заканадаўчага і распарадчага органа ўлады рэспублікі. Трыццацідзевяцігадовы.

"Адсюль крычу я сэрцам і душою..."

Такі, які ён звонка да нас звяртаецца са сваёй поўнай веры ў сонечную будучыню маладосці, Ізі Харык і жыве ў літаратуры.

**Уладзімір МЕХАЎ**

# ДЗВЕ СМЕРЦІ...

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

душою заснуць, згаварыўшы пацеры і палажыўшы ў шуфляду сумлення запрацаваныя грошы, і забыцца, забыцца пра ўсё гэта, забыцца, бышцам пра недарэчны, кашмарны сон... Чаму я гэтага не зрабіў, дзеля чаго я застаўся, сяджу тут як грыб, як калода, нашто мне гэта? Нашто? Што я змагу для іх яшчэ зрабіць?.. Пахаваць паніча ў лесе, у непасвенчанай зямлі — яны самі гэта змогуць, без мяне, ну што я магу для іх зрабіць? Не, не, Божа мой мілы, толькі б не застацца тут, з імі, не, я яшчэ не страціў прытомнасці, яны хай што хочуць, тое робяць, хай сабе б'юцца, паміраюць, здыхаюць тут у пушчы, а я хачу спакойна жыць, спакойна, спакойна".

Ксёндз Сільвестр раптам, узняўшыся з лавы, шпарка пайшоў да дзвярэй, паўтараючы гучна:

— Не, толькі б не застацца, не, Божа мой, нашто мне горкі келіх, толькі б не застацца, толькі б не застацца!

У калідоры на падлозе нерухома сядзеў сумны руды селянін, трымаючы ў руках сякеру. У яго на каленях прытуліўся і пацешна соп носам малы шчанюк. Селянін, убачыўшы ксяндза, страпянуўся, устаў з падлогі, і не выпускаючы з адной рукі сякеры, а другой прыціснуўшы да грудзей шчанюка, нязграбна, хаваючы вочы, запытаў:

— Прошэ ксендза, а што будзе з намі, як мы вернемся ў вёску, цар-бацюшка нам выбачыць, га, дарэ, ён, кажуць, добры?..

Шчанюк раптам жаласна запішчаў і пачаў штосьці моцы выдзіранца з магутнай чалавечай рукі. І словы затрымаліся дзесьці далёка ў ксяндза ў горле, і замест адказу з вачэй выкацілася нешта горкае, агіднае і непатрэбнае...

У суботу ўвечары завея нарэшце сціхла, і сын саньмі прывёз Адэлю Мацейку да мястэчка. Аднак старая, адчыніўшы дзверы плябаніі, ксяндза там не ўбачыла. Не было яго ні на могілках, ні ў касцёле, нідзе не было. Не з'явіўся ён і ў наступны дзень, дзякуй Богу, што народу на імшу зусім мала прыйшло. Ксёндз Сільвестр прапаў...

Хадзілі чуткі, што местачковы поп, айцец Веніямін, данёс аб ягоных авантурах у губернскую жандарскую ўправу, і ўначы па яго прыехалі...

Былі нават сведкі, якія білі сябе ў грудзі, плакалі, бажыліся, пырскалі слінаю, клянучыся, што яны бачылі гэта на ўласныя вочы.

Хадзілі чуткі, што ксёндз Сільвестр скінуў з сябе сутану, ажаніўся, паступіў на цывільную службу і жыве зараз разам з жонкаю і палюбоўніцаю ў Вільні на Вастрабрамскай вуліцы ва ўласнай камяніцы. І на гэты выпадак таксама знайшліся сведкі. Хадзілі яшчэ больш неверагодныя чуткі, што ён з бандаю такіх жа, як і ён сам, гіцляў і бандытаў уцёк за мяжу, у Прусію! Розныя, Бог ведае нават якія, хадзілі чуткі.

Аднак праз нейкі час прайшла пагудка, больш ці менш падобная да праўды. Невядома скуль у ваколіцы мястэчка з'явіўся атрад інсургентаў. Атрад прывёў ці то былы уніяцкі поп-расстрыга, ці то ксёндз — гэта якраз ніхто не ведаў дакладна. Атрад даволі-такі дакучаў урадавым войскам, нападаў на гарнізоны ў белы дзень, нечакана, а калі сілы былі няроўныя, бо бліскавічна знікаў, падбіраючы сваіх забітых і параненых, дый так знікаў, што ніхто, ніводны сабака не мог натрапіць на ягоны след. Жыхары навакольных вёсак збягалі ў "цургенты", як яны самі гэта называлі, і далучаліся да атрада. Але сілы былі няроўныя...

Пакідаючы на глыбокім пушчанскім снезе прыкметныя крывавыя плямы, атрад блукаў, адбіваўся ад ворага як мог, як аднойчы, у апошні дзень сакавіка конная сотня Карамурзаева натрапіла на яго, абкружыла і разбіла дашчэнту. Камандзіра атрада — ім быў нейкі ксёндз — казакі рагочучы, пасеклі шаблямі ля вёскі на беразе Росі...

Праз колькі дзесяткаў гадоў, калі пра інсурэкцыю і інсургентаў сталі пакрысе забываць, сюды, у мястэчка на беразе Росі, прыехалі дзве жанчыны: адна — старая, вельмі старая, у чорным, другая, таксама ў чорным — маладая, крыху да яе падобная. Яны доўга кленчылі і плакалі на месцы, дзе казакі забілі ксяндза Сільвестра, а потым, запытаўшыся дазволу ўлады, паставілі там сваім коштам маленькую драўляную капліцу з надпісам: "Ценям Сільвестра Лаўрыновіча, паўстанца 1863 года..."

Капліца стаяла, потым упарты час і нядобрыя людзі зрабілі сваю справу, і ад яе застаўся толькі падмурак. Часам якаясь міласэрная рука прынясе і пакладзе сюды сціплы букецік жоўтых палявых кветак. І ў с ё...

***На сёлетні сакавік прыпадаюць юбілеі дзвюх этапных, можна сказаць, знакавых для нашай гісторыі падзей. Мінае 100 гадоў з дзён Першага з'езда Расіскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі, які адбыўся ў Мінску, і 80 — з часу абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Ці ёсць што-небудзь агульнае паміж такімі непадобнымі, living рознапарадкавымі падзеямі, акрамя чыста выпадковага супадзення месяца, у якім яны (з разбежкай у два дзесяцігоддзі) адбыліся, і той малаістотнай акалічнасці, што абедзве яны здарыліся ў Мінску? Схільныя дзяліць шматаблічны, супярэчлівы, але пры ўсім тым цэласны паток гісторыі на нібыта несудакранальныя плыні, адасобленыя адна ад адной непрабівальнай барыкадай, мы і памянёныя юбілеі гатовы развесці па розныя бакі гэтай, не вельмі арганічнай для цывілізаванага грамадства, канструкцыі.***

***Але часам усяго адна, нават досыць трывіяльная архіўная знаходка можа пахіснуць, здавалася б, наглуха ўманціраваныя ў свядомасць уяўленні пра мінулае — такой магутнай сілай валодаюць гістарычныя першакрыніцы!***

# Быў гатовы дапамагаць...

## ПЕРШЫ З'ЕЗД РСДРП І ЎТВАРЭННЕ БНР ЯК ВЕХІ ЖЫЦЦЯ АДНАГА МАСОНА

...Перада мной — невялічкага фармату паштоўка, што захавалася сярод дакументаў Рады БНР. У левым верхнім рагу аддрукавана маркіроўка на рускай мове: "Присяжный поверенный Казимир Адамович Петрусевич. Минск губернский". Далей ад рукі — дата, адрасат і кароценькае паведамленне для яго (усё па-беларуску): "2/IX. 1918. Юрыдычная камісія Беларускай Рады. Працаваць у Юрыдычнай камісіі згаджаюся. Прашу паведаміць, калі будзе паседжанне. Каз. Петрусевіч".

Тыя, каму ў савецкія часы давялося дзяўбсці казённа-прэсную мешанку пад назвай "гісторыя КПСС", магчыма, прыгадаюць, што сярод дзевяці маладых людзей (сярэдні іх узрост складаў 28 гадоў), якія на пачатку сакавіка 1898 г. з'ехаліся ў Мінск, каб закласці арганізацыйныя асновы расійскай сацыял-дэмакратыі, быў і дэлегат з такім тыпова беларускім прозвішчам — К. Петрусевіч. Як бачым, нечаканая вымалёўваецца сітуацыя: адзін з заснавальнікаў арганізацыі-монстра, якая на працягу ўсёй сваёй гісторыі пад маркай "сацыялістычнага інтэрнацыяналізму" агрэсіўна насаджала нацыянальны нігілізм, рэпрэсіямі і дэмагогіяй старалася вытравіць любыя праявы "нацыяналізму" і "сепаратызму", гатовы супрацоўнічаць з самым зацятым "нацыяналістычным гняздом" — Радай Беларускай Народнай Рэспублікі!

Але ці адна гэта асоба — удзельнік Першага з'езда РСДРП і аўтар паштоўкі ў Раду БНР? Пытанне лагічнае, тым больш, што на з'езд сацыял-дэмакратаў К. Петрусевіч быў дэлегаваны не з Беларусі, а з горада Екацярынаслава (цяпер Днепрапятроўск на Украіне) тамтэйшым "Саюзам барацьбы за вызваленне рабочага класа". Сумненні пачнуць рассейвацца, калі даведаемся, што екацярынаслаўскі дэлегат — сын арандатара невялікага фальварка каля в. Душава Слуцкага павета (цяпер гэта Капыльскі раён). Там у 1872 годзе і нарадзіўся Казімір.

Дарэчы, савецкімі гісторыкамі беларускае паходжанне аднаго з дэлегатаў Першага з'езда РСДРП хоць і не ўтойвалася (пра гэта маглі, напрыклад, паведаміць наведвальнікам дома-музея з'езда), але і не афішавалася; нават у спецыяльных публікацыях беларускіх аўтараў пра з'езд сувязь Петрусевіча з Беларуссю (як і тое, што яшчэ адзін дэлегат — Н. А. Вігдорчык — быў родам з Мінска), звычайна абміналася маўчаннем. Між тым з беларускай зямлёй К. Петрусевіч звязаны не толькі фактам нараджэння, але і іншымі вехамі свайго неспакойнага жыцця.

У прамысловы ж Екацярынаслаў ён трапіў праз універсітэцкі Кіеў, дзе скончыў юрыдычны факультэт і пачаў працаваць адвакатам. Яшчэ з хлапечых гадоў абудзілася ў ім пачуццё пратэсту супраць несправядлівых сацыяльных адносін, імперскага ўціску над нярускімі народамі. Непрызнанне царскім рэжымам нацыянальнай самастойнасці беларускага этнасу мела, апроч іншага, і тое наступства, што частка беларусаў-католікаў, адчуваючы чужароднасць вялікарускай праваслаўнай стыхіі, ідэнтыфікавала сябе з палякамі ды далучалася да польскага вызваленчага руху. Якраз такой духоўнай арыентацыяй прадвызначылася ментальнасць і лучака Петрусевіча. Адначасова ён шчыра захапіўся чарговым навамодным павевам з Еўропы — марксісцкім вучэннем, якое авалодала тады розумамі шмат каго з сумленных дзейсных натур, гатовых да самаахвярнай барацьбы за ідэалы дабра і справядлівасці. Усё гэта прывяло К. Петрусевіча падчас вучобы ў Кіеўскім універсітэце ў "польскія" сацыялістычныя гурткі, дзе, аднак, пераважалі не ўраджэнцы Польшчы, а выхадцы з каталіцкіх сем'яў Літвы, Беларусі і Украіны.

Хутка ён здабыў у рэвалюцыйным падполлі Кіева высокі аўтарытэт і вылучыўся на першыя ролі. Вось якім запомніўся наш зямляк аднаму з яго тагачасных паплечнікаў: "Пахмурны, маўклівы, па знешнім абліччы тыповы прадстаўнік беларускага племя, паляк па культуры, Петрусевіч здаваўся толькі на першы погляд нелюдзімым і непрыветлівым чалавекам. На справе гэта быў найцудоўнейшай, найдабрэйшай душы чалавек [...]. Ён быў найлепшым тэарэтыкам польскай сацыял-дэмакратычнай групы і, вызначаючыся рэдкай настолівасцю і працаздольнасцю, умудраўся пасля дзённай беганіны па рэвалюцыйных справах праседжваць цэлыя ночы за кнігай. Ён быў добрым спецыялістам-юрыстам і ў той жа час найадукаванейшым марксістам".

К. Петрусевіч стаў адным з ініцыятараў аб'яднання "польскай" сацыял-дэмакратычнай групы з такой жа "рускай" групай у адзін "Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа". За арганізацыю ў 1897 г. студэнцкай дэманстрацыі ўлады арыштоўваюць маладога рэвалюцыянера і пасля 5-месячнага зняволення высылаюць з Кіева з забаронай пасяляцца ва універсітэцкіх гарадах. Тады па ўзгадненні з кіеўскім "Саюзам барацьбы" К. Петрусевіч і накіроўваецца ў Екацярынаслаў, аб'ядноўвае там мясцовыя сацыял-дэмакратычныя гурткі ў аналагічны "Саюз барацьбы", які і пасылае яго на І з'езд РСДРП.

Гісторыкі не могуць сёння дэталёва ўзнавіць усё, што адбывалася на працягу трох сакавіцкіх дзён 1898 года ў кватэры мінскага чыгуначнага службоўца П. Румянцава: пратаколы з'езда па меркаваннях канспірацыі не вяліся. Вядома, аднак, што ўжо тады, у момант нараджэння будучай "кіруючай і накіроўваючай", у цэнтры дыскусіі апынулася праблема — на якіх арганізацыйных прынцыпах павінна будавацца сацыял-дэмакратычная партыя велізарнай шматнацыянальнай краіны; як размеркаваць паўнамоцтвы паміж цэнтральнымі органамі і перыферыйнымі камітэтамі; як ладзіць узаемаадносіны з іншымі, у тым ліку нацыянальнымі рэвалюцыйнымі арганізацыямі. Якраз па гэтых пытаннях шмат выказваўся дэлегат з Екацярынаслава, 26-гадовы "беларус польскай культуры" К. Петрусевіч. І з'езд прыслухаўся да яго прапаноў, прыняўшы ўзважаныя рашэнні, якія не дапускалі ўшчамлення правоў мясцовых арганізацый. (Жорсткі дыктат цэнтра будзе навязаны партыі У. Леніным пазней, на наступных з'ездах). Адной з праграмных пазіцый расійскай сацыял-дэмакратыі было абвешчана права нацыі на самавызначэнне. Ён жа, К. Петрусевіч, прапанаваў называць партыю "расійскай" (а не "рускай"), што падкрэслівала яе шматнацыянальны характар.

Практычна ніхто з дэлегатаў І з'езда РСДРП не выбіўся затым у лідэры заснаванай імі партыі. Неўзабаве пасля з'езда большая іх частка, у тым ліку К. Петрусевіч, была арыштавана, некаторыя потым спынілі палітычную дзейнасць. Да кіраўніцтва расійскай сацыял-дэмакратыяй прыйшлі іншыя людзі, шмат у чым з іншымі поглядамі...

К. Петрусевічу давялося перажыць двухгадовае зняволенне ў турме і чатырохгадовую ссылку ў Сольвычагодск Валагодскай губерні (цяпер Архангельская вобласць). Мабыць, там, у расійскай глушы, адчулася туга па родным краі, і пасля сканчэння ў 1904 г. тэрміну пакарання ён надоўга знаходзіць прыстанак бліжэй да бацькоўскага кута — у губернскім горадзе Мінску.

Тут перакананы праціўнік самадзяржаўя, выдатны юрыст К. Петрусевіч прама ці ўскосна судакранецца з такімі драматычнымі паваротамі айчыннай гісторыі, як рэвалюцыя 1905—1907 гг., першая сусветная вайна, падзенне царызму ў 1917-м і наступная ахлакратычная смута, спарадзіўшая пачварны выскал бальшавіцкай дыктатуры, нямецкая і польская акупацыі. Усплескі надзей на прарыў да больш цывілізаваных форм жыцця будуць змяняцца горкімі расчараваннямі ад няздольнасці велізарнай расійскай супердзяржавы, што даўно перасягнула аптымальныя для эфектыўнага кіравання памеры, функцыянаваць у дэмакратычным рэжыме.

У адзін з такіх перыядаў грамадскай апатыі — пасля разгрому першай расійскай рэвалюцыі — у біяграфіі былога дэлегата І з'езда РСДРП завяжацца яшчэ адна нечаканая і амаль зусім невядомая нам сюжэтная лінія: К. Петрусевіч стане масонам.

Тэма масонства як вельмі своеасаблівага гістарычнага феномена ахутана заслонай таямнічасці, вакол яе нагрувашчана мноства домыслаў і небыліц, часцяком далёка не бяскрыўдных у палітычных адносінах. Аб'ектыўныя даследчыкі бачаць у масонстве рэлігійна-філасофскую і палітычную плынь, найбольш агульнай мэтай якой з'яўляецца дасягненне ўсім чалавецтвам свабоды, роўнасці і братэрства, царства ісціны і любові, "зямнога раю" шляхам маральнага, фізічнага і інтэлектуальнага ўдасканалення кожнага чалавека (гл. маскоўскі часопіс "Кентавр", 1995, N 4, с. 101). Найбольшае распаўсюджанне масонства атрымлівае ў крызісныя моманты гісторыі. У такі менавіта час, ва ўмовах разгулу чарнасоценнай рэакцыі, спачатку ў Маскве, Пецярбурзе і Варшаве, а затым у Адэсе, Ніжнім Ноўгарадзе, Кіеве, Вільні, Тыфлісе і іншых гарадах імперыі Раманавых (бадай, адзінай з еўрапейскіх дзяржаў, дзе масонства было афіцыйна забаронена) узнікаюць патаемныя ложы "вольных муляраў". Недзе каля 1910 года такая ложа заснавалася і ў Мінску. У масонскія арганізацыі ўступалі прадстаўнікі ліберальнай і сацыялістычнай апазіцыі царызму, якія зняверыліся ў выніковасці рэвалюцыйнага (г. зн. гвалтоўнага) метаду вырашэння праблем і шукалі іншыя шляхі трансфармацыі грамадства ў дэмакратычна-прававым накірунку пад знакам гуманізму і талерантнасці. У пошуках выйсця з ідэйнага тупіка ў мінскую масонскую ложу ўступіў і К. Петрусевіч.

Тым часам спадзяванні выпрацаваць у рамках масонскага руху рэцэпт для ўзгаднення неверагодна шматстайных класавых, палітычных, нацыянальных інтарэсаў розных сацыяльных груп і народаў Расійскай імперыі з'яўляліся высакароднай, але малаажыццявімай марай. У 1912 г. на чарговым "канвенце" (з'ездзе) "вольных муляраў" у Маскве (ад мінскай ложы там прысутнічаў нехта Іван Іванавіч; падобна, гэта быў калега Петрусевіча па карпарацыі адвакатаў, таксама вядомы ў Мінску грамадскі дзеяч І. Мятлін) разгарэлася выключна вострая спрэчка паміж рускімі дэлегатамі — прыхільнікамі унітарнай будовы Расійскай дзяржавы, і лідэрам украінскага нацыянальнага руху М. Грушэўскім, які выступаў за дэцэнтралізацыю на аснове нацыянальнай дзяржаўнасці народаў. Кіраўніцтва афармленага тады агульнарасійскага аб'яднання масонаў "Вялікі Усход народаў Расіі" ("Усход" у масонскай рыторыцы азначае "мудрасць") свядома намагалася ўкараніць на ключавыя ролі ў ложах перакананых цэнтралістаў і выцесніць адтуль аднадумцаў Грушэўскага. Такая вось талерантнасць і ўзгадненне інтарэсаў...

Пражываючы ў Мінску — адным з цэнтраў беларускага Адраджэння, дзе падчас рэвалюцыі 1917 года і ў наступны перыяд пачалі закладвацца асновы нашай сучаснай дзяржаўнасці, К. Петрусевіч не мог не выявіць сваёй пазіцыі адносна дадзенай гістарычнай з'явы. Пазіцыя гэтая не выглядала дастаткова акрэсленай, яго патэнцыяльны шлях да Беларусі губляўся ў зарасніках сумненняў. Прышчэпленая некалі яшчэ ў дзяцінстве польская ідэнтыфікацыя так і не дазволіла яму да канца жыцця зрабіць адназначны выбар на карысць беларускай ідэі. Падчас сацыяльных узрушэнняў 1917—1920 гг. К. Петрусевіч зноў прымкнуў да польскіх грамадска-палітычных арганізацый.

Але пры ўсім тым яго ніколі не праймаў хваравіты комплекс беларусафобіі. Наадварот, беларускі нацыянальны рух выклікаў у К. Петрусевіча шчырую зацікаўленасць і спагаду. Як адвакат, ён неаднаразова выступаў на судовых працэсах абаронцам беларускіх дзеячаў: у 1908 г. — Якуба Коласа (прыцягнутага да адказнасці за ўдзел у вядомым з'ездзе настаўнікаў у Мікалаеўшчыне), у 1917 г. — Язэпа Мамонькі. Пазней, пераехаўшы ў Заходнюю Беларусь, К. Петрусевіч узяў у 1928 г. удзел у гучным працэсе па справе Беларускай сялянска-работніцкай грамады і дабіўся апраўдання ўсіх сваіх падабаронных, у прыватнасці, Антона Луцкевіча; у 1934 г. абараняў Максіма Танка.

Наперакор неўтаймоўнай да сёння пошасці, ніякай алергіі не наганяла на яго беларуская мова: К. Петрусевіч яе ведаў, лічыў цалкам прыдатнай для абслугоўвання розных бакоў сучаснага жыцця і ахвотна карыстаўся. У красавіку 1917 г. на з'ездзе сялян Мінскай і Віленскай губерняў ветэран расійскай сацыял-дэмакратыі, не зважаючы на раздражненне старшыні з'езда бальшавіка М. Фрунзе, выступіў па-беларуску, у чым, дарэчы, здабыў падтрымку другога ветэрана рэвалюцыйнага руху — старога народніка А. Бонч-Асмалоўскага. Трэба думаць, не без удзелу К. Петрусевіча мінскія адвакаты вырашылі ў тыя ж рэвалюцыйныя месяцы прачытаць цыкл папулярных лекцый аб Устаноўчым сходзе і па-беларуску, а мінскія польскія арганізацыі — выкарыстаць беларускую мову (поруч з польскай) ва ўрачыстасцях у дзень гадавіны Канстытуцыі 3 мая 1791 года.

У гэты шэраг фактаў натуральна ўпісваецца і выказаная ў працытаванай вышэй паштоўцы гатоўнасць К. Петрусевіча дапамагчы заснавальнікам Беларускай Народнай Рэспублікі ў справе стварэння яе заканадаўчай базы.

Свой погляд на беларускае пытанне былы дэлегат І з'езда РСДРП публічна сфармуляваў у 1919 годзе ў прамове пры адкрыцці Мінскага акруговага суда, старшынёй якога ён быў прызначаны. Паводле яго меркавання, "край тутэйшы не мае яшчэ выразнай палітычнай фізіяноміі. [...] Усход і Захад змагаюцца між сабой за першынство культурнае і палітычнае, і гісторыя яшчэ не сказала свайго апошняга слова". У наступных выказваннях можна ўбачыць намёк на тое, які зыход гэтага гістарычнага змагання прамоўца лічыў бы найбольш справядлівым. Ён нагадаў, што "да уніі з Польшчай Вялікага Літоўска-Беларускага княства і доўгі час пры уніі судаводства ў Мінску, як і ва ўсім краі, было беларускае. Суддзі карысталіся Літоўскім Статутам, які быў не толькі напісаны па-беларуску, але і выкладзеныя ў ім законы былі беларускія". Заўважым, што гэта гаварылася ў прысутнасці прадстаўнікоў польскай акупацыйнай адміністрацыі, якім наўрад ці прыйшліся даспадобы падобныя экскурсы ў мінулае.

Калі б воля беларусаў да дзяржаўнай самастойнасці не аказалася такой кволай, і Беларуская Народная Рэспубліка не была б распалавінена прагавітымі суседзямі, — К. Петрусевіч мог бы стаць адным з самых лаяльных і паважаных яе грамадзян.

Аднак гісторыя распарадзілася па-іншаму. З нарастаннем пагрозы ўсталявання ў Мінску бальшавіцкіх парадкаў К. Петрусевіч назаўсёды адсюль выязджае, каб прысвяціць астатні трыццацігадовы кавалак жыцця служэнню Фемідзе ў адроджанай Польшчы. Пражываючы на пачатку 1920-х гадоў у Варшаве, ён аддасць яшчэ некаторую даніну сваім масонскім захапленням, будзе падтрымліваць стасункі з тамтэйшымі "вольнымі мулярамі". Нязменнымі застануцца яго сімпатыі да Беларусі. Відавочна, дзякуючы ўсведамленню самабытнасці роднага краю, ён падтрымае ідэю аўтаноміі беларускіх земель у складзе Польскай дзяржавы (гэтаму, аднак, запрацівяцца яе валадары). Магчыма, непазбыўнае пачуццё лучнасці з краем пакліча яго неўзабаве перасяліцца ў Вільню — некаранаваную сталіцу Заходняй Беларусі, адкуль ён зноў пераедзе ў Варшаву толькі пасля другой сусветнай вайны, за некалькі гадоў да сканчэння сваёй зямной дарогі.

Уся гэтая дарога, якая цудадзейна звязала ў адзін ланцужок два сёлетнія юбілеі, была пройдзена ім годна. На ўсіх гістарычных перавалах наш зямляк заставаўся на баку тых, хто клікаў наперад, а не цягнуў назад, і заўсёды ён стараўся аблегчыць долю тых, хто зведваў ганенні. Можна толькі пашкадаваць, што высокі прафесіяналізм і незвычайная грамадзянская энергія сына беларускай зямлі К. Петрусевіча — і не аднаго яго! — знайшлі лепшае прымяненне ў суседняй дзяржаве, чым на Бацькаўшчыне.

**Станіслаў РУДОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук**

## Да юбілею Малевіча



**120-годдзе з дня нараджэння Казіміра Малевіча былі прымеркаваны ўрачыстасці, што прайшлі ў Віцебску.**

**У выставачнай зале музея Марка Шагала была адкрыта выстава лепшых работ членаў віцебскага творчага аб'яднання "Квадрат". Адтуль віцебскія авангардысты і прыхільнікі творчасці Казіміра Малевіча прайшлі памятным шэсцем да мастацкага музея.**

**У музеі таксама была адкрыта выстава, прагучала шмат слоў пра багатую творчую спадчыну Малевіча. Пасля заканчэння вечара спадчыннікі творчасці Казіміра Малевіча частавалі ўсіх прысутных унікальным па памерах — метр на метр — тортам.**

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## І лекар, і мастак



**Ва ўрача-тэрапеўта з Ганцавіцкай раённай бальніцы Марыны Рылко ў сям'і ўсе ўрачы: маці і бацька, брат і сястра. Але тут любяць песню і музыку, добрую кнігу, не супраць пабываць у музеі, на выстаўцы. Таму, відаць, Марына яшчэ ў школьныя гады магла простым алоўкам зрабіць ілюстрацыю да прачытанага, дакладна намаляваць партрэт сяброўкі.**

**Мінулай восенню Марына паспрабавала пісаць алеем. Работы невялікія, але прывабныя. Асабліва ўдаюцца пейзажы. Пакуль невялікую калекцыю ўрача ацанілі блізкія, сябры, таварышы па рабоце.**

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

## Запрашае кінатэатр "Змена"

**Сталічны кінатэатр "Змена" працягвае добрую традыцыю паказаў фільмаў, якія тычацца нацыянальнай гісторыі, знаёмяць са знакамітымі людзьмі Бацькаўшчыны.**

**На бліжэйшыя дні запланаваны прагляд дакументальных стужак, створаных у кінааб'яднанні "Летапіс" — "Паланез для касінераў", "Жывi ў свабодзе", "Дыярыуш Навагрудскі", героямі якіх з'яўляюцца Тадэвуш Касцюшка, Кастусь Каліноўскі, Адам Міцкевіч. Пачатак сеансаў: 25 сакавіка — у 14 гадз. 30 мін., 27-га — у 18 гадз., 29-га — у 16 гадз. 40 мін. У час сеанса, які адбудзецца 25 сакавіка, пройдзе сустрэча са стваральнікамі гэтых фільмаў Рычардам Ясінскім, Уладзімірам Халіпам і Львом Слобіным.**

**28 сакавіка ў 18 гадз. "Змена" запрашае ў музычна-паэтычную гасцёўню "Эскіз" на канцэртную праграму Мілы Скарняковай "У сакважы маім". Дэманструецца дакументальны фільм аб'яднання "Летапіс" "Адам і Марыля".**

**29 сакавіка ў 12 гадз. можна паглядзець стужку кінастудыі "Беларусьфільм" "Птушкі без гнёздаў". На сустрэчу з гледачамі прыйдуць кінарэжысёр Віталь Дудзін, выканаўца ролі Ларысы Геніюш Таццяна Кавалеўская, пісьменніца Вольга Іпатава.**

ГЭТА БЫЛО

# Галоўнае — незалежнасць!

### ЗАБЫТАЯ СТАРОНКА З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

Увосень 1920 г. лёс Беларусі апынуўся нібы ў фокусе процістаяння дзвюх супрацьлеглых палітычных сіл. З аднаго боку, як і раней, не была знята пагроза польскай інтэрвенцыі. Пасля рэваншу пад Варшавай польскія войскі зноў увarваліся ў рэспубліку і захапілі значную частку яе тэрыторыі. Калі яшчэ ў канцы верасня органы Савецкай улады функцыянавалі ў 19-ці паветах, дык у кастрычніку яны засталіся толькі ў 6-ці і ў Мінску. Для Польшчы цяпер было важна на прэлімінарных перагаворах аб міры, якія пачаліся ў Рызе, як наймацней зацвердзіць атрыманую перамогу.

З другога боку, Савецкай Расіі патрэбна было любымі сродкамі дабіцца заключэння мірнага дагавора, каб утрымаць і замацаваць сваю ўладу. Апошнія акалічнасці абумовілі шэраг уступак, у тым ліку захаванне за Польшчай заходнебеларускіх земель. Пасля гэтага ў складзе Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь (ССРБ) — так у той час называлася Беларуская рэспубліка — засталося толькі 6 паветаў былой Мінскай губерні з насельніцтвам у 1,2 млн. чалавек. Спробы старшыні Белрэўкома Аляксандра Чарвякова, падтрыманыя сакратаром Цэнтральнага бюро КП(б)Б Вільгельмам Кнорыным, паставіць у Маскве пытанне аб вяртанні ў склад ССРБ Віцебскай і Гомельскай губерняў, якія ў ходзе грамадзянскай вайны адышлі да РСФСР, поспеху не мелі. Як тлумачыў "тэрытарыяльнае пытанне" ў запісцы ў ЦК РКП(б) ад 6 лістапада 1920г. нарком замежных спраў РСФСР Георгій Чычэрын, "мы яшчэ не ведаем, праз якія перыпетыі можа прайсці лёс Беларусі і павялічыць загадзя тую тэрыторыю, якая праз гэтыя перыпетыі будзе праходзіць, было б вельмі неасцярожна". ЦБ КП(б)Б 11 лістапада было вымушана канстатаваць: "лічыць неабходным існаванне Савецкай Рэспублікі Беларусь у яе цяперашніх межах. Пытанне аб пашырэнні тэрыторыі Беларусі лічыць несвоечасовым".

У сярэдзіне снежня 1920 г. папярэднія ўмовы міру з Польшчай ратыфікаваў II Усебеларускі з'езд Саветаў. Ён прыняў дадаткі да Канстытуцыі ССРБ, паводле якіх Беларусь была як быццам незалежнай рэспублікай і адначасова састаўной часткай РСФСР. Усе яе органы ў галіне агульных мерапрыемстваў павінны былі падпарадкоўвацца адпаведным расійскім камісарыятам. Поўная свабода захоўвалася толькі ў галіне вырашэння пытанняў мясцовага жыцця, у якіх яны кіраваліся рашэннямі ЦВК і СНК Беларусі. Гэта азначала, што абвешчаная ў другі раз у ліпені 1920 г. незалежнасць на справе аказалася ўрэзанай, а ваенна-палітычнае становішча няўстойлівым, бо тэрыторыя рэспублікі і пасля папярэдняга мірнага дагавора заставалася зонай ваенных дзеянняў. Да таго ж, пачалося Слуцкае паўстанне, эсэраўскае кіраўніцтва якога абвясціла Случчыну тэрыторыяй Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). Ваенная няўстойлівасць узмацнялася і ў сувязі з прарывам на Беларусь так званай "рускай вызваленчай арміі" на чале з генералам Булак-Балаховічам, падтрыманай польскімі ўладамі.

У крызіснай сітуацыі, што склалася ў выніку эканамічнага бязладдзя, калі рэальнасць набыла пытанне наогул аб далейшым існаванні рэспублікі, яе партыйна-дзяржаўнае кіраўніцтва не бачыла іншага выйсця, як выконваць усё тое, што зыходзіла ад ЦК РКП(б). У той час яго складалі ў пераважнай большасці людзі, закінутыя сюды вайной з розных рэгіёнаў Расіі. Захопленыя ідэяй сусветнай пралетарскай рэвалюцыі, яны падыходзілі да прынцыпаў інтэрнацыяналізму са спрошчаных, аднабаковых пазіцый і не маглі правільна зразумець патрэбы беларускага насельніцтва. Былыя работнікі Аблвыканкамзаха, якія па-ранейшаму трымалі ў сваіх руках кірую-

# Зварот

### КОВЕНСКАЙ ПРЫВАТНАЙ НАРАДЫ БЕЛАРУСКІХ САЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ ДЗЕЯЧАЎ

Сабраўшыся 30 снежня 1920 года на прыватную нараду беларускіх сацыялістычных дзеячаў, якія належаць да партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, камуністаў, сацыял-дэмакратаў, сацыялістаў-федэралістаў, мы, пасля ўсебаковага высвятлення сённяшняй дзяржаўна-палітычнай сітуацыі для працоўных мас беларускага народа, адзінагалосна пастанавілі звярнуцца да ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі, Беларускага Рэўкома, у III Інтэрнацыянал, у Цэнтральны камітэт партыі беларускіх эсэраў, ЦК беларускіх камуністаў, ЦК СД, ЦК СФ з наступным:

Сацыяльная сусветная рэвалюцыя, якая пачата і ўмацоўваецца працоўнымі масамі Расіі і якая напісала на сваім сцягу вялікі лозунг "Вызваленне працоўных усіх прыгнечаных народаў", уваскрэсіла да жыцця волю 12-мільённага беларускага народа да свабоднага нацыянальнага незалежнага існавання. Воля гэта была выказана прадстаўнікамі працоўнага народа — Радай Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 года — абвяшчэннем незалежнасці і суверэннасці БНР у яе этнаграфічных межах і разрыву дзяржаўных сувязей з Савецкай Расіяй. Усерасійскі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт сваёй дэкларацыяй ад 23 верасня 1920 г. прызнаў гэта волевыяўленне беларускага працоўнага народа правамоцным і законным.

Поўнае разняволенне беларускага народа ўскладнілася тымі абставінамі, што на працягу некалькіх апошніх стагоддзяў беларусы былі калоніяй польскага і расійскага капіталу, які прыгнятаў беларускую культуру і самасвядомасць і да апошняга часу перашкаджае сацыяльна-дзяржаўнаму будаўніцтву Беларусі. Апошнія падзеі на тэрыторыі Беларусі, як белагвардзейскія авантуры Савінкава, Балаховіча, Жалігоўскага і наступленне буржуазнай Польшчы, з'яўляюцца яскравым доказам гібельнага для Беларусі ўплыву польска-расійскага капіталу.

Сацыяльнае будаўніцтва і культурнае развіццё працоўных мас Беларусі магчыма толькі пры ліквідацыі ўплыву ўсіх буржуазна-капіталістычных антыбеларускіх прэтэндэнтаў і пры самастойнай дзяржаўнасці працоўнага беларускага народа. Толькі незалежнасць народа можа забяспечыць поўную свабоду развіцця ўсіх яго творчых сіл, і, узняўшы яго на вышэйшую ступень сацыяльна-палітычнага жыцця, дасць яму магчымасць, як роўнаму, уступіць у міжнародную сям'ю працоўных, прыносячы і свой уклад у сусветную культуру.

Шлях да Інтэрнацыянала для ўсіх прыгнечаных народаў, у тым ліку і для беларускага народа, ідзе праз поўную дзяржаўную незалежнасць і свабоду нацыянальнасці і праз выкараненне ўсялякіх прыгнечанняў.

Усе рускія контррэвалюцыйныя франты ліквідаваны. Заканчваецца агітацыйны перыяд барацьбы за сусветную сацыяльную рэвалюцыю, бо працоўныя масы ўсіх краін усвядомілі свае інтарэсы і толькі чакаюць ад правадыроў сацыялізму мірнага будаўніцтва як рэальнага доказу жыццёвасці сацыяльнага ладу.

Беларусь, разбураная вайной, нашэсцем Польшчы і белагвардзейскімі авантурамі савінкавых і балаховічаў, больш за ўсё мае патрэбу ў мірным сацыяльным будаўніцтве. Нармальнай хадзе гэтага будаўніцтва перашкаджае маскоўскі цэнтралізм, які жадае нацыянальна-дзяржаўныя ўтварэнні ўвагнаць у рамкі абласнога самакіраўніцтва, з чым не згодны ўсе беларускія сацыялістычныя партыі, якія адстойваюць інтарэсы беларускага працоўнага народа.

Беларускі народ, абяскроўлены сямігадовай вайной, якая вядзецца на яго тэрыторыі, маральна знясілены і разгублены ад дыяметральна-супрацьлеглых агітацый пры розных акупацыйных уладах, і, нарэшце, разарваны паводле мірнай дамовы паміж Расіяй і Польшчай на дзве часткі, цяпер чакае збаўлення ад грамадскай палітычнай разрухі і пачатку мірнага будаўніцтва.

Сацыяльнае будаўніцтва на Беларусі мае свае асаблівасці: 1) у Беларусі амаль адсутнічае фабрычна-заводскі пралетарыят; 2) няма нацыянальнай буржуазіі і 3) нацыянальна-беларуская працоўная інтэлігенцыя, чужая і варожая мясцовай польска-рускай буржуазіі, цалкам ідзе з працоўнымі сялянскімі масамі, бліжэй за ўсё стаіць да іх, карыстаецца іх даверам і больш за ўсіх зможа паспяхова праводзіць сярод гэтых мас ідэі сацыялізму. Інтарэсы адраджэння беларускага народа патрабуюць вылучыць, як пануючы клас, беларускае сялянства, узмацніць яго палітычна, эканамічна і культурна, а таму сумесная работа працоўнай беларускай інтэлігенцыі з буржуазнымі групамі немагчыма і шкодная не толькі для сацыяльнага разняволення працоўнага сялянства, але і для нацыянальнага адраджэння беларускага народа. Гэта акалічнасць з'яўляецца надзейнай гарантыяй таго, што ў Беларусі буржуазным элементам доступу да ўлады быць не можа.

Інтарэсы сацыяльнага будаўніцтва Беларусі і культурнага развіцця яе працоўных мас неадкладна вымагаюць прызнання дзяржаўнай незалежнасці і суверэннасці беларускага народа. Гэта прызнанне незалежнасці Беларускай Рэспублікі з боку Савецкага ўрада будзе мець палітычнае, гаспадарча-эканамічнае і дзяржаўна-стратэгічнае значэнне як для абедзвюх рэспублік, так і ў міжнародных адносінах.

### ПАЛІТЫЧНАЕ ЗНАЧЭННЕ

А. Для Беларускай Рэспублікі

1) Поўная незалежнасць Беларускай Рэспублікі сканцэнтруе і згуртуе ўсе рэвалюцыйныя і культурныя беларускія сілы, раз і назаўсёды прымусіць замаўчаць усе контррэвалюцыйныя групы і адкіне ўсіх няпрошаных апекуноў Беларусі.

2) Гэта прызнанне зробіць глыбокі маральна-палітычны ўплыў на беларускія народныя масы, пераканае іх у трываласці і непазбежнасці сацыяльнага ладу і абудзіць іх памагаць сваёй сялянска-рабочай уладзе ў справе мірнага будаўніцтва.

Б. Для Савецкай Расіі

1) Беларускі народ, які вызначыцца ў адносінах сваёй дзяржаўнасці, кіруемы сканцэнтраванай рэвалюцыйнай уладай і натхнёны лепшымі сацыяльнымі лозунгамі, будзе для Савецкай Рэспублікі бар'ерам, што аддзяляе капіталістычную Заходнюю Еўропу і, у прыватнасці, буржуазную Польшчу. Гэта ўзмоцніць магчымасць больш спакойнага сацыяльнага будаўніцтва ўнутры Савецкай Расіі.

2) Беларусь перастане служыць тэрыторыяй для контррэвалюцыйных фарміраванняў і выступленняў супраць Савецкай Расіі, і канчаткова будуць адрэзаны контррэвалюцыйным элементам шляхі да беларускага народа.

3) Стварэнне адзінага рэвалюцыйнага фронту Беларусі і Савецкай Расіі зробіць жаданае і моцнае маральна-палітычнае ўражанне на ўсе левыя рускія партыйныя арганізацыі і на працоўныя масы, а выказванне Савецкім урадам даверу беларускай сацыяльнай уладзе ўзмоцніць сімпатыі беларускага народа да Савецкай Расіі, у процівагу Польшчы, якая ўсімі спосабамі імкнецца гэтымі сімпатыямі завалодаць.

В. У міжнародных адносінах

1) Прызнанне суверэннай Беларусі стварае новы апорны пункт для развіцця сацыяльнай сусветнай рэвалюцыі і яе паскарэння.

2) Прызнанне аблегчыць рэвалюцыйную барацьбу з буржуазнай Польшчай, якая спрабуе выкарыстаць нацыянальную самасвядомасць народных мас Беларусі супраць Савецкай Расіі, а пры ўдалым для беларускага народа зыходзе гэтай барацьбы дыскрэдытуе шляхецкі польскі ўрад у вачах польскага пралетарыяту і тым самым паскорыць у Польшчы сацыяльную рэвалюцыю.

3) З арбіты сусветнага капіталу знікне плацдарм для новай барацьбы з Савецкай Расіяй.

4) Пачатак сацыяльнага будаўніцтва ў Беларусі, бліжэйшай да капіталістычных краін Еўропы, створыць сярод працоўных мас гэтых краін упэўненасць у рэальнасці сацыяльных праблем і будзе новым стымулам для сацыяльных выступленняў супраць сваіх буржуазных урадаў і для прыцягнення сімпатый пралетарскіх мас дзяржаў Антанты ў адносінах да Савецкай Расіі, як сапраўднай абаронцы малых народнасцяў.

### ГАСПАДАРЧА-ЭКАНАМІЧНАЕ ЗНАЧЭННЕ

А. Для Беларускай Рэспублікі

1) Прызнанне незалежнасці Беларусі ўнясе палітычнае супакаенне ў масы і абудзіць іх да мірнага будаўніцтва, да стваральнай спакойнай працы.

2) Дасць краіне магутны дзяржаўны апарат, які зможа ажыццяўляць сацыяльна-эканамічныя рэформы.

3) Створаны дзяржаўны апарат і ўстойлівае дзяржаўна-палітычнае становішча аблегчыць гандлёва-эканамічныя адносіны з прамысловымі краінамі Захаду і дазволіць аднавіць разбураныя транспарт, прамысловасць і сельскую гаспадарку.

Б. Для Савецкай Расіі прызнанне выключыць для Савецкага ўрада неабходнасць удзяляць шмат клопатаў па аднаўленні разбуранага беларускага краю.

чыя пасады, усяляк імкнуліся пазбавіцца ад беларусаў-камуністаў.

Крызісную ваенна-палітычную сітуацыю спрабаваў выкарыстаць у сваіх інтарэсах урад Беларускай Народнай Рэспублікі, які знаходзіўся ў Коўне. Яго прэм'ер Вацлаў Ластоўскі ў вырашэнні "беларускага пытання" імкнуўся абаперціся на краіны Антанты, спадзеючыся на разуменне імі ўсіх складанасцей праблемы. Нечакана ён прапанаваў Юзафу Пілсудскаму ідэю "адзінага фронту" супраць бальшавікоў і Саветаў на ўмовах прызнання незалежнасці беларускай дзяржавы ў федэрацыі з Польшчай. Той, выказаўшы згоду, стварыў у Варшаве свой "беларускі ўрад", але... без Ластоўскага. У пачатку лістапада 1920 г. гэты "ўрад" выехаў у Вільню. Адсюль меў намер перабрацца ў Мінск, дзе, у выпадку, як чакалася, хуткага захопу яго палякамі, меркаваў абвясціць сваю дэкларацыю.

У адказ ЦК Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р) заявіў аб разрыве з урадам БНР, які лічыўся эсэраўскім. Не ўвайшлі эсэры і ў Белрэўком, парваўшы тым самым кампраміс, дасягнуты з КП(б)Б у час сумеснай падпольнай і партызанскай барацьбы супраць польскай акупацыі. Зыходзячы з ідэі "незалежнай Беларускай працоўнай сацыялістычнай рэспублікі", эсэры не прызналі ўмоў рыжскага пагаднення. Яны адстойвалі шматпартыйнасць, пры якой былі б з камуністамі на роўных, у аснову сацыяльных пераўтварэнняў клалі прынцып каапеlравання.

На такім палітычным фоне яшчэ адзін погляд на шляхі выхаду з крызіснай сітуацыі быў выказаны ў звароце групы прадстаўнікоў беларускіх сацыялістычных партый, які быў прыняты на прыватнай нарадзе ў Коўне 30 снежня 1920 г. Занепакоеныя лёсам Беларусі, яе ўдзельнікі звярталіся да ўрада БНР, у Белрэўком, у кіруючыя органы палітычных партый, якія прадстаўлялі сацыялістычны і камуністычны рух, з просьбай садзейнічаць у паскарэнні перагавораў аб прызнанні, нарэшце, незалежнасці і суверэннасці Беларускай Рэспублікі. Складальнікі звароту, і ў гэтым яго асаблівасць, зрабілі спробу адысці ад эмацыянальна-заклікавага падыходу і высветліць праблему незалежнасці ў палітычным, гаспадарча-эканамічным і дзяржаўна-стратэгічным аспектах, з улікам выгод, якія незалежнасць дае як Беларусі, так і Савецкай Расіі. Другая асаблівасць — імкненне разглядаць праблему ў кантэксце рэалій часу, перш за ўсё — незакончанай вайны з Польшчай, а таксама на падставе сацыялістычнай арыентаванасці сваёй і тых, да каго ўдзельнікі сходу звярталіся. Наогул кажучы, гэта было жаданне прапанаваць кампрамісную альтэрнатыву для кансалідацыі нацыянальных сіл сацыялістычнага накірунку, згуртаваць іх на платформе барацьбы за незалежнасць Беларусі.

Сёння мы бачым, што для аўтараў звароту поезд ужо адышоў, і наіўна было разлічваць, што Расія, як і Польшча, аддадуць каму б там ні было свае заваёвы. Тым не менш, і гэты зварот — частка нашай складанай і супярэчлівай гісторыі, адна з нерэалізаваных сацыяльных альтэрнатыў. Азнаёміцца з ёю будзе цікава як для спецыялістаў, так і для масавага чытача.

## ДЗЯРЖАЎНА-СТРАТЭГІЧНАЕ ЗНАЧЭННЕ

1) Прызнанне Беларусі знішчыць палітычную неўраўнаважанасць працоўных мас, супакоіць іх і спыніць усе спробы да паўстанцкай дзейнасці ва Усходняй Беларусі.

2) У заходняй частцы Беларусі, пры новым становішчы рэчаў, могуць быць выкарыстаны сімпатыі беларускага насельніцтва, бо яму стане ясна, што аб'яднанню і адраджэнню незалежнай Беларусі перашкаджае толькі буржуазная Польшча, а сацыяльныя супярэчнасці створаць спрыяльныя ўмовы для праяўлення незадавальнення ў шырокіх памерах і прымусяць Польшчу адмовіцца ад Заходняй Беларусі.

3) Прызнанне незалежнасці Беларусі палепшыць адносіны да Савецкай Расіі Прыбалтыйскіх рэспублік (гэтых ахоўнікаў гандлёва-эканамічных шляхоў у Савецкую Расію) і паслужыць доказам добразычлівых адносін Савецкай Расіі да нацыянальных памкненняў народаў і супакоіць гэтыя дзяржавы за іх дзяржаўна-нацыянальную будучыню.

4) Будзе больш паспяховым фарміраванне беларускай сялянска-рабочай арміі, якая ўсведамляе неабходнасць стойка абараняць сваю маладую рэспубліку і ўсе сацыяльныя заваёвы. Гэта дасць магчымасць Савецкаму ўраду спакойна зняць войскі з Заходняга фронту.

5) Раз назаўсёды знішчаецца для контррэвалюцыйных фарміраванняў і выступленняў супраць Савецкай Расіі плацдарм, якім магла дагэтуль служыць Беларусь.

Узважыўшы сапраўдную сітуацыю Беларусі, мы звяртаемся з просьбай да ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі і да Беларускага Рэвалюцыйнага Выканаўчага Камітэта магчыма хутчэй звярнуцца да ўрада Расійскай Сацыялістычнай Федэратыўнай Савецкай Рэспублікі для канчатковага вырашэння пытання беларускай дзяржаўнасці і прапанаваць Савецкаму ўраду пачаць адпаведныя перамовы.

Паводле рыжскага прэлімінарнага дагавора Савецкай Расіі з Польшчай беларускі народ разарваны на дзве часткі, прычым Заходняя Беларусь пакінута на волю лёсу польскага белага тэрору, а ўсходняя яе частка, якая іграе ролю Паўночна-заходняй вобласці Расіі, пастаўлена ў невыноснае, залежнае ад Польшчы, эканамічнае становішча, бо самыя галоўныя — паўночна-заходнія гандлёва-эканамічныя шляхі Беларусі перарэзаны польскімі захопнікамі. Беларускі народ ніколі не змірыцца з такім становішчам і па меры сіл і магчымасці будзе весці барацьбу за сваю поўную палітычную і дзяржаўную самастойнасць.

Беларускі працоўны народ, які адчуў на сабе ўсе жахі і цяжар барацьбы працоўных з наёмнікамі сусветнага капіталу, мае права разлічваць на спачуванне і падтрымку з боку Савецкай Расіі ў яго справядлівых дамаганнях і на абарону агульначалавечых і дзяржаўных правоў беларускага народа. Ад Савецкай Расіі, якая прынесла ў імя сацыяльнай рэвалюцыі незлічоныя ахвяры, беларускі народ не просіць узброенай дапамогі. Беларусь не мае намеру ўцягваць Савецкую Расію ў вайну і ў будучым: Беларусь мае падставу быць упэўненай, што для паспяховага ўз'яднання падзеленых частак Беларусі больш за ўсё неабходна агітацыйная работа за незалежнасць і суверэннасць беларускага народа.

Польскі імперыялізм, які паставіў сабе нерэальныя заданні, якія перабольшваюць яго сілы, і які прывёў краіну да гаспадарча-эканамічнага краху, выклікае незадавальненне польскіх працоўных мас, што скінуць сваіх сацыяльных прыгнятальнікаў. А тады з польскім пралетарыятам беларускі працоўны народ лёгка зможа дамовіцца аб межах і размежаваць свае інтарэсы. Толькі незалежная Беларусь з'яднае ўсе рэвалюцыйныя беларускія сілы і ліквідуе польскія інтрыгі ў заходняй частцы Беларусі.

Становішча абавязвае. Урад РСФСР, які абвясціў вялікія лозунгі вызвалення прыгнечаных народаў, павінен зрабіць лагічную выснову і не абыходзіць законныя агульначалавечыя правы беларускага народа.

У імя гэтых правоў беларускага працоўнага народа на самавызначэнне, дзеля аб'яднання ўсіх рэвалюцыйных сіл гэтага народа, у імя паскарэння сусветнай сацыяльнай рэвалюцыі і вызвалення ўсіх прыгнечаных народаў мы звяртаемся ў III Інтэрнацыянал, у Цэнтральныя камітэты беларускіх партый сацыялістаў-рэвалюцыянераў і камуністаў і просім аказаць садзеянне па паскарэнні перамоў аб прызнанні незалежнасці і суверэннасці Беларускай Рэспублікі.

**Старшыня нарады Я. Мамонька**
**Сакратар А. Галавінскі**
*г. Коўна*
*30 снежня 1920 г.*

Мамонька Я. А., актыўны ўдзельнік беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху. Член партыі эсэраў у 1907—1917 гг., у 1918—1924 гг. член БПС-Р, адзін са стваральнікаў гэтай партыі. Быў дэлегатам XII арміі на III з'ездзе БСГ, выбраны ў склад яе ЦК. Член Беларускай Рады і Беларускай Цэнтральнай вайсковай Рады. Дэлегат Усебеларускага з'езда (снежань 1917 г.). У 1918—1919 гг. займаў розныя пасады ва ўрадзе БНР, уваходзіў у прэзідыум Рады БНР. На пачатку 1921 г. у Коўна імкнуўся аб'яднаць беларускія нацыянальныя сілы. У сакавіку 1921 г. арыштаваны ў Мінску, перавезены ў Маскву, у красавіку вызвалены і сасланы ў Казань. З восені таго ж года за мяжой, з 1922 г. у Празе. Удзельнічаў у Берлінскай канферэнцыі (кастрычнік 1925г.), на якой Мінск быў прызнаны адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі. Не згадзіўся з роспускам урада БНР і ў знак пратэсту пакінуў канферэнцыю.

У верасні 1928г. атрымаў візу для пераезду ў СССР. Быў арыштаваны, перавезены ў Маскву і на пачатку студзеня 1929г. асуджаны на 10 гадоў канцлагераў. У верасні 1937 г. асуджаны да вышэйшай меры пакарання і расстраляны. Рэабілітаваны ў 1989 і 1993 гг.

Галавінскі А. К., удзельнік беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху. У 1918 г. прадстаўнік урада БНР на Украіне. З 1920г. жыў у Літве і Латвіі, працаваў у беларускіх нацыянальных арганізацыях. Прымаў удзел у берлінскай канферэнцыі 1925 г. Арыштоўваўся літоўскімі ўладамі, якія прапанавалі яму пакінуць Літву і выехаць у БССР. З 1927г. у Мінску. Працаваў загадчыкам праектна-тэхналагічнага бюро ВСНГ Беларусі, затым у НДУ прамысловасці. У ліпені 1930г. арыштаваны ў сувязі са сфабрыкаванай справай "Саюза вызвалення Беларусі" (СВБ). У красавіку 1931г. сасланы на 5 год. Рэабілітаваны ў 1988 г.

**Расціслаў ПЛАТОНАЎ,**
**доктар гістарычных навук**

ПАМЯЦЬ

# Бывай, маэстра...

***Ён ведаў сабе цану.***

***З самага цёплага маленства ён адчуваў на сабе знак "дынасты" — славутай акцёрскай фаміліі; бабуля, дзед, бацька і маці цалкам і назаўсёды былі адданыя тэатру, адзінаму на ўсё жыццё, Купалаўскаму. І яму было наканавана — і лёсам, і сям'ёй — падоўжыць дынастыю.***



Хто ведае, як склалася б яго жыццё, калі б, акрамя фамільнай прызначанасці, ён не быў пазначаны дарам... Да таго ж, гавораць, на дзецях талентаў прырода адпачывае: колькі таму прыкладаў — і колькі выключэнняў. Ён быў бліскучым прыкладам выключэння, і час пацвердзіў яго адоранасць, адзначанасць, абранасць...

...Многа гадоў таму на рэпетыцыі казкі "Лапці-самаскокі", якую ставіла Галіна Іванаўна Уладамірская, на авансцэне выпляскваў Саша: круціўся ваўчком, пускаўся ўпрысядкі — усё ў імклівым тэмпе, засяроджана, нават самаадд ана. Музыка гучала не для яго, рэпеціравалі з другім артыстам, але "малы Уладамірскі" не марнаваў часу, працаваў сам. У той дзень мне гэта спадабалася — і толькі. Сёння ў гэтым бачу лінію жыцця: заўсёдная праца над целам, розумам, душою.

Апошняя работа Сашы Уладамірскага была на малой сцэне Рускага тэатра — у "Вечары яўрэйскіх показак". У каторы раз можна залямантаваць: ну чаму нельга спыніць імгненне! Ёсць відэакасета, але што можа захаваць плёнка (дзякуй, што нешта захавалася!): пранікненне артыста ў самую істоту героя — і погляд на яго звонку, пяшчоту, захапленне, іронію, спагаду, боль за таго чалавека, якога сам стварыў, сам выводзіў на сцэну... Абвостраную чуйнасць у разуменні і стварэнні жанру спектакля; тонкасць, асцярожнасць дакранання да балючага — і адвага майстра, які смее і можа!

За некалькі гадоў да таго была чароўная роля Мотла ў "Памінальнай малітве" на купалаўскай сцэне. Хто бачыў у той час у спектаклі бацьку і сына Уладамірскіх, такіх падобных адзін на аднаго, такіх розных, у поўным росквіце таленту, майстэрства, адораных рэдкаснай свабодай і пачуццём сцэны, — той не забыўся. Быццам у падоўжанне "яўрэйскай тэмы" Саша сыграў свайго Рабіновіча ў "...Показках" — і ў які раз пацвердзіў сваю прыхільнасць да спалучэння жанравых плыняў. Прытым, што яму былі падуладны літаральна ўсе жанры і формы (і гэта не перабольшанне: ад лірыкі да трагедыі, ад сацыяльнай драмы — да гратэску), — яго вабіла трагікамедыя, трагіфарс, і ў іх ён быў непераўзыдзены. У "...Показках", відаць, сам "матэрыял" — трагедыя народа і ўзвышэнне над ёю сілаю духу, пранікненне ў сутнасць нацыянальнага характару і адкрыццё ў ім агульначалавечага зрабіліся адпраўным пунктам акцёрскага пошуку і акцёрскага ўзлёту.

Душа адмаўляецца паверыць, што ўсё гэта было, было і сплыло. Што не будзе новай ролі — дый тых, што спраўдзіліся, ужо не пабачым. Што спіс роляў, дзе не было ніводнай "прахадной", больш не падоўжыцца. І голас, які гучыць па радыё, — такі гнуткі, пранікнёны, цёплы, — не вымавіць больш ніводнага новага слова... У маім, сёння апусцелым, доме варта было пачуць па радыё Сашу, і Уладзімір Андрэевіч Бойка клікаў мяне — слухаць. А па заканчэнні ён, такі дасведчаны і патрабавальны ў мастацкім чытанні, кожны раз зазначаў: "Усё разумее. Усё адчувае. Усё можа. Маэстра".

Рыгор Барадулін траха не жартам, але з павагаю называў яго "Маэстра": "О, вы, маэстра, сёння ў нас чытаеце? Дык я застаюся..."

Сашу паважалі калегі і любілі партнёры, у яго была процьма сяброў, ён быў вартым сябрам і кідаўся, забыўшыся пра сябе, на дапамогу... Адзін з сяброў сёння жыве ў яго доме, клапоціцца пра Галіну Іванаўну.

Можна сказаць, ён нарадзіўся ў тэатры, у ім выхоўваўся, ім жыў. Лісты з арміі прасякнуты марамі аб ролях. У кожным радку — сляды няспыннай работы розуму, пачуццяў, душы. Пяшчота — да блізкіх, да каханай, да прыроды — і да тэатра. З цягам часу, спасцігнуўшы веліч тэатра, але і тое нізкае, што ў ім можна сустрэць, не зняверыўся, не зрынуў яго з п'едэстала... Знайшоўшы сябе і выдатна выказваючыся на радыё — другая яго прыхільнасць, на ТБ і ў кіно, тэатр лічыў галоўным для сябе. Нават цяжкая хвароба — спадарожнік многіх мастацкіх натур, нядуг, які спальваў яго ў апошнія гады, нават ён не крануў любові да тэатра. Відаць, Сашу зберагаў яго добры геній, дух-абаронца, ратуючы талент, не даючы яму загінуць.

І больш аб гэтым — ні слова.

У час пахавання над залай Купалаўскага тэатра заплакала скрыпка. За труной, у галавах, пад Сашыным партрэтам скрыпач іграў вечнае развітанне. "Ave Maria", "Кадыш" — адна за адною ліліся малітвы, жалобныя мелодыі. Скрыпка аплаквала талент, які больш не зможа асвятліць жыццё, пела пра смутак, пра вечную адзіноту — і вечны свет.

Хто ён быў, гэты скрыпач, адкуль узяўся — не ведаў ніхто.

Па тэатральнай лесвіцы, па вуліцы — пакуль сябры неслі труну — ён праводзіў яе музыкай, неапрануты, у пінжаку, такім лёгкім у студзеньскую сцюжу, з непакрытаю галавою... І ўсё іграў, іграў.

На саракавінах ён ізноў іграў — яго адшукалі. Музыкант, які калісьці юнаком, з аркестравай ямы ў Купалаўскім тэатры, дзе падзарабляў студэнтам, быў захоплены талентам "старога Улада", Барыса Уладамірскага, глядзеў усе яго спектаклі. А потым ужо і Сашавы... Толькі і ўсяго.

Ужо год. Цэлы год. Усяго год...

"Когда человек умирает — изменяются его портреты..." — напісала Ахматава. Змяняецца партрэт Аляксандра Барысавіча Уладамірскага. Ён ведаў сабе цану. Ці ўведалі яе мы? Што мы ўбачым у яго партрэце? Кожны — сваё? Даруй, Саша. Бывай, Маэстра.

**Лілія БРАНДАБОЎСКАЯ**

**Супрацоўнікі Саюза беларускіх пісьменнікаў і Дома літаратара выказваюць глыбокае спачуванне загадчыцы бібліятэкі АДАМЧЫК Наталлі Міхайлаўне ў сувязі з напаткаўшым яе горам — смерцю бацькі.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Навуму ГАЛЬПЯРОВІЧУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**

